




Максім Чарняўскі

# КАСЦЯНЫЯ І РАГАВЫЯ ВЫРАБЫ НА ПАСЕЛІШЧАХ КРЫВІНСКАГА ТАРФЯНІКУ

*неаліт — бронзавы век*



НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
Інстытут гісторыі

Максім Чарняўскі

# КАСЦЯНЫЯ І РАГАВЫЯ ВЫРАБЫ НА ПАСЕЛІШЧАХ КРЫВІНСКАГА ТАРФЯНІКУ

---

*неаліт — бронзавы век*



Мінск
«Беларуская навука»
2007

# УВОДЗІНЫ

***Каменны*** век называецца менавіта «каменным» таму, што большасць прылад працы і паляўнічай зброі першабытным чалавекам майстравалася з каменю (крэменю). На тэрыторыі Беларусі, аддаленай ад старажытных цэнтраў металургіі, крэмень працягваў выкарыстоўвацца ажно да пачатку жалезнага веку. Аднак Беларускае Паазер'е амаль цалкам пазбаўлена натуральных запасаў гэтага мінералу, што прымушала насельніцтва шукаць выйсце з існуючага становішча. Недахоп сыравіны часткова кампенсаваўся імпартам. У калекцыях з мясцовых стаянак сустракаецца крэмень з большасці суседніх тэрыторый: шэры і цёмна-шэры з Верхняга Панямоння, светлашэры з Падняпроўя, крапчасты з Сажа, фіялетавы з Валдайскага ўзвышша (Гурина, 1976, с. 99, рис. 47; Ковнурко, 1973, с. 39; Чарняўскі, 1997б, с. 314). Тым не менш пры вырабе прылад працы, палявання і рыбацтва мясцовае насельніцтва было вымушана ў многіх выпадках крэмень замяняць іншымі, пераважна арганічнымі матэрыяламі. На тэрыторыі Паазер'я імі былі ў асноўным костка і рог. Традыцыя актыўнага выкарыстання дадзенай сыравіны ў гаспадарчых мэтах на поўначы Беларусі прасочваецца праз увесь каменны і бронзавы вякі. Нават на гарадзішчах жалезнага веку Падзвіння, якія належалі носьбітам днепра-дзвінскай культуры, большасць прылад працы і паляўнічай зброі выраблялася не з жалеза, а з косткі.

Абранне косткі і рога як замены крэменю і дапаўнення да яго мела свае падставы. Пры адпаведнай апрацоўцы, напрыклад нагараванні, гэта сыравіна размякчалася і магла апрацоўвацца значна прасцей, чым каменная. Акрамя таго, вырабы з яе атрымліваліся больш разнастайнымі і маглі мець складаныя формы.

Неабходна адзначыць, што на багатых крэменем тэрыторыях касцяныя і рагавыя вырабы каменнага і бронзавага вякоў сустракаюцца значна радзей. Такое становішча характэрна для культур буга-днястроўскай, нёманскай, лейкападобных кубкаў, шарападобных амфар, шнуравой керамікі і інш.

Большасць помнікаў каменнага і бронзавага вякоў Беларусі захавала да нашых дзён выключна неарганічныя артэфакты — крамянёвыя і каменныя вырабы, фрагменты керамікі. Па гэтай прычыне археолаг можа прааналізаваць толькі частку матэрыяльнай культуры першабытных людзей, што значна абмяжоўвае яго магчымасці па рэканструкцыі мінулага. У некаторых жа выпадках сустракаюцца помнікі, культурныя напластаванні якіх насычаныя кансервантамі (вапняком, крэйдай) або перакрытыя глiністымі ці тарфянымі адкладамі, якія спынілі доступ кіслароду і развіццё бактэрый гніення. На такіх аб'ектах, акрамя звыклага набору артэфактаў, захаваліся і арганічныя рэшткі жыццядзейнасці чалавека — вырабы з дрэва,

кары, костак, рагоў, выкапнёвай смалы, адыходы гаспадарчай і побытавай дзейнасці.

Комплекс паселішчаў каменнага і бронзавага вякоў Крывінскага тарфяніку, размешчанага на мяжы Бешанковіцкага і Сенненскага раёнаў Віцебскай вобласці, з'яўляецца найбуйнейшым на тэрыторыі Беларусі па колькасці і разнастайнасці выяўленых арганічных артэфактаў. Толькі касцяных і рагавых вырабаў (з улікам мастацкіх і культавых вырабаў, музычных інструментаў, нарыхтовак і фрагментаваных экзэмпляраў) тут знойдзена больш за тысячу. Касцяная і рагавая індустрыя стаянак дадзенага рэгіёна з-за сваёй колькасці, разнастайнасці і даследаванасці сёння з'яўляецца другім па важнасці (пасля керамікі) культурна-храналагічным вызначальнікам для старажытнасцей нарвенскай і паўночнабеларускай культур Беларускага Паазер'я. Яе аналіз дае магчымасць рэканструяваць самыя розныя бакі жыццядзейнасці мясцовага насельніцтва, яго матэрыяльную і духоўную культуру, гаспадарчыя заняткі і побыт, дынаміку развіцця, характар сувязей з блізкімі і далёкімі суседзямі.

Аўтар выказвае глыбокую падзяку ўсім, хто дапамагаў яму ў працы прадстаўленнем калекцый касцяных і рагавых вырабаў (М. М. Чарняўскаму, Э. М. Зайкоўскаму), кансультацыямі, вызначэннем астэалагічнага матэрыялу, парадамі, заўвагамі, выкананнем графічных работ — навуковым супрацоўнікам аддзела археалогіі каменнага і бронзавага вякоў ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі» М. М. Чарняўскаму, А. Г. Калечыц, Э. М. Зайкоўскаму, М. М. Крывальцэвічу, А. А. Разлуцкай, Э. А. Ляшкевіч, мастакам аддзела Т. У. Істомінай, М. А. Гудзен, Т. У. Зінчанцы.

## Гісторыя даследавання

### Археалагічнае даследаванне Крывінскага тарфяніку

Пачатак археалагічнага даследавання Крывінскага рэгіёна (мал. 1) звязаны з меліярацыйнымі працамі 1-й паловы 30-х гадоў XX ст. Пад час выпрамлення рэчышча р. Крывінка і асушэння тарфяніку рабочыя звярнулі ўвагу на фрагменты гаршкоў, якія сталі трапляцца ў торфе. Тэхнік Т. Дакукін перадаў чарапок старажытнай пасудзіны глебазнаўцу У. С. Дактуроўскаму. Апошні паведаміў аб знаходцы ў секцыю археалогіі Інстытута гісторыі АН БССР. У 1934 г. на месца выяўлення артэфактаў выехалі К. М. Палікарповіч і А. Д. Каваленя, якія і зафіксавалі старажытную тарфянікавую стаянку з надзвычай багатым археалагічным матэрыялам (Поликарпович, 1940, с. 44). У тым жа годзе было пачата даследаванне гэтага помніка, які атрымаў назву «Крывіна» (у далейшым — Крывіна 1). Археолагамі быў закладзены шурф памерам 20 м$^2$, а таксама некалькі пошукавых шурфоў у розных месцах. На глыбіні 1,6 м быў выяўлены культурны пласт таўшчынёй у 20—30 см з вялікай колькасцю рэшткаў жыццядзейнасці чалавека, у тым ліку арганічных. На падставе аналізаў культурнага пласта і торфу К. М. Палікарповіч выказаў думку, што помнік існаваў у суббарэале (Поликарпович, 1940, с. 46).

У тым жа годзе пры абследаванні выкідаў з меліярацыйнай канавы за 2 км на поўдзень ад в. Асавец К. М. Палікарповічам была выяўлена яшчэ адна тарфянікавая стаянка, якая атрымала назву «Асавец» (Асавец 1). Праведзеныя даследаванні паказалі наяўнасць культурнага пласта на глыбіні 1,79 м ад паверхні, насычанага фрагментамі керамікі, косткамі і шчапанымі крэмнямі. У адрозненне ад стаянкі Крывіна 1 на гэтым помніку мацярык складаўся не з пяску, а з торфу, што дало магчымасць даследчыку выказаць меркаванне пра палевы характар стаянкі (Поликарпович, 1940, с. 46). У 1939 г. К. М. Палікарповіч не змог паўторна адшукаць паселішча Асавец з-за тарфянога пажару 1937 г., які, на яго думку, знішчыў помнік. Дакладнае месцазнаходжанне стаянкі невядомае да нашага часу.

У 1939 г. К. М. Палікарповіч працягнуў даследаванне стаянкі Крывіна 1 (А. Д. Каваленя да гэтага часу быў арыштаваны як «вораг народа» і расстраляны). На помніку былі закладзены тры раскопы агульнай плошчай 60 м$^2$.

Наступныя раскопкі на помніках Крывінскага тарфяніку былі праведзены толькі ў 1959 г. (Прибыткин, дневник за 1959 г.). У даследаванні стаянкі Крывіна 1 бралі ўдзел П. А. Прыбыткін, Я. Г. Галанава (Краскоўская), Н. А. Шпакоўская, В. Н. Рабцэвіч, А. А. Бурачэўскі[1]. Былі закладзены два раскопы на левым і правым краях канавы агульнай плошчай 65 м$^2$, а таксама тры шурфы. Выяўлены шматлікія вырабы з крэменю, каменю, косткі і рогу, дрэва, драўляныя канструкцыі.

---

[1] Паводле пераліку ў палявым дзённіку П.А.Прыбыткіна за 1959 г.

У 1960 г. на стаянцы Крывіна 1 экспедыцыяй на чале з П. А. Прыбыткіным (удзельнічалі Я. Г. Краскоўская і В. В. Скарабагатаў) было закладзена 65 м² і яшчэ некалькі шурфоў (Прибыткин, дневник за 1960 г.). У гэты ж час за 300 м на поўнач было выяўлена паселішча, напачатку прынятае за згублены «Асавец» (Асавец 1). У далейшым яно атрымала назву Крывіна 2. На помніку быў закладзены раскоп памерам 25 м², пазней ён даследаваўся Э. М. Зайкоўскім у 1980 і 1981 гг. (55 м²) (Прибыткин, дневник за 1961 г.). У 1961 г. на Крывіне 1 было ўскрыта 150 м² (П. А. Прыбыткін), у 1962 — 84 м² (Я. Г. Краскоўская), у 1963 г. — 80 м² (Я. Г. Краскоўская) (Прибыткин, дневник за 1961 г.; Красковская, дневники за 1962, 1963 гг.).

Такім чынам, да сярэдзіны 60-х гадоў XX ст. на помніку Крывіна 1 было даследавана больш за 525 м².

У 1966 г. М. М. Чарняўскім па падказцы жыхара Галоўска была выяўлена стаянка позняга этапу нарвенскай і паўночнабеларускай культур Асавец 2, на якой у тым жа годзе было ўскрыта 36 м² і сабраны пад'ёмны матэрыял сярод выкідаў з канавы — кераміка, касцяныя і рагавыя вырабы, крэмень, бурштын (Чарняўскі, 1967). Помнік даследаваўся М. М. Чарняўскім у 1966, 1968, 1969, 1972, 1978, 1979, 1980, 1983, 1986, 1991, 1992, 1995, 1996, 1999, 2001—2005 гг. (гл. адпаведныя справаздачы). Усяго на сёння на помніку ўскрыта 316 м².

Пры аглядзе жвіровага кар'ера ва ўрочышчы Брускавішча ў 1976 г. М. М. Чарняўскі знайшоў пашкоджаную кар'ерам стаянку нарвенскай культуры Асавец 4, на якой быў закладзены раскоп (49 м²). У наступным годзе да яго прырэзаны яшчэ 63 м² (Чарняўскі, справаздачы за 1976, 1977 гг.).

У 1978 г. Э. М. Зайкоўскі за 1 км на поўнач ад в. Галоўск і за 0,4 км на ўсход ад Крывіны 1 выявіў стаянку паўночнабеларускай культуры Крывіна 3. У 1978 і 1979 гг. даследчык ускрыў на ёй 81 м². Ён жа выявіў месцазнаходжанне Асавец 2б за 200 м на паўднёвы ўсход ад раскопу 1980 г. стаянкі Асавец 2 (Зайкоўскі, 1982).

У 2000 г. М. М. Чарняўскі на месцы тарфянога пажару 1999 г. знайшоў тарфянікавую стаянку паўночнабеларускай культуры Асавец 7 (Чарняўскі, справаздача за 2001 г.). На гэтым месцы ў 2000—2005 гг. Макс. М. Чарняўскі праводзіў раскопачныя работы, у выніку якіх было ўскрыта 40 м² (гл. адпаведныя справаздачы).

## Гістарыяграфія даследавання касцяной і рагавой індустрыі рэгіёна

Ужо пад час першых даследаванняў стаянкі Крывіна 1 у 1934 г. сярод археалагічнага матэрыялу помніка былі выяўлены касцяныя і рагавыя знаходкі. Аднак у апублікаваных выніках работ была згадана толькі прысутнасць костак жывёл і абломка адной прылады (Поликарпович, 1940, с. 45). На жаль, больш публікацый па даследаванні крывінскіх паселішчаў у 1930-х гадах не было, а асноўная частка саміх калекцый была страчана ў гады вайны.

Пэўную інфармацыю пра касцяныя і рагавыя вырабы са стаянак паўднёвай часткі Крывінскага тарфяніку можна атрымаць з палявых дзённікаў П. А. Прыбыткіна і Я. Г. Краскоўскай, аднак гэта матэрыялы пераважна

з калекцыйных вопісаў, у большасці вельмі сціслых (Прибыткин, дневники за 1960, 1961 гг.; Красковская, дневники за 1962, 1963 гг.). Трэба таксама адзначыць, што не ўсе касцяныя і рагавыя знаходкі ідэнтыфікаваліся даследчыкамі як прылады, бо некаторыя з іх падобныя да натуральных костак і ўтрымліваюць толькі невялікія сляды апрацоўкі і спрацаванасці. Адначасова з дзённікаў бачна недасканаласць тагачаснай методыкі даследавання тарфянікавых паселішчаў, што прыводзіла да страты пэўнай часткі матэрыялу, калі не ў час раскопак, то ў выніку далейшага іх захавання.

Пасля выяўлення ў 1966 г. стаянкі Асавец 2 аналіз касцянога і рагавога матэрыялу з гэтага помніка праводзіўся М. М. Чарняўскім (Чарняўскі, 1997а, 1997б, Чернявский, 1967, 1969а, 1969б, 1991, 2001). У артыкуле «Новое неолитическое поселение на Кривинском торфянике» (Чернявский, 1967) аўтар пералічыў выяўленыя пад час раскопак 1966 г. касцяныя і рагавыя артэфакты: праколкі, наканечнікі стрэл, кінжалы, сякеркі, цёслы, нарыхтоўка рыбацкага кручка, наканечнікі гарпуноў, разнастайныя абломкі і нарыхтоўкі, выраб са шчапанага ікла дзіка, лыжка, скульптурка лася, свідраваная падвеска з зуба лася. Аўтар затрымаўся на найбольш выразных экзэмплярах кожнага класа і падаў кароткую абагульняльную характарыстыку, адсылаючы да ілюстрацый. Для некаторых з класаў была вызначана зыходная сыравіна і характар апрацоўкі. Аўтар звярнуў увагу на малую колькасць крамянёвага інвентару і абумовіў гэта адсутнасцю мясцовых радовішчаў крэменю ды наяўнасцю ў рэгіёне традыцыі шырокага выкарыстання касцяных і рагавых вырабаў.

У 1969 г. у зборніку дакладаў да канферэнцыі па археалогіі Беларусі М. М. Чарняўскі апублікаваў два артыкулы, у якіх пэўная ўвага надавалася касцяным і рагавым вырабам стаянак Крывінскага тарфяніку (Асавец 2 і Крывіна 1). У першым з іх, «Исследования неолитических поселений Кривинского торфяника», даследчык адзначыў дастаткова вялікую колькасць артэфактаў гэтага віду ў рэгіёне, сярод якіх назваў наканечнікі стрэл, сякеркі, долаты, праколкі, кінжалы, рыбацкія прылады (гарпуны і кручкі), рагавую скульптуру жывёлы, разнастайныя падвескі і ўпрыгожанні (Чернявский, 1969а). Былі таксама прадстаўлены зводныя табліцы, большая частка матэрыялу якіх адносілася да стаянкі Асавец 2. У другім артыкуле, «Хозяйство и духовная культура неолитического населения Понеманья и Юго-Западного Поозерья», праведзена першая спроба рэканструкцыі працэсу апрацоўкі костак і рогоў (Чернявский, 1969б). Аўтар звярнуў увагу на паслядоўнасць перакрыцця слядоў майстравання, на падставе якіх ён паспрабаваў аднавіць асноўныя стадыі вырабу найбольш характэрных прылад. Там сама выказана меркаванне пра некаторыя інструменты апрацоўкі, аднак іх колькасць была абмежавана крамянёвымі нажамі і сякерамі.

Э. М. Зайкоўскі ў 1980 г. апублікаваў першыя звесткі пра рагавы і касцяны матэрыял стаянкі Крывіна 3. Асноўную ўвагу аўтар звярнуў на рагавыя сякеры, падаючы іх апісанне і некаторыя найбольш выразныя дэталі асобных артэфактаў гэтага класа. Таксама былі выказаны агульныя меркаванні пра асаблівасці іх апрацоўкі. Даследчык толькі згадвае наяўнасць, з удакладненнем колькасці, наканечнікаў стрэл, шылаў, некаторых невызначальных прылад, нарыхтовак і лішкавых фрагментаў, падвесак — круглых і паўкруглых касцяных, са свідраваных зубоў жывёл (Зайкоўскі, 1980).

Больш падрабязны аналіз касцянога і рагавога матэрыялу са стаянкі Крывіна 3 быў зроблены Э. М. Зайкоўскім у 1982 г. у артыкуле «Новае паселішча паўночнабеларускай культуры». Аўтар падаў кароткае апісанне касцяных наканечнікаў стрэл, праколак і падвесак з косткі і свідраваных зубоў жывёл, адзначыў прысутнасць у матэрыяле долатаў і жолабчатага вырабу невядомага прызначэння. Аднак найбольшая ўвага ізноў была звернута на рагавыя сякеры. Аўтар выказаў меркаванне адносна зыходнага матэрыялу (рогі аленя і лася), звярнуў увагу на 2 тыпы афармлення ляза — сіметрычнае і скошанае, на афармленне насада і на наяўнасць падоўжных выступаў на адной з бакавін некаторых сякер, якія правільна звязаў з асаблівасцямі апрацоўкі, не вызначыўшы, аднак, з якімі (Зайкоўскі, 1982).

Прылады са стаянкі Асавец 2 склалі асноўную частку матэрыялу, прааналізаванага М. М. Чарняўскім у артыкуле «Древнейшие рыболовные орудия Северной Белоруссии» (Чернявский, 1991), які выйшаў у зборніку «Рыболовство и морской промысел в эпоху мезолита — раннего металла». Аўтарам упершыню было зроблена падрабязнае апісанне выяўленых класаў рыбацкіх прылад (наканечнікі гарпуноў, кручкі рыбацкія, «крукі» рыбацкія, вырабы са шчапанага ікла дзіка), праведзена першасная класіфікацыя наканечнікаў гарпуноў.

На падставе аналізу ў большасці тых жа вырабаў у 1994 г. быў напісаны артыкул Э. А. Ляшкевіч «Рыбалоўныя прылады з неалітычнай стаянкі Асавец 2», у якім яна давала сваё разуменне прызначэння шэрага артэфактаў (Ляшкевіч, 1994).

У першым томе «Археалогіі Беларусі» (1997 г.) зроблена першае падагульненне касцянога і рагавога інвентару нарвенскай і паўночнабеларускай культур, у якім адзначана асаблівая роля гэтага матэрыялу на Беларускім Паазер'і. Былі вылучаны і разгледжаны некалькі груп наканечнікаў стрэл — крывінскага тыпу, іголкападобныя, біканічныя, лістападобныя, лопасныя. Сцісла прааналізаваны і некаторыя іншыя класы вырабаў. Уздымалася пытанне майстравання і выкарыстання некаторых касцяных і рагавых прылад, іх храналогіі і распаўсюджання, аднак без належнай статыстыкі (Чарняўскі, 1997а, 1997б).

У той жа час быў апублікаваны абагульняльны артыкул М. М. Чарняўскага, у якім разгледжаны выключна касцяныя і рагавыя вырабы са стаянкі Асавец 2 (Чернявский, 2001). У ім зроблена агульная характарыстыка наканечнікаў стрэл (крывінскага тыпу, іголкападобных, біканічных, лістападобных і двухлопаснага), наканечніка дзіды з трубчастай косткі з косазрэзаным верхам, кінжалаў, праколак, вырабаў з расшчэпленых іклаў дзіка, сякер, цёслападобных вырабаў, долатаў, гарпуноў, рыбацкіх кручкоў і «крукоў». Вельмі сцісла пададзена інфармацыя пра рэтушоры, шпатэлі, арнаменціры, рагавыя востраканечнікі і рукаятку.

Гістарыяграфія па касцяной і рагавой індустрыі ў нашых паўночных і ўсходніх суседзяў значна шырэйшая. Звязана гэта з большай колькасцю помнікаў з арганічнымі вырабамі, даследаванне якіх пачалося раней. Для прыкладу, у Прыбалтыцы даследчыкі звярнулі ўвагу на касцяныя і рагавыя артэфакты яшчэ ў канцы XIX — першай палове XX ст. (Янитс, 1959, с. 5—11). Далейшае даследаванне праблемы звязанае з працамі Л. Ванкінай, Ф. Загорскіса, І. Лозе, І. Загорскай, Л. Янітса, К. Янітса, А. Гірынінкаса

і іншых, якія ў артыкулах і манаграфіях, прысвечаных даследаванню археалагічных помнікаў, сярод іншых матэрыялаў падрабязна разглядалі касцяныя і рагавыя артэфакты (Ванкина, 1970; Гирининкас, 1990; Загорская, 1978; Загорска, 1991; Янитс, 1973; Янитс, 1991; Vankina, 1999; Zagorska, 1977). Важнае месца ў вывучэнні касцяной і рагавой індустрыі Прыбалтыкі займае кандыдацкая дысертацыя І. Загорскай, прысвечаная ўсебаковаму аналізу касцяных і рагавых прылад палявання і рыбацтва на тэрыторыі Латвіі (Загорская, 1983). У Расіі даследаваннем вырабаў гэтага віду займаліся М. Фос (Фосс, 1941, 1952), Н. Гурына (Гурина, 1976, 1991а, 1991б, 1996а, 1996б, 1996в, 1996г, 1997), С. Ашыбкіна (Ошибкина, 1996, 1997), А. Мікляеў (Микляев, 1969, 1971, 1995), М. Жылін (Жилин, 1993, 1996, 1997, 2001, 2002) і інш. У Беларусі касцяныя і рагавыя артэфакты каменнага і бронзавага вякоў разглядалі ў сваіх працах таксама У. Ісаенка (паселішчы Камень 2, 8, Пінскі раён) (Ісаенка і інш., 1997; Исаенко, 1976, 1991) і М. Крывальцэвіч (паселішча Азярное 2Б, Любанскі раён) (Крывальцэвіч, 1996).

# ПОМНІКІ КАМЕННАГА І БРОНЗАВАГА ВЯКОЎ КРЫВІНСКАГА ТАРФЯНІКУ З КАСЦЯНЫМ І РАГАВЫМ МАТЭРЫЯЛАМ

## Палеагеаграфія і тапаграфія рэгіёна

Вызначаны радыекарбонным метадам найбольш ранні час існавання ў Крывінскім рэгіёне стаянак, у матэрыяле якіх сустракаецца арганіка [Асавец 4 — 5860±50 bp (Ki—6213)], прыпадае на пачатак апошняга перыяду атлантыку — AT—3 (6000—5000 bp) (перыяды пададзены паводле: Геология Беларуси, рис. 7.26), кліматычнага максімуму галацэну, які адзначаўся цёплым і вільготным кліматам. Сярэднегадавыя тэмпературы былі вышэйшымі за сучасныя на 1—2°, а гадавыя ападкі большымі на 25—50 мм, што складала каля +7 °С і да 630 мм ападкаў (Еловичева, 1993, с. 50; Энцыклапедыя прыроды Беларусі, с. 291).

У атлантыку раслінны свет рэгіёна дасягнуў найбольшага росквіту. Шырока распаўсюджанымі былі хвойна-шыракалісцевыя, шмат'ярусныя шыракалісцевыя лясы з дуба, вяза, ліпы, з густым арэшнікавым падлескам, шматлікімі алешнікамі. У паліналагічных спектрах адзначаецца прысутнасць граба (сярэдзіна атлантычнага перыяду), адзінкавыя зярняты клёна (сярэдзіна — канец атлантычнага перыяду) і бука (канец атлантычнага перыяду) (Симакова, 2000, с. 48).

Аб'ектамі палявання ў гэты час з'яўляліся дзік, лось, высакародны алень, тарпан, бабёр, зубр, буры мядзведзь, касуля (Галацэн, 2004, с. 204).

У фінале AT—3 прыродныя ўмовы на поўначы Беларусі, у тым ліку ў Крывінскім рэгіёне, пачынаюць мяняцца, а з пачаткам суббарэалу (SB—1, 5000—4200 bp) усталёўваецца ўмерана цёплы і сухі клімат. Сярэднегадавыя тэмпературы становяцца ніжэйшымі за сучасныя на 0,5—2 °С, а ападкаў выпадае на 25—50 мм меней (Еловичева, 1993, рис. 2). У выніку ўзровень тагачаснага возера панізіўся прыкладна на 1,5 м (Симакова, 2000, с. 49, 51).

У суббарэале фіксуецца скарачэнне шыракалісцевых парод дрэваў, асабліва ліпы і вяза. Елка, бяроза і сасна, наадварот, павялічылі сваю прысутнасць (Симакова, 2000, с. 49; Еловичева, 1993, с. 50).

4200 гадоў назад пачаўся другі этап суббарэалу — SB—2 (4200—3200 bp). Сярэднегадавая тэмпература ў той час была на 0,5—1 °С вышэйшая за сучасную, колькасць ападкаў адпавядала або была больш за сучасную на 50—70 мм. Клімат паступова становіцца больш цёплым і вільготным. У гэты перыяд моцна павялічваецца колькасць сасны, адначасова змяншаецца працэнт вольхі і шыракалісцевых парод, адносна стабільнай застаецца колькасць елкі. Воднае люстэрка вадаёма паступова павялічваецца.

З пачаткам апошняга перыяду суббарэалу — SB—3 (3200—2700 bp), павялічваецца забалочанасць тэрыторыі, што, верагодна, звязана з паніжэннем летніх тэмператур, памяншэннем выпарэння і павышэннем узроўню грунтовых вод.

Крывінскі тарфянік размешчаны ва ўсходняй частцы разглеглага, выцягнутага з усходу на захад тарфянога масіву, які абмяжоўваецца з захаду ракой Свячанка і возерам Сцержань (Чашніцкі раён), з усходу — ракой Бярозка (Бешанковіцкі раён). Уласна Крывінскі тарфянік ахоплівае тэрыторыю плошчай каля 20 км$^2$, якая амаль цалкам пакрыта сеткай водаадводных канаў, што ўпадаюць у каналізаваную р. Крывінка, левы прыток Заходняй Дзвіны, іншыя назвы якой — Крывіна, Ніжняя Крывіна (Блакітная кніга Беларусі, 1994, с. 207) (мал. 1).

Увесь рэгіён Крывінскага тарфяніку можна ўмоўна падзяліць на паўночную і паўднёвую часткі. У паўночнай (Бешанковіцкі раён) знаходзяцца паселішчы Асавец 2, 3, 4, 5, 6, 7, у паўднёвай (Сенненскі раён) Крывіна 1, 2, 3. Не зусім зразумелая прыналежнасць паселішча Асавец 1, але, верагодна, яно таксама адносіцца да паўднёвай часткі.

Рака Крывінка з'яўляецца адзіным найбольш прыкметным арыенцірам рэгіёна. Да меліярацыі яна патрапляла на тэрыторыю тарфяніку на захад ад вёскі Галоўск, адкуль скіроўвалася на паўночны захад і праз 1 км дасягала выцягнутага з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход узвышэння Ворлева, даўжынёй каля 500 м. На яго ўсходняй частцы размяшчаецца стаянка Крывіна 1.

За 400 м на паўночны ўсход ад Ворлева знаходзіцца стаянка Крывіна 3, а за 300 м на паўночна-паўночны захад — стаянка Крывіна 2. Гэтыя пункты не маюць вонкавых прыкмет на паверхні і былі выяўлены выключна дзякуючы меліярацыйным работам, калі культурны пласт помніка пераразаўся канавай. Да меліярацыі паселішчы Крывіна 1, 2 знаходзіліся на левым беразе ракі, а Крывіна 3 — на правым.

Ворлева рака абыходзіла з паўночнага захаду і прыблізна на мяжы сучасных раёнаў дасягала сваёй самай заходняй кропкі, пасля чаго скіроўвалася на паўночна-паўночны ўсход і патрапляла ў размешчанае ў паўночнай частцы тарфяніку ўрочышча Дражня. Менавіта тут была знойдзена стаянка Асавец 2, культурны пласт якой перарэзаны каналізаванай Крывінкай і калектарнай канавай, што ў яе ўпадае, а таксама пункты Асавец 2б, 2в за 80—100 метраў на паўднёвы ўсход. За 300 м у тым жа кірунку ад стаянкі Асавец 2 выяўлена паселішча Асавец 7, размешчанае на нізкім кліне берага. За 700 м на паўднёвы ўсход ад стаянкі Асавец 2 на пясчана-жвіровым пагорку Бjoускавішча размешчаны помнік Асавец 4.

Па выхадзе з урочышча Дражня рака скіроўвалася на паўночны ўсход, агінала з усходняга і паўночна-ўсходняга боку пагорак Аксінаў Востраў, праходзячы паміж ім і другім невялікім, размешчаным на паўночным усходзе, узвышэннем, пасля чаго пакідала тарфянік, рухаючыся ў бок Дзвіны праз сярэднеўзгорыстую раўніну. Зараз каналізаваная Крывінка працякае за 100 м на захад ад Аксінавага Вострава, на якім была выяўлена стаянка Асавец 3 і пункт Асавец 3б на яго паўночнай падэшве. На невялікім узвышэнні, па другі, усходні, бок першаснага рэчышча, за 100 м ад паселішча Асавец 3, зафіксавана стаянка Асавец 5. Крыху на поўнач ад Аксінавага Вострава, на невялікім пясчаным узвышэнні размешчана познебронзавае селішча Асавец 6.

Усяго на сёння ў межах Крывінскага тарфяніку вядома 9 стаянак і 3 адзінкавыя месцазнаходжанні крамянёвых і керамічных вырабаў каменна-

га і бронзавага вякоў — Асавец 1, 2, 3, 4, 5, 7, Крывіна 1, 2, 3, а таксама паселішча позняй бронзы Асавец 6. На сямі помніках у культурным пласце былі выяўлены арганічныя рэчывы.

## Помнікі неаліту — бронзавага веку Крывінскага тарфяніку з рагавымі і касцянымі артэфактамі

Помнікі першабытнага чалавека на Крывінскім тарфяніку ахопліваюць перыяд ад мезаліту да ранняга жалезнага веку. Час існавання стаянак, у матэрыяле якіх выяўлена арганіка, больш кароткі — ад ранняга неаліту да бронзавага веку ўключна. Паводле храналогіі і культурнай прыналежнасці яны дзеляцца на тры групы: ранненеалітычныя з матэрыяламі ранняга этапу нарвенскай культуры, помнікі сярэдняга неаліту — бронзавага веку, якія ўтрымліваюць матэрыялы як позняга этапу нарвенскай культуры, так і раннія матэрыялы паўночнабеларускай культуры, і помнікі бронзавага веку, матэрыял якіх належыць пераважна да паўночнабеларускай культуры з нязначнымі дамешкамі больш позніх матэрыялаў сярэдняй бронзы.

### *Ранні неаліт*

***Стаянка Асавец 4.*** Помнік размешчаны за 1,8 км на паўднёвы ўсход ад вёскі Асавец, на схіле пагорка Брускавішча (мал. 1: 8). Большая яго частка знішчана жвіровым кар'ерам у 1974—1975 гг., першапачатковая плошча невядомая. На сёння даследавана 150 м² (Чарняўскі, 1997а, с. 192; Чарняўскі, дзённікі за 1973, 1977, 1988 гг.). Культурны пласт на захаванай частцы стаянкі дасягае 0,5—0,7 м таўшчыні і складаецца з умерана гумусаванага жвіру. Мацярык таксама жвіровы. Помнік адносіцца да ранняга неаліту і звязаны з ранненарвенскім насельніцтвам (Чарняўскі, 1997а, с. 192). Для надмацерыковага пласта атрымана дата 14С 5860±50 bp (Кі—6213) (Чернявский, 2004, с. 149).

Дзякуючы наяўнасці ў культурным пласце вапняковых уключэнняў, на помніку захаваліся касцяныя і рагавыя артэфакты. Усяго знойдзена 41 прылада з 8 класаў[2]: наканечнікі стрэл, наканечнікі гарпуноў, кінжалы, праколкі, «рыбныя» нажы з іклаў дзіка, разцы з іклаў мядзведзя, сякеры, цёслападобныя і долатападобныя вырабы (Чарняўскі, 1997а, с. 193).

### *Сярэдні неаліт — бронзавы век*

***Стаянка Крывіна 1.*** Размешчана за 0,8 км на паўночны захад ад вёскі Галоўск, на паўднёва-ўсходнім краі выспы Ворлева на левым беразе р. Крывінка (мал. 1: 13). Усяго даследавана больш за 525 м² (Прибыткин, дневник за 1960 г.; г. Красковская, дневники за 1962, 1963 гг.).

Культурны пласт на стаянцы перакрываўся торфам магутнасцю да 1,79 м. Таўшчыня культурнага пласта дасягала 70 см (Красковская, дневник за 1962 г.). У надмацерыковай частцы помніка сустракаліся матэрыялы поз-

[2] Тут і далей колькасць касцяных і рагавых артэфактаў на стаянцы падаецца без мастацкіх і культавых вырабаў, музычных інструментаў.

няга этапу нарвенскай культуры, аднак асноўная колькасць знаходак адносіцца да паўночнабеларускай культуры.

Стаянка датуецца сярэдзінай 3-га — першай паловай 2-га тыс. да н. э., яе археалагічны матэрыял адносіцца да нарвенскай і паўночнабеларускай культур (Чарняўскі, 1997а, с. 202; Чарняўскі, 1997б, с. 314). Для ніжняга пласта помніка атрымана дата па $^{14}C$ 4270±40 bp (Gr—5125) (Чернявский, 2004, с. 152).

Касцяныя і рагавыя вырабы налічваюць 157 экзэмпляраў, якія адносяцца да 18 класаў прылад. Захаванасць вырабаў вагаецца ад добрай да слабой. З прычыны знікнення палявых дзённікаў К. М. Палікарповіча, калекцыйных вопісаў і большай часткі саміх калекцый, звесткі пра многія касцяныя і рагавыя вырабы адсутнічаюць, а з даваенных знаходак вядомы толькі адзін рагавы наканечнік стралы.

***Стаянка Крывіна 2.*** Размешчана за 100 м на поўнач ад стаянкі Крывіна 1 на ўсходнім краі выспы Ворлева па левым беразе р. Крывінка (мал. 1: 12). Даследавана 80 м². Культурны пласт дасягае 0,4 м у глыбіню (Чарняўскі, 1997б, с. 314). Існаванне помніка звязана з насельніцтвам нарвенскай і паўночнабеларускай культур. Па аналогіі са стаянкай Крывіна 1 помнік датуецца сярэдзінай 3-га — першай паловай 2-га тыс. да н. э. (Зайкоўскі, 1982, с. 88; Чарняўскі, 1997б, с. 314).

На помніку выяўлена 5 касцяных і рагавых вырабаў: наканечнікі стрэл, праколка, абломкі прылад невядомага прызначэння.

***Стаянка Асавец 2.*** Помнік размешчаны за 1,3 км на паўднёва-паўднёвы ўсход ад вёскі Асавец ва ўрочышчы Дражня (мал. 1: 5), яго плошча набліжаецца да 2000 м². На стаянцы ўскрыта 316 м². На сённяшні дзень помнік з'яўляецца адным з найбольш даследаваных на тэрыторыі Крывінскага тарфяніку (Чернявский, 1967, 1969а, 1991; Чарняўскі, 1997а, 1997б).

Для помніка атрыманыя наступныя даты па 14С — 3880±80 bp (Ле-936), 3500±50 bp (Ле-753), 3350±60 bp (Чарняўскі, 1997б, с. 330).

Помнік заснаваны носьбітамі познанарвенскай культуры. Росквіт стаянкі звязаны з насельніцтвам паўночнабеларускай культуры. Паселішча спыніла сваё існаванне прыблізна ў сярэдзіне — трэцяй чвэрці 2-га тыс. да н. э. з прычыны пад'ёму ўзроўню вады ў возеры (Чарняўскі, 1997б, с. 312, 330).

Касцяная і рагавая калекцыя вырабаў стаянкі Асавец 2 самая багатая на Беларускім Паазер'і. Колькасць артэфактаў складае 602 прылады разам з фрагментамі і нарыхтоўкамі [Чарняўскі (Чернявский), археалагічныя справаздачы за 1966, 1967, 1968, 1969, 1973, 1978, 1979, 1983, 1986, 1987, 1991, 1992, 1996, 1996, 1997, 1999, 2000, 2002, 2003, 2004, 2005 гг.]. Гэта больш за палову ўсіх выяўленых вырабаў каменнага і бронзавага вякоў усёй Беларусі і 60,2% усіх касцяных і рагавых прылад са стаянак Крывінскага тарфяніку. Калекцыя ўтрымлівае амаль усе вядомыя на сёння класы і групы вырабаў. Найбольш прадстаўлены наканечнікі стрэл і праколкі.

### *Бронзавы век*

***Стаянка Асавец 1.*** Размешчана прыблізна за 2,3 км на поўдзень ад вёскі Асавец (мал. 1: 10). Культурны слой стаянкі падсцілаўся торфам, што навяло К. М. Палікарповіча на думку пра існаванне на паселішчы палевых жылых канструкцый (Поликарпович, 1940, с. 46).

Касцяныя і рагавыя вырабы ў матэрыяле помніка даследчык не адзначыў. Аднак ён падае інфармацыю пра наяўнасць разбітых костак жывёл, што дае магчымасць спадзявацца на добрую захаванасць арганікі ў пласце стаянкі.

На жаль, як ужо было адзначана ў гісторыі археалагічнага даследавання рэгіёна, у далейшым месцазнаходжанне помніка было згублена. Па аналогіі са стаянкамі з падобнай стратыграфіяй (Крывіна 3 і Асавец 7) помнік можа быць звязаны з насельніцтвам паўночнабеларускай культуры.

***Стаянка Асавец 7.*** Помнік размешчаны за 1,5 км на паўднёва-паўднёвы ўсход ад вёскі Асавец і на адлегласці каля 300 м на паўднёва-паўднёвы ўсход ад стаянкі Асавец 2 (мал. 1: 9). З захаду і ўсходу паселішча абмежавана (часткова закранута) водаадводнымі канавамі. Агульная плошча каля 800 м$^2$ (Чарняўскі, 2003а, 2003б, 2004). Помнік заснаваны носьбітамі паўночнабеларускай культуры і датуецца першай паловай — сярэдзінай 2-га тыс. да н. э. На помніку ўскрытыя 40 м$^2$.

Касцяны і рагавы матэрыял паселішча мае розны стан захавання ў сувязі з пашкоджанасцю часткі культурнага пласта стаянкі тарфяным пажарам. На 2005 г. выяўлена 139 прылад. Гэта наканечнікі стрэл, кінжалы, наканечнікі гарпуноў, кручкі рыбацкія, сякеры, праколкі, вырабы з іклаў дзікоў і баброў, востраканечнікі, невызначальныя фрагменты і лішкавыя часткі вырабу прылад.

***Стаянка Крывіна 3.*** Размешчана за 400 м на ўсход ад выспы Ворлева па абодва бакі ад выпрастанага рэчышча р. Крывінка (мал. 1: 11). Культурны пласт помніка глыбінёй да 0,8 м падсцілаецца торфам. Дакладныя межы стаянкі дагэтуль не вызначаныя. Раскопкамі даследаваны 81 м$^2$ (Зайкоўскі, 1980, с. 83). Паселішча ўтрымлівае матэрыялы выключна паўночнабеларускай культуры і датуецца першай паловай 2-га тыс. да н. э. (Зайкоўскі, 1980, с. 88). Даследчык помніка Э. М. Зайкоўскі адносіць яе матэрыялы пераважна да позняга неаліту, пры гэтым датуе пачатак бронзавага веку 2-ой чвэрцю 2-га тыс. да н. э. (Зайковский, 1985, с. 14).

На помніку добра захоўваецца касцяны і рагавы матэрыял. Выяўлена 39 прылад, сярод якіх наканечнікі стрэл, рагавыя сякеры і цёслы, касцяныя праколкі. Многа невызначальных фрагментаў вырабаў.

# КЛАСІФІКАЦЫЯ КАСЦЯНЫХ І РАГАВЫХ ВЫРАБАЎ

Да апошняга часу касцяны і рагавы матэрыял са стаянак Крывінскага тарфяніку аналізаваўся толькі часткова. Даследчыкамі былі разгледжаны некалькі найбольш характэрных груп наканечнікаў стрэл, наканечнікаў гарпуноў, рыбацкіх кручкоў і «крукоў», праколак і сякер (Зайкоўскі, 1980; Ляшкевіч, 1994; Чарняўскі, 1997а, 1997б; Чернявский, 1967, 1969а, 1971, 1991, 2001). Астатні касцяны і рагавы матэрыял дэтальна не разглядаўся або ўвогуле застаўся па-за ўвагай.

У дадзенай працы робіцца першая спроба разгледзець усе вядомыя касцяныя і рагавыя прылады ранняга неаліту — бронзавага веку са стаянак Крывінскага тарфяніку (за выключэннем артэфактаў без выразнай дадатковай апрацоўкі, якія выкарыстоўваліся «як ёсць»). У працы не будуць закранацца вырабы катэгорыі мастацкіх і культавых вырабаў, музычных інструментаў.

## Прынцыпы класіфікацыі

Адзін з самых складаных момантаў пры правядзенні класіфікацыі вырабаў рознага прызначэння — гэта выпрацоўка агульных прынцыпаў, якія можна было б выкарыстоўваць для ўсёй разнастайнасці прылад аднаго віду. Падрабязныя распрацоўкі даследчыкаў, якія займаліся пытаннем класіфікацыі вырабаў з косткі і рога, звыкла датычаць вырабаў аднаго або некалькіх падобных функцыянальных прызначэнняў (Гурина, 1991а; Жилин, 1993; Жилин, 2001; Загорская, 1978). Прычым, у большасці выпадкаў праца праводзілася выключна на падставе мясцовага матэрыялу, што сталася прычынай існавання розных падыходаў у вылучэнні крытэрыяў класіфікацыі. А гэта, у сваю чаргу, выклікае пэўныя праблемы іх узаемнага дапасавання.

У аснову дадзенай класіфікацыі была пакладзена універсальная базавая схема, распрацаваная Н. М. Гурынай (Гурина, 1978). Яна ўключае ў сябе 6 ступеняў, першыя дзве з якіх (катэгорыі і класы) вызначаюцца паводле функцыянальнага прызначэння, трэцяя (від) заснаваная на зыходнай сыравіне[3], і апошнія тры (групы, тыпы, варыянты) — на марфалагічных адрозненнях унутры класаў. На думку аўтара, для стварэння падрабязнай характарыстыкі прылад пэўнага класа неабходныя менавіта тры ўзроўні марфалагічнага апісання. Меншая колькасць можа прывесці да нацягнутых абагульненняў, а большая выкліча складанасць у далейшай працы з класіфікацыяй.

Усе касцяныя і рагавыя (від) прылады са стаянак Крывінскага тарфяніку аўтарам былі падзелены на 2 вялікія катэгорыі, у якія ўваходзяць артэфакты падобнага гаспадарчага прызначэння: 1) прылады палявання і рыбалоў-

[3] У далейшым пра «від» гаворкі ісці не будзе, ў сувязі з тым, што ўся праца заснавана на вырабах з адной сыравіны — косткі і рога.

ства, 2) прылады працы і побыту (мал. 2). Унутры катэгорый, паводле вузкага функцыянальнага прызначэння, вылучаны класы прылад. Напрыклад, наканечнікі стрэл, наканечнікі дзідаў, кінжалы і г. д. для катэгорыі прылад палявання і рыбацтва. Класы, на падставе найбольш яскравых і агульных марфалагічных адрозненняў, падзяляюцца на групы.

Апісанне вырабаў на апошніх трох ступенях класіфікацыі праводзілася паводле параўнання ступені падабенства ўсіх частак марфалагічнай будовы пэўнага класа — ад найбольшага супадзення форм усіх частак вырабу да максімальных адрозненняў у адных і поўнага супадзення ў другіх. На жаль, выкарыстанне выключна матэматычных метадаў апісання прылад (Libera, 2001) у нашым выпадку немагчымае з-за складанасці неабходных для гэтага формул. Пераважная большасць пададзеных у класіфікацыі вырабаў не можа быць апісана толькі па праекцыі (у плоскасці). Да таго ж пры выкарыстанні падобнага метаду непазбежна паўстае група прылад прамежкавых форм, якая ўтрымлівае некаторыя вызначальныя рысы розных груп.

Агульныя прынцыпы вылучэння тыпаў і варыянтаў для ўсіх груп аднаго класа аўтарам не вызначаліся, для кожнага канкрэтнага этапу класіфікацыі існуюць свае асаблівасці, на падставе якіх яны і будуюцца.

Частка выяўленых вырабаў мела поліфункцыянальнае прызначэнне. Так, некаторыя наканечнікі стрэл выкарыстоўваліся як праколкі альбо пракруткі, пашкоджаныя гарпуны перараблялiся ў невялікія наканечнікі дзідаў і г. д. У падобных выпадках яны ідэнтыфікуюцца намі паводле іх канчатковага прызначэння.

## Катэгорыя 1: прылады палявання і рыбалоўства

На стаянках Крывінскага тарфяніку прылады палявання і рыбалоўства складаюць 28,4% агульнай колькасці артэфактаў. Усяго дакладна ідэнтыфікаваны 284 вырабы, сярод якіх намі вылучана 7 класаў. Трэба адзначыць вялікую разнастайнасць формаў прылад гэтай катэгорыі ў класах (асабліва наканечнікаў стрэл) у межах двух-трох базавых узораў[4].

### *Клас 1: наканечнікі стрэл*

На стаянках Крывінскага тарфяніку выяўлена 159 экзэмпляраў наканечнікаў стрэл і іх фрагментаў[5]. Пераважная большасць вырабаў паходзіць са стаянкі Асавец 2 — 95 экзэмпляраў, 33 — са стаянкі Крывіна 1, 17 знойдзена на стаянцы Асавец 7, 9 — на стаянцы Асавец 4, 1 — на Крывіне 2, 4 — на стаянцы Крывіна 3. Каля 35% артэфактаў гэтага класа прадстаўлена невызначальнымі фрагментамі і нарыхтоўкамі, што амаль цалкам выключае іх з далейшага аналізу.

Вылучаюцца наступныя марфалагічныя часткі наканечнікаў стрэл (мал. 3): вастрыё, якое можа заканчвацца шышачкай; галоўка, якая можа мець валік або нарэзку; корпус, які пераходзіць у чаранок (сплюшчанае

[4] «Базавы ўзор» — распаўсюжаны (традыцыйны) узор вырабу пэўнага класа, абрысы якога паўтараюцца з невялікімі варыяцыямі на пэўнай тэрыторыі і ў межах пэўнага адрэзка часу. Можа распаўсюджвацца на некалькі груп аднаго класа прылад.

[5] Тут і далей колькасць пададзена з улікам цэлых вырабаў, дакладна ідэнтыфікаваных фрагментаў і нарыхтовак.

сячэнне) або насад (акруглае сячэнне); упор-уступ да чаранка, якога можа і не быць. Корпус можа ўтрымліваць патанчэнне-перахоп або, наадварот, патаўшчэнне з кругавой нарэзкай або валікам. Адначасовая прысутнасць усіх пералічаных кампанентаў у наканечніку неабавязковая.

На падставе адрозненняў марфалогіі вышэй пазначаных частак намі вылучана 16 груп наканечнікаў стрэл з тыпамі і варыянтамі (мал. 4).

**Група I. Біканічныя простыя наканечнікі стрэл з насадам.** Найбольшае пашырэнне размешчана прыблізна пасярэдзіне вырабу. Даўжыня наканечніка дасягае 70 мм (мал. 4: 1, 2).

***Тып a)*** Наканечнікі стрэл акруглага сячэння. Бліжэй да канца насада выраб набывае падавальнае сячэнне (мал. 5: 1).

***Тып b)*** Сплюшчаныя наканечнікі стрэл. Найбольшае пашырэнне можа быць дадаткова пазначана нарэзкай (мал. 5: 2, 3).

**Група II. Выцягнутыя пікападобныя з вылучаным чаранком** (мал. 4: 44, 45).

***Тып a)*** Сплюшчана-рамбічнага сячэння з зубчыкамі па адной бакавіне. Наканечнік раўнамерна звужаецца да вастрыя. Зубчыкі ўтвораны з дапамогай адзінарных косых або падвойных перакрыжаваных неглыбокіх напілаў. Экзэмпляр пашкоджаны (мал. 5: 5).

***Тып b)*** Падпрастакутнага сячэння, з крыху выпуклымі плашчынямі. Корпус ад чаранка злёгку пашыраецца, пасля чаго звужаецца на вастрыё (мал. 5: 4).

**Група III. Верацёнападобныя чаранковыя наканечнікі стрэл з акруглым сячэннем корпуса** (мал. 4: 10—13).

***Тып a)*** Біканічны выцягнуты корпус акруглага сячэння з найбольшым пашырэннем прыблізна пасярэдзіне даўжыні і з больш ці менш выразным пераходам да чаранка. Пераход да вастрыя вельмі плаўны:

*варыянт 1:* класічныя вырабы[6]. Корпус складае 2/3 даўжыні вырабу, якая дасягае 56—74 мм (мал. 6: 4, 5);

*варыянт 2:* вырабы малых памераў (46—48 мм у даўжыню). Невялікі корпус складае прыблізна 1/2 наканечніка (мал. 6: 6, 7).

***Тып b)*** Выцягнуты акруглы ў сячэнні корпус цыліндрычнай формы ў верхняй частцы плаўна звужаецца да вастрыя. Пераход да чаранка больш ці менш выразны:

*варыянт 1:* класічныя вырабы. Корпус складае 2/3 даўжыні вырабу, якая дасягае 93—102 мм (мал. 6: 1, 2);

*варыянт 2:* вырабы малых памераў (да 40 мм у даўжыню). Невялікі корпус складае не больш за 1/2 даўжыні вырабу (мал. 6: 3).

**Група IV. Бутэлькападобныя чаранковыя наканечнікі стрэл з акруглым сячэннем корпуса і вылучанай галоўкай** (мал. 4: 14—18).

***Тып a)*** Выцягнутыя вырабы з верацёнападобнай галоўкай і перахопам на корпусе, апошні мае больш ці менш выразны ўпор-уступ да чаранка:

*варыянт 1:* класічныя вырабы. Корпус складае каля і больш за 2/3 даўжыні вырабаў, якая дасягае 98—124 мм па падоўжнай восі. Галоўка можа быць больш ці менш выразнай (мал. 6: 8—10);

*варыянт 2:* дробныя вырабы. Корпус складае каля 1/2 даўжыні вырабу, які дасягае 45—53 мм у даўжыню (мал. 6: 14).

---

[6] У дадзеным выпадку і далей па тэксце — найбольш распаўсюджаныя сярод вырабаў гэтага тыпу.

***Тып b)*** Наканечнікі з вылучанай верацёнападобнай галоўкай. На цыліндрычным корпусе адсутнічае перахоп і выразны ўпор-уступ да чаранка. Даўжыня па падоўжнай восі складае 86—116 мм:

*варыянт 1:* даволі масіўная і выразная галоўка складае каля 1/2 даўжыні корпуса і можа ўтрымліваць на вастрыі шышачку або залабачанне (мал. 6: 11, 12);

*варыянт 2:* галоўка дробная і невыразная на фоне выцягнутага цыліндрычнага корпуса, займае каля 1/5 яго даўжыні. Пераход да чаранка дастаткова плаўны (мал. 6: 13).

**Група V. Наканечнікі стрэл складанай формы чаранковыя з выразна пазначанымі галоўкай і корпусам.** Апошнія выразна адасоблены адзін ад аднаго. Корпус цыліндрычнай, конусападобнай, шматграннай ці камбінаванай формы, часам з нанесенымі ў якасці ўпрыгожання насечкамі, сярэдняя даўжыня каля 110 мм (мал. 4: 9, 19—21; мал. 7: 1—4).

**Група VI. Наканечнікі стрэл са сплюшчаным корпусам і пазначанымі чаранкамі, даўжынёй ад 52 да 82 мм** (мал. 4: 37—39).

***Тып а)*** Вырабы, якія ў плане наследуюць формы наканечнікаў стрэл IIIa (з біканічным корпусам без выразнага пераходу да вастрыя) (мал. 8: 8).

***Тып b)*** Вырабы, якія ў плане наследуюць формы наканечнікаў стрэл групы IIIб (з цыліндрычным корпусам і пераходам да вастрыя ў верхняй частцы) (мал. 8: 9).

***Тып с)*** Вырабы, якія ў плане наследуюць формы наканечнікаў стрэл групы IVa 1 (з галоўкай і перахопам корпуса) (мал. 8: 10, 15).

**Група VII. Біканічныя чаранковыя наканечнікі стрэл з акруглым сячэннем корпуса і пазначаным пераходам да вастрыя** (мал. 4: 3—8).

***Тып а)*** Сіметрычна біканічныя наканечнікі стрэл. Корпус і вастрыё выразна размежаваныя з дапамогай кругавой нарэзкі, валіка або рэзкага пераходу. Сярэдняя даўжыня вырабаў 55 мм. Чаранок складае не менш за 1/2 агульнай даўжыні:

*варыянт 1:* корпус у выглядзе ўсечанага конуса прыблізна роўны па даўжыні вастрыю. Апошняе канічнай або ўвагнута-канічнай формы. Пераход да чаранка больш ці менш акрэслены (мал. 9: 1, 2);

*варыянт 2:* жолудападобны наканечнік — з крыху закругленымі абрысамі і плаўным, але выразным пераходам да плоскага чаранка. На канцы вастрыя размешчана шышачка (мал. 9: 3);

*варыянт 3:* усечана-канічны корпус карацейшы за вастрыё і мае амаль перпендыкулярны да падоўжнай восі зрэз пры пераходзе ад корпуса да чаранка (мал. 9: 4, 5).

***Тып b)*** Асіметрычна біканічныя наканечнікі з падоўжным корпусам і кароткім вастрыём, сярэдняя даўжыня складае 82 мм:

*варыянт 1:* з кароткім конусападобным вастрыём правільнай формы, якое ўтрымлівае шышачку. Паміж ім і выцягнутым усечаным конусам корпуса маецца выразны пераход (мал. 9: 6);

*варыянт 2:* вастрыё мае форму злёгку ўвагнутага конуса з залабачаннем (шлемападобнай прытупленасцю) на канцы, паміж вастрыём і корпусам маецца ўступ (плечукі) да апошняга. Корпус амаль цыліндрычны, звужэнне да ніжняй часткі ледзь выражана. Пераход да чаранка вельмі рэзкі (мал. 9: 7).

**Група VIII. Вербалістыя наканечнікі стрэл.** Сячэнне корпуса сплюшчанае, найбольшае пашырэнне размешчана прыблізна па яго сярэдзіне (мал. 4: 32—35).

***Тып а)*** Чаранок і вастрыё практычна не адрозніваюцца адзін ад аднаго, даўжыня па падоўжнай восі да 55 мм (мал. 8: 1, 2).

***Тып b)*** З пазначаным чаранком і выразным вастрыём, даўжыня да 50 мм (мал. 8: 3—5).

**Група IX. Іголкападобныя наканечнікі стрэл** (мал. 4: 25—30).

***Тып а)*** З доўгім стрыжнепадобным корпусам акруглага па ўсёй даўжыні сячэння і вылучанай галоўкай на канцы, даўжыня па падоўжнай восі 174—210 мм:

*варыянт 1:* чаранковыя з выразнай біканічнай галоўкай шматгранна-акруглага сячэння (мал. 10: 1);

*варыянт 2:* чаранковыя з невыразнай галоўкай падрамбічнага сячэння (мал. 10: 2);

*варыянт 3:* з насадам і корпусам акруглага сячэння і невыразнай галоўкай падрамбічнага сячэння (мал. 10: 3).

***Тып b)*** Чаранковыя з доўгім стрыжнепадобным корпусам акруглага сячэння без вылучанай галоўкі, даўжынёй ад 90 да 148 мм:

*варыянт 1:* корпус раўнамерна звужаецца да вастрыя ад самага чаранка (мал. 10: 4);

*варыянт 2:* корпус цыліндрычнай формы звужаецца на вастрыё толькі ў верхняй частцы (мал. 10: 5, 6).

***Тып с)*** Тонкі сплюшчана-авальны корпус паступова пашыраецца ў плоскасці ў кірунку вастрыя і набывае падрамбічнае сячэнне. Шырыня чаранка большая за шырыню корпуса ў месцы іх злучэння (мал. 10: 7).

**Група X. Кулепадобныя выцягнутыя наканечнікі стрэл з ледзь пазначаным чаранком** (мал. 4: 22—23).

***Тып а)*** Выцягнуты чаранок лінзаватага сячэння толькі крыху завужаны ў плоскасці пры пераходзе ад корпуса і складае каля 1/3 усёй даўжыні вырабу. Корпус выцягнута-авальнага сячэння паступова звужаецца на вастрыё ад самай падставы. Даўжыня вырабу па восі 103 мм (мал. 7: 5).

***Тып b)*** Выраб невялікага памеру (70 мм па падоўжнай восі) без выразнага пераходу ад корпуса падпрастакутнага (амаль падквадратнага) сячэння да чаранка. Паступовае звужэнне да апошняга пачынаецца ад сярэдзіны вырабу. Корпус паступова звужаецца на вастрыё ад самай падставы (мал. 7: 6).

**Група XI. Выцягнуты наканечнік акруглага сячэння з конусападобнай галоўкай.** Насад акруглага сячэння. Пераход ад галоўкі да корпуса дастаткова рэзкі, пазначаны трыма кальцавымі нарэзкамі. Даўжыня вырабу магла дасягаць 12 см (мал. 4: 31; мал. 10: 8).

**Група XII. Лопасны наканечнік стралы.** Сячэнне корпуса акруглае, пераход да чаранка выразна акрэслены. Сячэнне падтрохкутнай у плане лопасці — лінзаватае, шыпы згладжаныя. Даўжыня каля 60 мм (мал. 4: 24; мал. 8: 6).

**Група XIII. Ромбападобны наканечнік стралы з насадам падквадратнага сячэння, 55 мм**. Груба апрацаваны выраб падпрастакутнага сячэння корпуса (мал. 4: 36; 8: 7).

**Група XIV. Біканічныя выцягнутыя наканечнікі стрэл са сплюшчаным сячэннем корпуса і насадам акруглага або падквадратнага сячэння, даўжынёй 57—61 мм** (мал. 4: 40, 41).

***Тып a)*** З выразным пераходам ад корпуса да вастрыя і ад корпуса да насада (мал. 8: 11).

***Тып b)*** З плаўнымі пераходамі да вастрыя і насада (мал. 8: 12).

**Група XV. Наканечнік стралы са сплюшчанай вылучанай галоўкай і падцыліндрычным корпусам, які плаўна пераходзіць у насад акруглага сячэння, даўжыня каля 110 мм** (мал.4: 42; 8: 13).

**Група XVI. Мечападобны чаранковы наканечнік стралы, падобны да групы IIb1.** Корпус у плане амаль прамы, злёгку пашыраецца да вастрыя. Сячэнне каля пераходу да чаранка акруглае, паступова сплюшчваецца на вастрыё (клінападобны ў падоўжным сячэнні) (мал. 4: 43; мал. 8: 14).

Паміж некаторымі групамі і тыпамі наканечнікаў стрэл дастаткова цяжка правесці дакладнае размежаванне з прычыны вельмі плаўных ваганняў іх абрысаў, у выніку чаго з'яўляецца пэўная колькасць прамежкавых (пераходных) форм у межах аднаго «базавага ўзору» (параўн.: III, IV і XII групы).

Колькасна наканечнікі стрэл са стаянак Крывінскага тарфяніку размеркаваліся па групах наступным чынам (мал. 11):

група Ia — 1 экзэмпляр (Асавец 4), Ib — 2 (Асавец 4); група II — 3 экзэмпляры (Асавец 4); групы IIIa1 — 10 экзэмпляраў (Асавец 2, Асавец 7, Крывіна 1); IIIa2 — 3 (Асавец 2, Асавец 7, Крывіна 3); IIIb1 — 8 (Асавец 2, Асавец 7); IIIb2 — 2 экзэмпляры (Асавец 2); групы IVa1 — 13 экзэмпляраў (Асавец 2, Асавец 7); IVa2 — 1 (Асавец 2); IVb1 — 5 (Асавец — 2, Крывіна 3); IVb2 — 2 экзэмпляры (Асавец 2, Асавец 7); група V — 5 экзэмпляраў (Асавец 2); групы VIa — 3 (Асавец 2, Асавец 7); VIb — 1 (Асавец 2); VIc — 7 экзэмпляраў (Асавец 2, Асавец 7, Крывіна 3); група VIIa1 — 2 экзэмпляры (Крывіна 1); VIIa2 — 1 (Асавец 2); VIIa3 — 2 (Крывіна 1, Асавец 2); VIIb1 і VIIb2 па 1 экзэмпляры (Асавец 2); група VIIIa — 6 экзэмпляраў (Асавец 2, Крывіна 3); VIIIb — 4 экзэмпляры (Асавец 2); група IXa1 — 1 (Асавец 2); IXa2 — 1 (Асавец 2); IXa3 — 1 (Асавец 2); IXb1 — 2 (Асавец 2); IXb2 — 1 (Асавец 2); IXc — 1 экзэмпляр (Асавец 2); група Xa — 2 экзэмпляры (Крывіна 1, Асавец 7); Xb — 1 экзэмпляр (Крывіна 1); група XI — 1 экзэмпляр (Крывіна 2); група XII — 1 экзэмпляр (Асавец 2); група XIII — 1 экзэмпляр (Асавец 2); група XIVa — 1 экзэмпляр (Асавец 2); XIVb — 1 экзэмпляр (Асавец 2); група XV — 1 экзэмпляр (Асавец 2); група XVI — 1 экзэмпляр (Асавец 2).

Адной з вызначальных характарыстык класа наканечнікаў стрэл на Крывінскім тарфяніку з'яўляецца пераважнае выкарыстанне камбінацыі сплюшчаных чаранкоў і акруглага сячэння корпуса. Такія наканечнікі складаюць амаль 50% усіх зафіксаваных вырабаў гэтага класа. Наканечнікаў стрэл са сплюшчаным корпусам выяўлена больш за 12%, а з насадам акруглага сячэння — крыху больш за 6,5% усёй колькасці падобных вырабаў. Больш за 30% усіх знаходак гэтага класа складаюць невызначальныя фрагменты наканечнікаў і іх нарыхтоўкі.

Найбольш распаўсюджанымі з'яўляюцца наканечнікі стрэл груп III, IV, V, якія традыцыйна аб'ядноўваюцца даследчыкамі ў наканечнікі «крывінскага тыпу» (Чарняўскі, 1997б, с. 316). Яны складаюць каля 30% усіх выяўленых вырабаў гэтага класа. Класічнымі сярод іх можна назваць экзэмпляры з вылучанай галоўкай, перахопам на корпусе і ўпорам-уступам

да чаранка. Межы паміж гэтымі групамі найбольш расплывістыя ў параўнанні з іншымі наканечнікамі стрэл. Наступнымі па распаўсюджанасці «базавымі ўзорамі» з'яўляліся лістападобная, біканічная чаранковая, іголкавая формы.

### *Клас 2: наканечнікі дзідаў*

Гэты клас касцяных прылад палявання і рыбалоўства на стаянках Крывінскага тарфяніку прадстаўлены адносна малой колькасцю вырабаў — 12 экзэмпляраў. На сёння з упэўненасцю можна вылучыць толькі дзве групы падобных вырабаў (Ia, II), прыналежнасць астатніх артэфактаў да дадзенага класа знаходзіцца пад сумненнем. Магчыма, пэўныя формы праколак са шчапаных буйных трубчастых костак, некаторыя ланцэтападобныя кінжалы і шэраг фрагментаў масіўных выцягнутых колючых вырабаў таксама маглі выкарыстоўвацца ў гэтай якасці.

У наканечнікаў дзідаў вылучаюцца наступныя марфалагічныя часткі: вастрыё, корпус, насад або ўтулка (мал. 12). На падставе іх зменаў вылучаны 2 групы вырабаў.

**Група I. Наканечнікі дзідаў з коса зрэзаным верхам.**

***Тып а)*** З невялікага фрагмента цэлай трубчастай косткі, утулкавы (мал. 13: 2).

***Тып b)*** З масіўнай шчапанай трубчастай косткі (з насадам? — пашкоджаны) (мал. 13: 4).

**Група II. Выцягнутыя вузкія плаўназавостраныя вырабы падпрастакутнага або падавальнага сячэння**. Бакавыя грані злёгку прыкруглены. Вастрыё ў сячэнні лінзаватае (мал. 13: 1).

**Група III. Перароблены са зламанага наканечніка гарпуна выраб**, які часткова захаваў адзін зубец. Сплюшчаная тыльная частка прылады (насад) захоўвае шматлікія сляды дзёгцю, што сведчыць пра сталае мацаванне ў дрэўку прылады (мал. 13: 3).

Дзевяць наканечнікаў дзідаў і іх ідэнтыфікаваных фрагментаў выяўлена на стаянцы Асавец 2 (тып Ia — 1, Ib — 2, тып II — 3, тып III — 1 экзэмпляр і 2 праблемныя abломкі па-за класіфікацыяй). Два верагодныя артэфакты выяўлены на помніку Асавец 4 (мал. 14: 1, 3), адзін — на паселішчы Крывіна 1 (мал. 14: 2). Таксама да вырабаў гэтага класа можа адносіцца абломак вастрыя масіўнай прылады са сплюшчана авальнага фрагмента трубчастай косткі (Асавец 2, мал. 14: 4).

### *Клас 3: кінжалы*

Пад кінжалам разумеем прыладу для колючага бліжняга бою, якая можа ўтрымліваць рэзальныя лёзы.

На стаянках Крывінскага тарфяніку выяўлена 40 вырабаў гэтага класа (разам з фрагментамі), асноўная колькасць паходзіць са стаянкі Асавец 2 — 28 экзэмпляраў, Асавец 4 — 4, Асавец 7 — 5, Крывіна 1 — 3 экзэмпляры.

Вырабы гэтага класа складаюцца з наступных марфалагічных частак: вастрыё, лязо і рукаятка (мал. 15: А). На падставе іх змен вылучаны 2 групы прылад.

**Група I. Кінжалы з костак з захаванымі эпіфізамі, якія выкарыстоўваліся ў якасці рукаяткі.**

***Тып a)*** З лакцявых костак буйных рагатых жывёл. Дыяфіз зведзены на адну плоскасць і напрыканцы звужаны на колючае вастрыё. Лёзы вырабаў могуць быць больш ці менш выяўленымі (лінзаватае ці сплюшчана-авальнае сячэнне) (мал. 16: 1).

***Тып b)*** З вузкіх костак (прамянёвых) буйных жывёл, колючыя. Лёзы вырабаў не вылучаныя, сячэнне акруглае (мал. 16: 2).

**Група II. Ланцэтападобныя з вызначанай рукаяткай**. Са шчапаных таўстасценных трубчастых костак, колючыя. Лёзы могуць быць больш ці менш выражанымі. Рукаятка крыху завужаная, пераход да лёзаў плаўны (мал. 16: 3).

Найбольш распаўсюджанымі ў рэгіёне былі кінжалы групы Ia — 23 экзэмпляры (Асавец 2 — 17, Крывіна 1 — 3, Асавец 4 — 1, Асавец 7 — 2), да II — 3 (Асавец 2) і да Ib — 5 (Асавец 2 — 3, Асавец 7 — 2). 9 артэфактаў прадстаўлены невызначальнымі фрагментамі і нарыхтоўкамі, якія нельга з пэўнасцю аднесці ні да адной з пералічаных груп.

### *Клас 4: наканечнікі гарпуноў*

Пад тэрмінам «наканечнік гарпуна» разумеем зубчастую прыладу з асаблівым афармленнем насада, якая вольна мацуецца да дрэўка, злучаецца з ім шнуром і аддзяляецца ад яго пасля пападання ў здабычу (Гурина, 1991a, с. 8, 9; Янитс, 1991, с. 33).

Са стаянак Крывінскага тарфяніку паходзяць 35 наканечнікаў гарпуноў (разам з фрагментамі). Асноўная колькасць вырабаў знойдзена на стаянках: Асавец 2 — 23, Асавец 4 — 4, Крывіна 1 — 5, Асавец 7 — 3 артэфакты. Да гэтага часу ў рэгіёне невядомыя зубчастыя вастрыі (прылады без спецыяльнага афармлення насада, якія стала мацаваліся ў дрэўцы), таму знойдзеныя фрагменты вырабаў з зубцамі былі аднесены намі да наканечнікаў гарпуноў.

У наканечнікаў гарпуноў вылучаюць вастрыё, зубцы, ствол, насад (мал. 15: Б). Галоўным крытэрыем пры класіфікацыі вырабаў гэтага класа з'яўляюцца зубцы. Паводле іх размяшчэння прылады дзеляцца на дзве групы: аднабаковыя і двухбаковыя. Пры вылучэнні тыпаў была ўлічана колькасць зубцоў, варыянтаў — сячэнне вырабаў і форма насадаў.

**Група I. Аднабаковыя наканечнікі гарпуноў**

***Тып a)*** Двухзубцовыя выцягнутыя наканечнікі са сплюшчаным рыдлёўкападобным насадам з плечыкамі да ствала:

*варыянт 1:* вырабы з корпусам акруглага сячэння, дзюбападобнымі зубцамі, вылучаным вастрыём лінзаватага сячэння і рыдлёўкападобным насадам з плечыкамі да ствала па ўсім перыметры (мал. 17: 1, 7);

*варыянт 2:* сплюшчаныя вырабы з простымі зубцамі, кароткім невыразным вастрыём і рыдлёўкападобным насадам з плечыкамі да ствала ў плоскасці (мал. 17: 2).

***Тып b)*** Адназубцовыя наканечнікі гарпуноў:

*варыянт 1:* корпус акруглага сячэння, адносна невялікі дзюбападобны зубец размешчаны прыблізна пасярэдзіне ствала акруглага сячэння. Насад аформлены з дапамогай шырокага паглыблення па перыметры. Сячэнне падоўжанага вастрыя — лінзападобнае (мал. 17: 3);

*варыянт 2:* корпус сплюшчанага сячэння, шырокі зубец пачынаецца амаль ад самага вастрыя вырабу і дасягае яго сярэдзіны. Насад або

крыжападобны, або аформлены з дапамогай няправільнага паўкруглага выступу з боку зубца (мал. 17: 4, 5).

**Група II. Двухбаковы наканечнік гарпуна з двума асіметрычна размешчанымі каля самага вастрыя простымі зубцамі.** Ствол С-падобнага сячэння. Насад абламаны. Сячэнне вастрыя авальнае (мал. 17: 6).

Частка знойдзеных на стаянках Крывінскага рэгіёна фрагментаў вырабаў дадзенага класа не можа быць упэўнена аднесена ні да аднаго з вышэйпададзеных тыпаў. Гэта абломак масіўнага рагавога наканечніка гарпуна сплюшчанага С-падобнага сячэння з захаваным дзюбападобным зубцом (мал. 18: 5), фрагмент невялікага касцянога вырабу з 5 дробнымі дзюбападобнымі зубцамі (мал. 18: 6), пашкоджаны насад з двума адросткамі з аднаго боку (мал. 18: 2), а таксама вырабы са стаянкі Асавец 4, прадстаўленыя ў моцна фрагментаваным выглядзе (мал. 18: 3, 4).

Найбольш распаўсюджанымі на помніках Крывінскага рэгіёна былі наканечнікі гарпуноў I групы: тып a — 9 экзэмпляраў (Асавец 2, 7), тып b — 3 экзэмпляры (Асавец 2, Крывіна 1). Да гэтай жа групы, магчыма, належаць 2 фрагменты са стаянкі Асавец 4. Наканечнік гарпуна II групы толькі адзін (Асавец 2). 20 артэфактаў прадстаўлены паасобнымі фрагментамі наканечнікаў гарпуноў, якія не могуць быць з пэўнасцю класіфікаваны.

Прынята лічыць, што гарпуны з'яўляюцца рыбацкай прыладай. Аднак многія даследчыкі адзначаюць, што частка падобных вырабаў, пераважна вялікіх памераў, магла выкарыстоўвацца пры паляванні на млекакормячых, пераважна на лася, тура і інш. (Лозе, 1979, с. 127). У сувязі з гэтым узнікае пытанне пра мэтазгоднасць вольнага мацавання наканечніка ў дрэўку і неабходнасць іх злучэння паміж сабой з дапамогай ліня. Дастаткова спрэчным з'яўляецца меркаванне пра магчымасць стварэння перашкоды ўцёкам падраненай жывёлы з-за прывязанага дрэўка, якое нібыта цягнецца за ёй і чапляецца за дрэвы. Тагачасная тэхналогія вырабу ліня не магла надаць вяроўцы дастатковай трываласці, каб стрымаць рывок дарослага лася вагой да 650 кг (БелСЭ, 1972, с. 426). Гарпуны са стаянак Крывінскага тарфяніку адпаведных памераў, якія маглі б выкарыстоўвацца ў гэтым значэнні, выяўлены толькі ў 2 пашкоджаных экзэмплярах без насадаў, што не дазваляе адназначна аднесці іх да гэтага класа прылад (мал. 18: 5). Некаторыя вырабы па сваіх памерах больш падыходзяць для палявання на рачных млекакормячых — баброў і выдраў. У матэрыяле стаянкі Асавец 2 былі выяўлены рэшткі не менш як 73 асобін баброў (Разлуцкая, 1999, с. 98), што пацвярджае важнае значэнне гэтага віду для тагачаснага насельніцтва. У гэтым выпадку выкарыстанне гарпуноў больш мэтазгоднае — забітая на вадзе жывёла апускаецца на дно, а дрэўка, злучанае з наканечнікам лінём, свабодна плавае на паверхні, што дазваляе падняць здабычу. Да магчымасці выкарыстання прылад гэтага класа ў падобнай якасці схіляецца і М. Г. Жылін (Жилин, 1993, с. 26). А на стаянцы Сахтыш I (Верхняе Паволжа) у льялаўскім пласце жытла быў выяўлены чэрап бабра з абломкам наканечніка гарпуна (Крайнов, 1991, с. 139).

### *Клас 5: кручкі рыбацкія*

На сягоння ў Крывінскім рэгіёне знойдзены 25 цэлых і пашкоджаных экзэмпляраў кручкоў рыбацкіх, у тым ліку нарыхтоўкі і вытворчыя адходы. 19 з іх паходзяць са стаянкі Асавец 2, 5 — са стаянкі Асавец 7 і адзін пашкоджаны фрагмент — са стаянкі Крывіна 1.

Звычайна ў кручках вылучаюць цаўё (ножку), што мае галоўку і пераходзіць у абушок, які складаецца з патыліцы і лба. Лоб заканчваецца джалам (вастрыём), з бародкай або без яе (мал. 19: 2). Кручок характарызуецца паддзевам (працоўная частка ад найбольшага выгіну да джала) (Исаенко, 1991, с. 99). На падставе змен адзначаных частак вылучаны 2 групы прылад.

**Група I. U-падобныя кручкі з выразнай бародкай.** Абушок акруглы, злёгку сплюшчаны альбо паддэфармаваны, лоб амаль паралельны цаўю, злёгку адхіляецца вонкі. Сячэнне ножкі і лба падакруглае альбо падавальнае. Ножка заканчваецца галоўкай — рэзкім пашырэннем у два бакі ў выглядзе сплюшчанай шапачкі цвіка для замацавання. Сячэнне галоўкі выцягнута-авальнае (мал. 19: 2, 3).

**Група II. U-падобны кручок рыбацкі з дробнай сківічнай косткі.** Пераход ад патыліцы да лба ўтрымлівае натуральны шышкападобны адростак косткі. Лоб прылады адламаны, форма і наяўнасць джала невядомыя. На канцы ножкі з дапамогай паглыблення насустрач з двух бакоў аформлена галоўка (мал. 19: 1).

Найбольш распаўсюджанай на Крывінскім тарфяніку з'яўляецца група I — 8 завершаных экзэмпляраў (Асавец 2, 7). Да групы II адносяцца толькі 2 артэфакты (Асавец 2, Крывіна 1). 13 артэфактаў прадстаўлены паасобнымі фрагментамі нарыхтовак і тэхналагічнымі рэшткамі майстравання, якія, верагодна, таксама належаць да групы I.

### *Клас 6: «крукі» рыбацкія*

Пад «крукамі» рыбацкімі разумеем масіўныя вырабы са сківічных костак жывёл да 15 см даўжынёй, якія прызначаліся для лоўлі буйной драпежнай рыбы.

Марфалогія рыбацкіх «крукоў» аналагічная кручкам рыбацкім (мал. 19: 2). У іх адрозніваюць ножку, галоўку, патыліцу, лоб, джала, на падставе змен якіх вылучаюць 2 групы прылад.

**Група I. Масіўныя вырабы са свідраванай адтулінай на пашыранай галоўцы** (мал. 20: 1).

**Група II. Масіўныя вырабы са свідраванай адтулінай на менш шырокай, але больш вылучанай злёгку прыкругленай галоўцы прылады** (мал. 20: 2).

На сёння ў Крывінскім рэгіёне выяўлена 9 цэлых і фрагментаваных рыбацкіх «крукоў». Усе яны паходзяць са стаянкі Асавец 2. Пераважная большасць належыць да групы I (7 артэфактаў), 2 вырабы адносяцца да групы II.

### *Клас 7: жэрліцы*
### (іголкападобныя вырабы невялікага памеру)

Пад жэрліцамі разумеем прызначаныя для лоўлі рыбы дробныя іголкападобныя вырабы з адным або двума завостранымі канцамі, да якіх пасярэдзіне корпуса прывязвалася вяроўка.

На Крывінскім тарфяніку выяўлена 6 экзэмпляраў жэрліц, усе паходзяць са стаянкі Асавец 2.

Прылады складаюцца з корпуса, вастрый (вастрыя). На падставе іх змен вылучаны дзве групы:

**Група I. Завостраныя на адным канцы вырабы.** Корпус прамы або злёгку выгнуты (мал. 19: 5, 6).

**Група II. Завостраныя на абодвух канцах вырабы.** Корпус прамы (мал. 19: 4).

У адрозненне ад іголак вырабы гэтага класа не ўтрымліваюць невялікага пашырэння на адным канцы з адтулінай для замацавання ніткі. Аднак адсутнічае і паглыбленне пасярэдзіне прылады для мацавання лескі, характэрнае для класічных рыбацкіх жэрліц, выяўленых у Прыбалтыцы (Загорска, 1991, рис. 2: 37—39). Ёсць верагоднасць, што вырабы групы I гэтага класа могуць з'яўляцца джаламі ад састаўных рыбацкіх кручкоў, хаця ў іх таксама адсутнічаюць любыя дэталі, прызначаныя для мацавання. Для больш дакладнага высвятлення функцыянальнага прызначэння гэтых прылад патрабуецца дэталёвае трасалагічнае даследаванне.

## Катэгорыя 2: прылады працы і побыту

Прылады працы і побыту складаюць найбольш шматлікую і разнастайную катэгорыю касцяных і рагавых вырабаў стаянак Крывінскага тарфяніку. Падлічыць іх дакладна дастаткова цяжка з прычыны наяўнасці вялікай колькасці невызначальных фрагментаў са слядамі апрацоўкі. На сягоння вядомы 452 ідэнтыфікаваныя вырабы (з фрагментамі), што складае 45,1% усіх прылад з косткі і рога, выяўленых на паселішчах Крывінскага тарфяніку. У дадзенай катэгорыі вылучана 18 класаў: сякеры, цёслы, долаты, праколкі, рэзальна-скаблільныя вырабы са шчапаных іклаў дзіка і разцоў бабра («рыбныя» нажы), разцы з цэлага ікла мядзведзя, скаблільна-рэзальныя вырабы з ніжніх сківіц бабра са збітымі кручкападобнымі адросткамі, адціскальнікі, рэтушоры, шпатэлі, арнаменціры, рыдлёўкі, лыжкі, рукаяткі, муфты сякерападобныя падавальнага сячэння, колючыя падтрохкутныя невялікія вырабы сплюшчанага сячэння, колючыя вырабы з адросткаў рагоў, вырабы невядомага прызначэння з ласінага рога з захаваным адросткам і часткай лапаты.

### *Клас 8: сякеры*

Пад сякерамі разумеем сякучыя прылады, пры мацаванні якіх лязо арыентавалася ўздоўж падоўжнай восі рукаяткі. Аднак некаторыя з гэтых вырабаў маглі мацавацца перпендыкулярна да яе і выкарыстоўвацца ў якасці цёслаў.

У цяперашні час на стаянках Крывінскага тарфяніку выяўлены 83 сякеры. У тым ліку на Асаўцы 2 — 51 артэфакт, на стаянцы Крывіна 3 — 16, Крывіна 1 — 12, Асавец 7 — 3, Асавец 4 — 1 экзэмпляр.

Традыцыйна ў сякер вылучаюць наступныя марфалагічныя часткі: лязо, абушок, корпус, адтуліну (мал. 21: 1, 2) (Graudonis, 1994, s. 74, 75, att. 23). На іх падставе былі вылучаны 2 групы з тыпамі і варыянтамі.

**Група I. Сякеры, выпрацаваныя з нешчапаных фрагментаў адросткаў рагоў, да 150 мм даўжынёй.** Сячэнне акруглае або акругла-авальнае.

***Тып a)*** На прамых фрагментах адросткаў рагоў, муфтавыя (мал. 22: 1—3).

***Тып b)*** На выгнутых фрагментах адросткаў рагоў:

- *варыянт 1:* муфтавыя (мал. 22: 5, 6);
- *варыянт 2:* правушныя (мал. 22: 4).

**Група II. Сякеры, вырабленыя са шчапаных фрагментаў адросткаў рагоў, 70—120 мм даўжынёй. Сячэнне сплюшчана-падавальнае.**

***Тып а)*** З лязом, прыблізна роўным шырыні корпуса:

*варыянт 1:* з падпрастакутным роўным лязом (мал. 22: 8);

*варыянт 2:* з закругленым лязом (авалападобныя вырабы) (мал. 22: 7).

***Тып b)*** Са звужаным лязом (долатападобныя) (мал. 22: 9, 10).

***Тып с)*** З пашыраным лязом (трапецападобныя) (мал. 22: 11, 12).

Найбольш распаўсюджанымі на стаянцы Асавец 2 былі сякеры тыпу IIс — 18 экзэмпляраў. Другім па распаўсюджанні тыпам быў Іа — 14 экзэмпляраў. Да тыпу Іb адносяцца 4 экзэмпляры, да IIа — 7, да IIb — 6 (3 сякеры прадстаўлены фрагментамі і нарыхтоўкамі і не падлягаюць дакладнай класіфікацыі).

### *Клас 9: цёслы*

Пад цёсламі разумеем сякучыя прылады, лязо якіх мацавалася перпендыкулярна падоўжнай восі тронка. На жаль, візуальна дастаткова цяжка правесці выразную мяжу паміж гэтым класам і некаторымі формамі сякер, для гэтага неабходны дэтальны трасалагічны аналіз[7].

На стаянках Крывінскага тарфяніку выяўлена 9 экзэмпляраў рагавых і касцяных цёслаў (разам з фрагментамі). 5 з іх паходзяць са стаянкі Асавец 5, 4 — са стаянкі Асавец 2 (некалькі вырабаў са стаянкі Крывіна 3 таксама могуць быць аднесены да гэтага класа прылад).

Марфалагічна цёслы складаюцца з тых жа частак, што і сякеры: лязо, абушок, корпус (мал. 21: 1, 2). Вылучаны дзве групы.

**Група І. Сякерападобныя вырабы падавальнага сячэння (рагавыя).** Адна плашчыня ляза прылады прамая або злёгку ўвагнутая, другая выпуклая (мал. 23: 1, 2).

**Група II. Цёслы С-падобнага сячэння (са шчапаных трубчастых костак).** Лёзы зведзены на вонкавую паверхню дыяфіза (мал. 23: 3).

На жаль, улічваючы ўмоўнасць вызначэння цёслаў без трасалагічнага аналізу, аўтар не мае магчымасці правесці належны статыстычны аналіз гэтага класа. Па папярэдніх даных, да класа І адносяцца 5 вырабаў (Асавец 2, 4), да класа II — 4 (Асавец 2, 4).

### *Клас 10: долаты*

Пад долатам разумеем выцягнутую прыладу са сплюшчаным лязом для выдзёўбвання адтулін і пазоў.

На сёння на стаянках Крывінскага тарфяніку выяўлена 25 экзэмпляраў гэтых вырабаў. Пераважная большасць паходзіць са стаянкі Асавец 2 — 17 экзэмпляраў, 6 прылад знойдзена на стаянцы Крывіна 1, на стаянцы Асавец 7 — 2.

У прылад гэтага класа прысутнічаюць наступныя марфалагічныя часткі: лязо, корпус, абушок (ударная пляцоўка) (мал. 21: 3, 4).

На падставе іх змен вылучаны 3 групы вырабаў:

---

[7] Сляды ад працы на сякерах размяшчаюцца па касой да лініі ляза, а на цёслах — пад простым кутом (Семенов, 1957, с.153).

**Група I. Са шчапаных трубчастых костак з раўнамерным павужэннем да ляза. Сячэнне, бліжэй да лёзавай часткі, падпрастакутнае.**

***Тып а)*** Масіўныя вырабы з прастакутна-падквадратным сячэннем лёзавай часткі (мал. 24: 6).

***Тып b)*** Невялікія па памерах вырабы (мал. 24: 5).

**Група II. Са шчапаных трубчастых костак з выразным звужэннем да вастрыя і ўдарнай пляцоўкі** (мал. 24: 4).

**Група III. З костак з захаваным эпіфізам як ударнай пляцоўкай** (мал. 24: 1—3).

На стаянках Крывінскага тарфяніку найбольш распаўсюджаны вырабы групы I (10 экзэмпляраў). Група II прадстаўлена 3 артэфактамі, і 5 экзэмпляраў належаць да групы III. 7 фрагментаў не падлягаюць дакладнай класіфікацыі.

### *Клас 11: праколкі*

Пад праколкамі разумеем завостраныя на адным канцы вузкія выцягнутыя прылады для вырабу адтулін у мяккім матэрыяле (тканіне, скуры).

На стаянках Крывінскага тарфяніку выяўлена 160 вырабаў гэтага класа. Пераважная большасць паходзіць са стаянкі Асавец 2 — 113 экзэмпляраў. Са стаянкі Асавец 4 паходзіць 5 вырабаў, са стаянкі Крывіна 1 — 16, са стаянкі Крывіна 2 — 1, са стаянкі Асавец 7 — 16 і са стаянкі Крывіна 3 — 8 экзэмпляраў, 1 выраб дэпашпартызаваны.

У праколак вызначаюць наступныя марфалагічныя часткі: вастрыё, корпус, галоўка (мал. 25: 1, 2), на падставе змен якіх былі вылучаны 4 групы.

**Група I. З дробных костак канечнасцей, пераважна грыфельных, з захаваным эпіфізам.**

***Тып а)*** Вастрыё сіметрычнае, сфарміравана счосам з абодвух бакоў (мал. 26: 2).

***Тып b)*** Вастрыё скошана на адну бакавіну (мал. 26: 1, 5).

**Група II. Са шчапаных трубчастых костак.**

***Тып а)*** Масіўныя вырабы з вылучаным вастрыём і корпусам без слядоў апрацоўкі:

*варыянт 1:* вастрыё сіметрычнае, сфарміравана счосам з абодвух бакоў (мал. 26: 3);

*варыянт 2:* вастрыё скошанае на адну бакавіну (мал. 26: 4).

***Тып b)*** Блізкія да плоскага сячэння невялікія шчэпкападобныя з ледзь заўважным вылучэннем вастрыя, корпус без слядоў апрацоўкі:

*варыянт 1:* вастрыё сіметрычнае, сфармавана счосам з абодвух бакоў (мал. 26: 8);

*варыянт 2:* вастрыё скошанае на адну бакавіну (мал. 26: 9).

**Група III. З нешчапаных трубчастых костак, у тым ліку птушыных, вастрыё зведзена на адну сценку** (мал. 26: 6).

**Група IV. З зубоў звяроў.** Вастрыё аформлена на каранi шляхам зразання адной яго паловы (мал. 26: 7).

Праколкі з невялікіх костак з захаванай галоўкай (група I) налічваюць 73 вырабы, праколкі групы II — 54, групы III — 3, групы IV — 2. Невызначальныя фрагменты вырабаў гэтага класа складаюць 28 экзэмпляраў.

### *Клас 12: рэзальна-скаблільныя вырабы са шчапаных іклаў дзіка і разцоў бабра («рыбныя» нажы) з выразна завостранымі бакавымі працоўнымі паверхнямі*

На стаянках Крывінскага тарфяніку выяўлены 81 «рыбны» нож (з фрагментамі). 52 прылады знойдзены на стаянцы Асавец 2, 17 — на стаянцы Асавец 7, 6 — на стаянцы Крывіна 1, 4 — на стаянцы Крывіна 3, 2 вырабы паходзяць са стаянкі Асавец 4.

У вырабаў гэтага класа вызначаюцца наступныя марфалагічныя часткі: вастрыё, канцавая частка, бакавіны, лёзы, увагнутая паўкруглая працоўная паверхня (мал. 25: 3, 4). На падставе іх змен вылучаны 5 груп з тыпамі і варыянтамі.

**Група I. Завостраныя на адным канцы вырабы.** Бакавіны па ўсёй даўжыні або па яе частцы зведзеныя на лязо (у сячэнні — 45 градусаў). Канцавая частка злёгку звужана.

***Тып a)*** Злёгку выгнутыя ў адзін бок біканічныя вырабы, найбольшае пашырэнне знаходзіцца прыблізна пасярэдзіне прылады (мал. 27: 7).

***Тып b)*** Шырокія прамыя біканічныя прылады з завужанымі вастрыём і канцавой часткай, набліжаюцца да вырабаў з дзвюма ўвагнутымі паверхнямі на адным канцы прылады (мал. 27: 8).

***Тып c)*** Вузкія, злёгку выгнутыя прылады з вастрыём, пазначаным двухбаковымі зрэзамі (мал. 27: 6).

**Група II. З увагнутай паўкруглай працоўнай паверхняй на адным з канцоў прылады і аформленымі пад лёзы адной ці дзвюма бакавінамі.**

***Тып a)*** Вырабы на шырокіх прамых пласцінках без пазначанай канцавой часткі:

*варыянт 1:* з выразнай увагнутай працоўнай паверхняй (мал. 27: 1);

*варыянт 2:* з ледзь пазначанай увагнутай працоўнай паверхняй, набліжаецца да завостраных на адным краі вырабаў (мал. 27: 2).

***Тып b)*** Вырабы на вузкіх выгнутых пласцінках:

*варыянт 1:* найбольшае пашырэнне размешчана прыблізна пасярэдзіне прылады, канцавая частка завужаная, шырокая ўвагнутая працоўная паверхня займае прыкладна 2/5 даўжыні (мал. 27: 4);

*варыянт 2:* з аднолькавай шырынёй па ўсёй даўжыні вырабу, увагнутая працоўная паверхня размешчана на тарцы (мал. 27: 3).

***Тып c)*** Кароткія вырабы, увагнутая працоўная паверхня займае прыблізна палову даўжыні. Набліжаюцца да камбінаваных вырабаў (мал. 27: 5).

**Група III. З дзвюма супрацьлегла размешчанымі ўвагнутымі працоўнымі паверхнямі на адным з канцоў прылады.**

***Тып a)*** Вырабы на шырокай прамой пласцінцы, увагнутыя працоўныя паверхні амаль сіметрычныя адна адной (мал. 27: 12).

***Тып b)*** Вырабы на вузкай выгнутай пласцінцы з завужанай канцавой часткай, адна ўвагнутая працоўная паверхня пераважае, другая пазначана значна горш (мал. 27: 11).

**Група IV. З увагнутай працоўнай паверхняй на бакавіне вырабу.**

***Тып a)*** Выгнутыя вырабы на пласцінцы аднолькавай шырыні, працоўная паверхня пачынаецца ад тарцовага кута пласцінкі, крыху яго закранаючы:

*варыянт 1:* вялікія вырабы, даўжынёй да 9 см (мал. 27: 9);

*варыянт 2:* дробныя вырабы, даўжынёй да 4 см (мал. 27: 14).

*Тып b)* Вырабы на выгнутых пласцінках са звужанай канцавой часткай, увагнутая працоўная паверхня крыху адступае ад тарцовага кута пласцінкі (мал. 27: 10).

**Група V. Камбінаваныя вырабы з увагнутымі працоўнымі паверхнямі на вастрыі і бакавой паверхні** (мал. 27: 13).

Найбольшая колькасць усіх вырабаў гэтага класа належыць да I і II груп — 33 і 27% адпаведна. Да групы III належыць 10%, да групы IV — 22%, да групы V — 8%.

Прызначэнне гэтых вырабаў да гэтага часу канчаткова не высветлена. Некаторыя даследчыкі адзначаюць, што зубная эмаль з'яўляецца найбольш цвёрдым арганічным матэрыялам і можа выкарыстоўвацца нават для апрацоўкі дрэва (Семенов, 1983, с. 57). І. А. Лозе нейкі час адносіла вырабы гэтага класа да ўпрыгожанняў (Лозе, 1979, с. 77). Форма вырабаў, наяўнасць рэзальнага краю і ў частк вырабаў вастрыя, сфармаванага паўкруглай працоўнай пляцоўкай на завяршэнні прылады, дазваляюць выказаць меркаванне пра выкарыстанне іх для апрацоўкі здабычы — рыбы і дзічыны, у якасці дапаўняльніка да крамянёвых нажоў і пласцін. Аднак выяўлены на стаянцы Крывіна 3 экзэмпляр са свідравінай, якая відавочна змяншае трываласць корпуса, наводзіць на думку аб магчымасці выкарыстання падобных па форме вырабаў у якасці нейкіх падвесак. Гэта ж можа датычыцца і вельмі фігурных экзэмпляраў, гэтак званых «птушачак».

### *Клас 13: разцы з цэлага ікла мядзведзя*

Масіўны выраб. Каронка ікла зрэзана (сплюшчана) у адной плоскасці, на ёй з унутранай бакавіны зуба аформлена ўвагнутае працоўнае вастрыё з лязом, завостраным прыблізна пад 45 градусаў (мал. 28: 1).

Выяўлены 1 экзэмпляр (Асавец 4).

### *Клас 14: скаблільна-рэзальныя вырабы з ніжніх сківіц баброў з збітымі кручкападобнымі адросткамі* (мал. 28: 2, 3)

На стаянцы Асавец 2 выяўлены 2 закончаныя вырабы гэтага класа (Разлуцкая, 1999, с. 99).

### *Клас 15: адціскальнікі*

Пад тэрмінам «адціскальнік» разумеем наканечнік складанай (кампазітнай) прылады, якая выкарыстоўвалася для аддзялення пласцін і адшчэпаў ад нуклеўсаў.

На стаянках Крывінскага тарфяніку на сягоння выяўлены 33 экзэмпляры касцяных і рагавых адціскальнікаў. 25 прылад паходзяць са стаянкі Асавец 2, 2 — са стаянкі Асавец 7, 1 — са стаянкі Крывіна 1, 2 — са стаянкі Крывіна 3, 3 вырабы дэпашпартызаваныя.

Вызначаюць наступныя марфалагічныя часткі: працоўная (ударная) пляцоўка, корпус, абушок (мал. 29: 2, 3), на падставе змен якіх былі вылучаны 4 групы.

**Група I. Выцягнутыя вузкія са звужанымі канцамі (з фрагмента рога)** (мал. 30: 1).
**Група II. Вырабы з рэзкім звужэннем да працоўнай пляцоўкі (са шчапаных трубчастых костак)** (мал. 30: 6, 7).
**Група III. Вырабы з крыху выгнутым корпусам (касцяныя або рагавыя).**

***Тып a)*** З навершаў адросткаў рагоў з плоскай закругленай у падоўжным сячэнні працоўнай пляцоўкай дыяметрам 6—8 мм (мал. 30: 2, 3).

***Тып b)*** Са шчапаных вузкіх фрагментаў трубчастых костак. Мае падквадратнае ці падтрохкутнае сячэнне корпуса і прыкругленую працоўную паверхню дыяметрам 45 мм (мал. 30: 4).

**Група IV. Вырабы акругла-авальнага сячэння з даволі кароткім корпусам і шырокай пляцоўкай** (мал. 30: 5).

Найбольш распаўсюджанымі на стаянках Крывінскага тарфяніку былі вырабы групы II — 18 экзэмпляраў. Да групы I належаць 4 прылады, да груп IIIa і IIIb — па 2, да групы IV — 3. Дагэтуль 3 артэфакты застаюцца з розных прычын па-за межамі класіфікацыі.

### *Клас 16: рэтушоры*

Пад рэтушорамі разумеем прылады, якія выкарыстоўваліся длч нанясення рэтушы пры апрацоўцы крамянёвых вырабаў.

На сёння на стаянках Крывінскага тарфяніку выяўлена 8 экзэмпляраў рэтушораў — 5 на стаянцы Асавец 2 і 3 на стаянцы Крывіна 1.

Вылучаюць наступныя марфалагічныя часткі рэтушораў: корпус, працоўная паверхня.

**Група I. Злёгку выгнутыя, бумерангападобныя, з дзвюма працоўнымі паверхнямі** (мал. 31: 1).
**Група II. Прамыя пласцiністыя.**

***Тып a)*** з адной працоўнай паверхняй (мал. 31: 4—7).

***Тып b)*** з дзвюма працоўнымі паверхнямі (авалападобныя) (мал. 31: 2).

**Група III. Лінзападобныя асіметрычныя, з дзвюма працоўнымі паверхнямі** (мал. 31: 3). Натуральныя зломы корпуса толькі крыху прыгладжаны падоўжным счэсваннем. Злёгку выпуклыя працоўныя пляцоўкі падпрастакутнага сячэння маюць невялікі спрацаваны ўхіл да адной з плашчыняў прылады.

На стаянках Крывінскага тарфяніку найбольш распаўсюджанымі былі вырабы групы IIb — 4 экзэмпляры (Асавец 2, Крывіна 1), IIa — 2. Групы I і III прадстаўлены па 1 экзэмпляры (Асавец 2).

### *Клас 17: шпатэлі*

Пад шпатэлямі разумеем лыжкападобныя прылады для вырабу глінянага посуду, у прыватнасці для загладжвання стыкаў паміж лентамі і выдалення лішкавай масы з паверхні.

На стаянках Крывінскага тарфяніку выяўлена 10 вырабаў гэтага класа, 9 паходзяць са стаянкі Асавец 2, 1 — са стаянкі Крывіна 1.

Вылучаюць наступныя марфалагічныя часткі шпатэляў: рукаятку і галоўку. Выраб можа ўтрымліваць штамп-арнаменцір (мал. 29: 1). На падставе змен гэтых частак вылучаны 2 групы з тыпамі.

**Група I. Лыжкападобныя невялікія шпатэлі.**

***Тып a)*** Авалападобная галоўка з лёгкім завастрэннем займае прыблізна палову даўжыні вырабу, рукаятка прамая роўная, на яе канцы маецца невялікае пашырэнне, на якім размешчаны грабеньчаты штамп (мал. 32: 3).

***Тып b)*** Галоўка прылады авалападобная, уцалелая частка рукаяткі крыху даўжэйшая за апошнюю і змяшчае пашырэнне ў цэнтральнай частцы. Грабеньчаты штамп размешчаны на заканчэнні галоўкі (мал. 32: 4).

***Тып c)*** Невыразныя вырабы з аморфнай, слаба вылучанай з аднаго боку галоўкай (мал. 32: 5).

**Група II. Выцягнутыя шпатэлі, формай падобныя да абутковых лыжачак.**

***Тып a)*** Вырабы з крыху вылучанай галоўкай (мал. 32: 2).

***Тып b)*** Вырабы з плаўным раўнамерным пашырэннем ад падставы да верху, без выразнай галоўкі (мал. 32: 1).

З выяўленых на стаянцы Асавец 2 вырабаў гэтага класа да групы Ia адносіцца 1 выраб, да групы Ib — 1, да групы Ic — 1, да групы IIa — 1, да групы IIb — 3. 1 экзэмпляр можа быць аднесены да шпатэляў I групы, і яшчэ 1 — да шпатэляў II групы.

Трэба таксама адзначыць, што вырабы групы Ia і Ib утрымліваюць грабеньчатыя штампы для нанясення арнаменту, што нейкім чынам выносіць гэтыя камбінаваныя прылады на мяжу двух класаў: шпатэляў і арнаменціраў.

## *Клас 18: арнаменціры*

Пад арнаменцірамі разумеем вырабы з косткі, якія выкарыстоўваліся для нанясення арнаменту на гліняныя вырабы.

Усяго на стаянках Крывінскага тарфяніку выяўлена 12 арнаменціраў. З іх 6 паходзяць са стаянкі Асавец 2, 3 — са стаянкі Асавец 7 і 3 — са стаянкі Крывіна 1.

У вырабаў гэтага класа вылучаюць: рукаятку, штамп (мал. 33: 2).

**Група I. Камбінаваныя арнаменціры.**

***Тып a)*** На касцяной падтрохкутнай пласціне з закругленай вяршыняй, якая адначасова з'яўляецца дадатковай працоўнай часткай. На падставе вырабу размешчаны зубчасты штамп. Сячэнне прылады лінзападобнае (мал. 33: 2).

***Тып b)*** З пад'язычнай косткі ў выглядзе клюшкі для хакея. На падставе размешчаны грабеньчаты штамп, а на тарцы — тонкі і гладкі (мал. 33: 1).

***Тып c)*** Цыліндрычныя з ямкавым і сплюшчаным авальным ці двума ямкавымі штампамі на тарцах (мал. 33: 3).

**Група II. На разцы бабра з зубчастым штампам на тарцы** (мал. 33: 4).

З усіх выяўленых у Крывінскім рэгіёне прылад гэтага класа да групы I адносяцца 11 вырабаў, да II — 1. Вельмі вялікая верагоднасць выкарыстання ў якасці лінейнага штампа разцоў бабра з падпраўленай крамянёвым інструментам пляцоўкай (мал. 33: 5). Аднак тут мы таксама абмежаваны адсутнасцю магчымасці правядзення трасалагічнага аналізу для вызначэння падобных артэфактаў. Два такія верагодныя арнаменціры без зубчастага штампа, але з падчэскай былі выяўлены на стаянцы Асавец 7 [аднак яны маглі выпасці з разцоў з ніжніх сківаў баброў (Жилин, 2001, с. 145)].

## *Клас 19: рыдлёўкі*

Пад рыдлёўкай разумеем масіўную прыладу для земляных гаспадарчых работ, з дапамогай якіх праводзілася выбарка папярэдне разрыхленай глебы.

У Крывінскім рэгіёне на сёння выяўлены 1 выраб, які паходзіць са стаянкі Асавец 2. Ён аформлены на лапатцы мядзведзя з захаваннем натуральнай формы косткі (мал. 34).

### *Клас 20: лыжкі*

4 экзэмпляры вырабаў гэтага тыпу былі выяўлены на стаянцы Асавец 2. На астатніх помніках Крывінскага рэгіёна яны пакуль невядомыя.

У лыжак традыцыйна вызначаюць наступныя марфалагічныя часткі: дзяржанне і апалонік (мал. 35: 1). На падставе іх змен намі вылучаны 2 групы.

**Група I. З акруглым (грушападобным) апалонікам і плаўным пераходам да дзяржання** (мал. 35: 1, 3).

**Група II. З апалонікам выцягнута-завостранай формы і выразным пераходам да дзяржання** (мал. 35: 2).

З выяўленых экзэмпляраў 3 адносяцца да групы I і 1 — да групы II. Рэальная мяжа гэтых дзвюх груп даволі празрыстая. Характэрнай рысай крывінскіх вырабаў з'яўляецца даволі вялікі памер — папярочная шырыня апалоніка каля 5 см ці больш.

### *Клас 21: рукаяткі*

Пад рукаяткай разумеем выраб, прызначаны для замацавання тыльнай часткі крамянёвай прылады для наступнага трымання ў руцэ. Дакладна ідэнтыфікаваны толькі адзін выраб з косткі, выяўлены на стаянцы Асавец 2. Гэта ўтульчатая рукаятка падавальнага сячэння, сценкі якой паступова звужаюцца ад падставы. Выраб заканчваецца выразным, аддзеленым ад корпуса выступам, навершам. Яно мае 4 свідраваныя адтуліны, якія служылі або для мацавання прылады да адзежы, або для фіксацыі на ёй нейкіх элементаў упрыгожвання. 2 адтуліны размешчаны побач на тарцы і 2 па краях (мал. 36: 1).

### *Клас 22: муфты сякерападобныя падавальнага сячэння* (мал. 36: 2)

Адзіны экзэмпляр выраблены з цэльнага фрагмента рога, адтуліна падавальных у плане абрысаў прабіта крыху асіметрычна, са зрухам верхняй выхадной адтуліны да абушка. Моцна спарахнелы стан паверхні вырабу не дазваляе дакладна рэканструяваць прыладу, аднак частка тарцовага паглыблення, у якой фіксаваўся абушок крамянёвай прылады, захавалася.

### *Клас 23: колючыя падтрохкутныя невялікія вырабы сплюшчанага сячэння*

Дробныя не пашкоджаныя вырабы ў выглядзе сплюшчаных выцягнутых трохкутнікаў даўжынёй каля 28 мм. Вастрыё выцягнутае, вельмі вострае, тыльная частка роўная, яе паверхня моцна збітая ад выкарыстання. Пераход да вастрыя плаўны, прыблізна ад сярэдзіны вырабу (мал. 36: 3) або ад самай яго падставы (мал. 36: 4). Выкарыстанне гэтых інструментаў

не зусім яснае — як пасрэднікі пры апрацоўцы нейкага матэрыялу або як частка зборнага наканечніка стралы.

Тры экзэмпляры выяўлены на стаянцы Асавец 2.

### *Клас 24: колючыя вырабы з адросткаў рагоў*

На стаянках Крывінскага тарфяніку выяўлена 14 вырабаў гэтага класа (10 — Асавец 2, 1 — Асавец 4, 3 — Крывіна 1).

**Група І. Простыя колючыя.** Натуральнае завяршэнне адростка завострана па перыметры, як аловак. Тыльная (абушковая) частка пераважна не апрацаваная, часам носіць сляды кальцавога надсякання для наступнага ламання (мал. 37: 2, 3).

**Група ІІ. Кайлападобныя вырабы.** Прыблізна пасярэдзіне корпуса прылады з дзвюх супрацьлеглых паверхняў надчасаны невялікія плоскасці, што дае магчымасць меркаваць пра мацаванне ў гэтым месцы рукаяткі. Абушковая частка акуратна абрэзана і зароўненая (мал. 37: 1).

**Група ІІІ. Складаныя колючыя вырабы з захаванай часткай лапаты і дзвюма або трыма паралельнымі галінамі (рагаціны?).** Натуральнае завяршэнне ўсіх адросткаў крыху падпраўлена і носіць сляды спрацаванасці. На заканчэнні прылады лапата рога зведзена ў завужаны насад. Апошні дастаткова зручны для трымання ў руцэ, аднак не выключана яго мацаванне да дрэўка (мал. 38).

На стаянках Крывінскага тарфяніку вырабаў групы І выяўлена 10 экзэмпляраў (Асавец 2, Крывіна 1), групы ІІ — 1 (Асавец 2), групы ІІІ — 3 (Асавец 2) экзэмпляры.

Верагоднае выкарыстанне гэтых вырабаў — разрыхленне зямлі пры земляных працах для наступнай выбаркі з дапамогай рыдлёвак. Наяўнасць на некаторых экзэмплярах слядоў мацавання дазваляе выказаць меркаванне, што гэта былі вырабы, падобныя да сучасных кірак, якія замацоўваліся ў расшчэпе на канцы дрэўка з дапамогай абмоткі вяроўкай расліннага ці жывёльнага паходжання.

### *Клас 25: вырабы невядомага прызначэння з ласінага рога з захаваным адросткам і часткай лапаты* (мал. 39)

На стаянцы Асавец 2 выяўлены 4 падобныя артэфакты. Сляды апрацоўкі і выкарыстання дазваляюць думаць пра завершанасць дадзеных прылад. Верагоднае прызначэнне — завершаныя адціскальнікі, у якіх фрагмент лапаты рога адыгрываў ролю ўпора для пляча.

Такім чынам, у цяперашні час на стаянках Крывінскага тарфяніку выяўлена 999 прылад з косткі і рога. Сярод іх ідэнтыфікаваны 736, яны адносяцца да 25 класаў вырабаў. Найбольшую па колькасці катэгорыю складаюць прылады працы і побыту — 452 экзэмпляры (45,3%), група прылад палявання і рыбацтва налічвае 284 вырабы (28,4%). 263 знаходкі выяўлены ў моцна фрагментаваным стане і не падлягаюць дакладнай ідэнтыфікацыі (26,3%) (мал. 40). Частка з іх з'яўляецца самымі першаснымі нарыхтоўкамі або лішкавымі часткамі ад вырабу прылад.

Пры разглядзе размеркавання прылад з косткі і рога па стаянках атрымліваецца наступны малюнак: стаянка Асавец 2 прадстаўлена 602 экзэмплярамі, што складае 60,2% агульнай лічбы артэфактаў. Наступнай па колькасці з'яўляецца стаянка Крывіна 1 — 157 артэфактаў (15,7%). Далей, па зыходзячай, ідуць паселішчы Асавец 7 (139 артэфактаў, 13,9%), Асавец 4 (41 артэфакт, 4%), Крывіна 3 (39 артэфактаў, 3,8%) і Крывіна 2 (5 артэфактаў, 0,5%). 16 вырабаў у калекцыі дэпашпартызаваныя (1,6%).

Адным з выразных маркёраў касцяной і рагавой калекцыі стаянак Крывінскага рэгіёна з'яўляецца дастаткова высокае прадстаўніцтва вырабаў катэгорыі прылад палявання і рыбалоўства — 38,6% ідэнтыфікаваных вырабаў (28,4% агульнай колькасці матэрыялу). Звычайна, як адзначаюць даследчыкі і паказваюць матэрыялы помнікаў, костка і рог з'яўляліся сыравінай пераважна для прылад працы і побыту (Крайнов, 1972, с. 82). У Крывінскім рэгіёне іх колькасць складае 61,4% ідэнтыфікаваных вырабаў, або 45,2% усіх артэфактаў.

Сярод прылад палявання і рыбалоўства найбольш шматлікі клас складаюць наканечнікі стрэл — 159 экзэмпляраў, аб'яднаных ў 16 груп. У іх формах прасочваецца прысутнасць 4 абагульняльных архетыпаў, а менавіта зборнага «крывінскага», лістападобнага, біканічнага чаранковага і іголкавага. Пераважная большасць груп наканечнікаў, выяўленых у рэгіёне, утворана на іх падставе. Выразна прышлымі формамі з'яўляюцца ромбападобны наканечнік з насадам падквадратнага сячэння і лопасны наканечнік стрэл.

Сярод прылад працы і побыту на першых месцах па колькасці знаходзяцца праколкі, сякеры і «рыбныя» нажы, адпаведна 160, 83 і 81 экзэмпляр. Для праколак самым распаўсюджаным было выкарыстанне дробных костак з захаваным эпіфізам. Сярод сякер колькасная перавага належыць розным тыпам вырабаў са шчапанага рога. Для «рыбных» нажоў найбольш устойлівымі ўзорамі з'яўляюцца завостраныя на адным канцы вырабы і прылады з увагнутай паўкруглай працоўнай паверхняй на адным з яе канцоў і аформленымі пад лёзы адной ці дзвюма бакавінамі.

# ТЭХНАЛОГІЯ МАЙСТРАВАННЯ КАСЦЯНЫХ І РАГАВЫХ ВЫРАБАЎ

Дзякуючы адноснай мяккасці і падатлівасці крамянёвым інструментам, касцяныя і рагавыя артэфакты стаянак Крывінскага тарфяніку захоўваюць на сваёй паверхні выразныя сляды апрацоўкі і спрацаванасці. Важным з'яўляецца і тое, што ў дадзеным рэгіёне амаль не выкарыстоўвалася завяршальнае паліраванне прылад, якое звычайна знішчала ўсе папярэднія сляды майстравання. Серыйнасць многіх класаў, наяўнасць нарыхтовак на розных этапах, гэтаксама як і бракаваных фрагментаў, дазволілі нам рэканструяваць працэс вырабу, пачынаючы ад першасных нарыхтовак. На жаль, наяўных магчымасцей недастаткова для правядзення дасканалага трасалагічнага аналізу, які б дазволіў нам больш дакладна размежаваць пэўныя класы прылад, гэтаксама як і функцыянальнае прызначэнне некаторых з іх (напрыклад, сякеры-цёслы; дакладнае прызначэнне вырабаў са шчапаных іклаў дзіка і разцоў бабра).

## Інструменты апрацоўкі

Костка і рог апрацоўваліся з дапамогай пераважна крамянёвых інструментаў. Аднак вырабы гэтага віду на помніках Крывінскага тарфяніку параўнальна нешматлікія (мал. 41, 42) (Чарняўскі, 1997а, с. 196—197; Чарняўскі, 1997б, с. 315—316).

На ранніх стадыях майстравання часта выкарыстоўвалася сякера, асабліва пры апрацоўцы рога. Далейшая апрацоўка праводзілася з дапамогай разнастайных рэзальных прылад на адшчэпах і пласцінках. Адтуліны афармляліся з дапамогай пракрутак. Здзіўляе адзінкавасць крамянёвых разцоў, хаця менавіта іх звычайна атаясамліваюць з касцярэзнай вытворчасцю. Магчыма, гэтую ролю адыгрывалі невялікія рэтушаваныя рэзчыкі і шматлікія сячэнні пласцінак. Не выключана выкарыстанне для прарэзвання пазоў і выпадковых прылад. Некаторыя з іх пакідалі пасля сябе дастаткова грубы працоўны след да двух сантыметраў шырынёй (мал. 51: 1, 54). Пры працы з вырабамі невялікага памеру, асабліва на апошніх этапах, выкарыстоўваліся разнастайныя скоблі. Верагодна, для фінальнай зачысткі паверхні падыходзілі і некаторыя скраблоідныя вырабы.

## Зыходная сыравіна

У цяперашні час па розных прычынах цяжка дакладна вызначыць і падлічыць відавую прыналежнасць костак, з якіх былі змайстраваны выяўленыя на стаянках Крывінскага тарфяніку вырабы. Зыходзячы з найбольш прадстаўленых у астэалагічных калекцыях Крывінскіх помнікаў жывёл —

аб'ектаў палявання, можна лічыць, што сярод іх пераважалі ласіныя, дзічыныя і мядзведжыя. У гэтым сэнсе рэгіён Крывінскага тарфяніку не вылучаецца сярод іншых падобных помнікаў каменнага і бронзавага вякоў лясной паласы Цэнтральнай і Усходняй Еўропы (Жилин, 1993, с. 18). У сваю чаргу, С. В. Ашыбкіна на падставе матэрыялаў з помніка Вярэцце 1 выказала меркаванне, што нейкай абавязковай спецыялізацыі на костках пэўных відаў не было, а ў выкарыстанне ішла любая прыгодная сыравіна (Ошибкина, 1997, с. 69).

Для вырабу прылад найчасцей выбіралі буйныя трубчастыя і пясцевыя косткі, метаподзіі, некаторыя іншыя. Менавіта гэтыя часткі шкілету ўтрымліваюць найбольш тоўстую кампакту[8].

Пэўнай асаблівасцю стаянак Крывінскага тарфяніку з'яўляецца адносна невялікая роля рагавых прылад (каля 13%). Для іх вырабу найбольш часта выкарыстоўвалі ласіныя і аленевыя рогі, радзей — турыныя (вызначэнне А. Разлуцкай). Для некаторых тыпаў прылад выкарыстоўваліся рогі дробных капытных — казуляў і інш.

## Папярэдняя падрыхтоўка касцянога і рагавога матэрыялу

Для вырабу прылад выбіралі пераважна свежаздабытыя косткі і рогі (што не выключае выкарыстання ляжалых фрагментаў, асабліва скінутых рагоў). Як адзначыў С. А. Сямёнаў, кампакта свежаачышчанай трубчастай косткі нейкі час застаецца даволі мяккай і вязкай і пры некаторых намаганнях можа апрацоўвацца з дапамогай крамянёвых прылад без дадатковага размякчэння (Семенов, 1957, с. 192). Аднак найчасцей перад пачаткам вырабу прылад касцяная і рагавая сыравіна праходзіла папярэднюю апрацоўку, пасля якой яна станавілася больш падатлівай крамянёвым інструментам (гэтай працэдуры падлягалі пераважна ўжо расчлянёныя фрагменты костак і рагоў). Без папярэдняга размякчэння выраб прылад з дадзеных матэрыялаў падаецца вельмі складаным і доўгатэрміновым заняткам.

Для размякчэння костак і рагоў мясцовае насельніцтва магло выкарыстоўваць працяглае вымочванне ў вадзе, награванне над адкрытым агнём, награванне (выпарванне) мокрай косткі, загорнутай у мокрую тканіну або размочаную скуру, над вогнішчам, кіпячэнне (чым даўжэй, тым лепей размякчаецца костка, этнаграфічныя прыклады з р. Амур паказваюць сярэднюю працягласць такой варкі — 5—10 гадзін), вымочванне ў кіслым асяроддзі (пракіслым малацэ), выпарванне ў попельнай яме пад разведзеным вогнішчам (Bagniewski, 1992, s. 18, rys. 4; Семенов, 1957, с. 192, 194). Некаторыя польскія даследчыкі выказваюць думку аб магчымым выкарыстанні для гэтых мэт спецыяльных кіслотных асяроддзяў з уключэннем раслiннага інгрэдыенту, напрыклад, тоўчанага шчаўя (Bagniewski, 1992, s. 18). Не адмаўляючы магчымасці існавання гэтага спосабу на Крывінскім тарфяніку, трэба адзначыць яго каляндарную абмежаванасць вясенне-летнім сезонам.

У залежнасці ад складанасці формаў задуманай прылады і працягласці яе вырабу (колькасці этапаў), працэдуру размякчэння сыравіны, верагодна, даводзілася паўтараць некалькі разоў.

[8] Кампакта (лац.— compacta) — шчыльная знешняя абалонка косткі, рога.

Дакладна вызначыць, які (ці якія) з вышэйапісаных спосабаў выкарыстоўваўся на стаянках Крывінскага тарфяніку, на сёння немагчыма. Адзінымі пэўнымі сведчаннямі, выяўленымі пад час даследавання помнікаў, з'яўляюцца абпаленыя зломы фрагментаў рагоў, якія паказваюць на наяўнасць прамога награвання над вогнішчам.

Па астыванні (высыханні) матэрыял зноў набываў свае прыродныя ўласцівасці і гатовая прылада магла выкарыстоўвацца па прызначэнні.

## Атрыманне першапачатковых нарыхтовак

Характэрнай рысай стаянак Крывінскага тарфяніку з'яўляецца частае выкарыстанне ў якасці першасных нарыхтовак невялікіх шчапаных фрагментаў трубчастых костак (мал. 43). Цэлая костка магла падзяляцца на фрагменты некалькімі спосабамі. Самым элементарным з'яўлялася *простае драбленне* дыяфізу косткі з дапамогай камянёў. З атрыманага друзу выбіраўся патрэбны фрагмент. Больш працаёмкім было *мэтанакіраванае расшчапленне* косткі. Для гэтага спачатку ад яе аддзяляліся адзін ці абодва эпіфізы, пасля чаго з дапамогай каменнай сякеры (кліна) дыяфіз шчапаўся па даўжыні. Дакладна вызначыць, які з гэтых спосабаў пераважаў на стаянках Крывінскага тарфяніку, немагчыма. Аднак ускосным сведчаннем можа быць вялікая колькасць шчапаных фрагментаў трубчастых костак выпадковых формаў, выяўленых у культурным пласце. Некаторыя нарыхтоўкі даюць падставу сцвярджаць пра выкарыстанне *адбойнай тэхнікі*, калі ўдар наносіўся па датычнай да паверхні папярок падоўжнай восі масіўнай косткі, у выніку чаго ўтвараўся адшчэп. Гэтым жа спосабам некаторым першасным нарыхтоўкам надавалі агульныя абрысы будучай прылады, аднак ён быў звязаны з вялікай небяспекай бракавання вырабу (мал. 43: 4).

На стаянках Крывінскага тарфяніку не выяўлена слядоў тэхнікі атрымання нарыхтовак праз іх выразанне з костак з дапамогай разцоў, якая выкарыстоўвалася ў Верхнім Паволжы (Жилин, 1993, с. 18—19).

Для вырабу рагавых прылад часта выкарыстоўваліся адросткі. Для іх аддзялення ад астатняй часткі рога каля ствала на падставе адростка рабіўся глыбокі кальцавы надрэз па перыметры. Потым гэтае месца награвалася на вогнішчы і ламалася — атрымліваўся адносна роўны разлом. Сярод знаходак са стаянак Крывінскага тарфяніку сустракаюцца ўжо адламаныя адросткі рагоў з апаленым зломам. Такія ж фрагменты былі выяўлены і пад час раскопак краснасельскіх шахтаў (Чарняўскі, Кудрашоў, 1996, с. 25). Часам ламанне праводзілася без папярэдняга нагрэву. У некаторых выпадках надрэз рабіўся толькі з аднаго боку, але большай глыбіні. У такім разе пад час ламання ствала на дзве часткі атрымліваўся косы аморфна-шчапаны разлом (мал. 44: 1).

Драбнейшыя фрагменты адросткаў і саміх ствалоў раздзяляліся таксама з дапамогай кальцавога надрэзу. Такім жа спосабам чляніліся і шырокія фрагменты лапат ласіных рагоў (мал. 44: 2, 3). Падобная тэхніка раздзялення рагоў і іх фрагментаў была шырока распаўсюджана і з'яўлялася найбольш практычнай (Bagniewski, 1992, s. 19—20). Для некаторых прасцейшых вырабаў, такіх як адціскальнікі, першасная апрацоўка на гэтым заканчвалася.

## Майстраванне вырабаў

На далейшых этапах вырабу касцяных і рагавых прылад на стаянках Крывінскага тарфяніку выкарыстоўваліся разнастайныя тэхнікі: сячэнне, пілаванне, рэзанне, скабленне, габляванне, тэхніка выдалення лішкавай масы з дапамогай папярочнага надсякання/надразання, свідраванне і выдзёўбванне адтулін (мал. 45).

Для **наканечнікаў стрэл** абіраліся пераважна прыдатныя адшчэпы са сценак буйных трубчастых костак. З усёй калекцыі вырабаў гэтага класа на стаянках Крывінскага тарфяніку вядомы толькі 1 рагавы экзэмпляр (мал. 9: 2). Касцяным адшчэпам з дапамогай пераважна габлявання і скаблення надавалася першапачатковая форма (мал. 46). У выпадках, калі патрабавалася зняцце вялікай колькасці лішкавай масы (пры афармленні чаранкоў, перахопаў корпуса і інш.), выкарыстоўвалася методыка нанясення вертыкальных насечак на паверхню вырабу (мал. 45: 6; 47: 1). У далейшым падрыхтаваныя такім чынам участкі здымаліся з дапамогай падоўжнага зразання і скаблення. Прычым у месцах больш моцнага націску ляза і загладжвання папярэдне насечаных плашчынь сляды апрацоўкі набываюць характэрны хвалісты выгляд (мал. 47: 2).

Пасля надання наканечніку асноўных абрысаў адбывалася дадатковая падпраўка дэталяў. З дапамогай нажа афармляўся ўпор-уступ да чаранка (пад набліжаным да прамога вуглом да восі прылады), прытуплялася вастрыё, пазначаліся кальцавыя валікі або раўкі на галоўцы вырабаў.

Пераважная большасць наканечнікаў стрэл на заключнай стадыі вырабу не паліравалася (за выключэннем некаторых іголкападобных) і пасля завяршэння апрацоўкі нясе звыклыя падоўжныя сляды скаблення. Некаторыя вырабы арнаментаваліся звычайна кароткімі насечкамі па выступаючых частках (мал. 48: 2, 3). Элементам упрыгожвання прылад трэба таксама лічыць выкарыстанне ў наканечніках стрэл складаных геаметрычных фігур, пераважна шматграннікаў, у сячэнні. Яны або займалі невялікую частку прылады, або ахаплівалі яе амаль цалкам (мал. 48: 1, 2).

Гатовыя вырабы мацаваліся ў расшчэпе дрэўка з дапамогай разагрэтай смалы або бярозавага дзёгцю. На стаянках Крывінскага тарфяніку выяўлены сляды толькі бярозавага дзёгцю (мал. 49). Хутчэй за ўсё мела месца і дадатковае абмотванне тонкім шнуркам расліннага ці жывёльнага паходжання. Стрэлы і іх рэшткі са слядамі такога мацавання наканечнікаў былі выяўлены на поўдні Беларусі і ў Верхнім Паволжы (Жилин, 1993, с. 21; Крывальцэвіч, 1996, с. 150).

**Наканечнікі дзідаў** са стаянкі Асавец 2 выраблялiся з нешчапаных або расколатых уздоўж на дзве часткі фрагментаў масіўных трубчастых костак (мал. 13: 1, 2, 4). Вастрыё з дапамогай крамянёвай сякеры і нажа афармлялася ў выглядзе доўгага косага зрэзу і загладжвалася, тыльная частка вырабу раўнялася, утвараючы ў экзэмплярах з нешчапаных фрагментаў утулку. Гатовыя вырабы мацаваліся да дрэўка, верагодна, гэтак жа, як і наканечнікі стрэл (мал. 49: 1, 2). На жаль, падобных экзэмпляраў у цэлым выглядзе на стаянках Крывінскага тарфяніку выяўлена не было, таму спосаб іх мацавання застаецца нявызначаным.

Для вырабу **кінжалаў** падбіраліся абломкі масіўных трубчастых і цэлыя лакцявыя косткі буйных капытных. У першым выпадку прылады апрацоў-

валіся падоўжным зразаннем і счэсваннем, з дапамогай якіх ім надавалі ланцэтападобную форму і вылучалі рукаятку (мал. 50: 1). Некаторыя вырабы дадаткова прашліфоўваліся па ўсёй паверхні. Пры вырабе кінжалаў з лакцявых костак апошнія спачатку абразаліся па дыяфізе. Эпіфіз пакідаўся і адыгрываў у далейшым ролю рукаяткі. Дыяфіз па адной плашчыні счэсваўся, выраўноўваўся і падвастраўся, утвараючы клінок (мал. 50: 2). З прамянёвых костак падобным спосабам выраблялiся стылетападобныя кінжалы з падавальным сячэннем ляза.

На стаянцы Асавец 2 выяўлена рагавая нарыхтоўка двух ножападобных вырабаў (мал. 51: 1). З дапамогай крамянёвай сякеры і нажа нешчапанаму фрагменту рога быў нададзены прыблізны профіль прылады. Потым з двух супрацьлеглых бакоў, ад спінкі і вастрыя насустрач адзін аднаму былі праведзены падоўжныя пазы, якія павінны былі прайсці праз кампакту і дасягнуць губчатага рэчыва. Пасля гэтага нарыхтоўка была б падзелена на дзве аднолькавыя часткі з дапамогай сякеры ці кліна. Канчатковая даводка атрыманых кінжалаў праводзілася б ужо паасобку. На жаль, закончаных вырабаў з рога выяўлена не было і фінальны этап іх апрацоўкі можа быць рэканструяваны толькі з пэўнай доляй верагоднасці. Паводле нарыхтоўкі бачна, што прылады маюць выцягнутую клінападобную форму з выгнутым вузкім вастрыём. Магчыма, што ў вырабаў гэтай групы, таксама як і ў ланцэтападобных, рукаяткі абмотваліся скурай або ўстаўляліся ў драўляную ці касцяную рукаятку.

Пры вырабе **наканечнікаў гарпуноў** на першым этапе з прыдатнага фрагмента трубчастай косткі або рога выгаблёўвалася сплюшчаная, у цэлым адпаведная прапорцыям будучай прылады нарыхтоўка. Яе паверхня акуратна раўнялася. Пасля чаго, як бачна з выяўленых незакончаных артэфактаў, афармляліся зубцы (мал. 51: 2, 3). Пры іх вырабе на адной з бакавін рабіліся косыя прапілы, глыбіня якіх адпавядала будучай вышыні зубцоў. Пры далейшым афармленні бакавіна нарыхтоўкі паміж прапіламі зразалася па дыяганалі (ад заканчэння бліжэйшага ад насада і да падставы наступнага да вастрыя). У выніку атрымліваліся зубцы, якім пазней скабленнем з вонкавага і падразаннем з унутранага боку надавалі канчатковую форму. У некаторых выпадках зубцы афармляліся толькі з дапамогай выразання.

Насады вырабаў, як бачна з выяўленага матэрыялу, выразаліся з дапамогай крамянёвага нажа. Больш працы патрабаваў насад з адтулінай, якая свідравалася на выразным выступе з боку зубцоў.

Наканечнікі гарпуноў на завяршальным этапе апрацоўкі акуратна абскобліваліся нажом. Зашліфаваныя вырабы або іх фрагменты на стаянках Крывінскага тарфяніку не знойдзены.

**Рыбацкія кручкі** (U-падобныя) выраблялiся наступным спосабам. Напачатку рыхтавалася роўная пласціна з фрагмента косткі або ікла дзіка, якая спрэс або па краях падганялася падоўжным счэсваннем да прыблізна адной шырыні (мал. 52: 3). Першапачаткова яна магла быць амаль удвая даўжэйшая за намечаны выраб, бо ўключала ў сябе лішкавую частку для зручнасці апрацоўкі. Апошняй мог з'яўляцца эпіфіз у выпадку, калі пласціна была аформлена на сценцы невялікай трубчастай косткі. Далей на нарыхтоўцы, адступіўшы на прыблізную шырыню і даўжыню будучай ножкі, з дзвюх плашчынь насустрач свідравалася адтуліна. Яна абазначала будучы паддзеў

кручка і падставу ножкі з унутранага боку (мал. 52: 7, 8). Ад свідравіны паралельна бакавінам нарыхтоўкі праразаліся дзве доўгія вузкія баразёнкі, якімі намячаліся ўнутраныя бакі цаўя і джала. Баразёнкі праразаліся звычайна з дзвюх плашчынь насустрач. Радзей яны рабіліся толькі на адной плоскасці. Баразёнкі з боку джала праразаліся насустрач наскрозь, каля ножкі ж яны звычайна дасягалі 1/3 таўшчыні вырабу з кожнага боку. Потым унутраная частка нарыхтоўкі выломлівалася, сляды аблому акуратна счышчаліся, папярэдне афармляліся ўнутраная частка ножкі і паддзеў.

Такі дастаткова складаны тэхналагічны спосаб вырабу кручкоў паказвае на высокую развітасць касцярэзнага майстэрства рэгіёна. Пры гэтым прасочваецца вялікі працэнт браку пад час выдалення лішкавай часткі нарыхтоўкі. На сягоння выяўлены 4 непашкоджаныя лішкавыя часткі і 4 абламаныя нарыхтоўкі гэтай групы (мал. 52: 4—8).

На стаянцы Іванаўскае VII на Верхнім Паволжы быў выяўлены спараны лішкавы фрагмент трапецападобнай формы са слядамі адтулін на двух супрацьлеглых вострых кутах (Жилин, 2002, рис. 31: 7). Дадзеная знаходка сведчыць пра адначасовы выраб двух кручкоў са свідраваным паддзевам з адной нарыхтоўкі. У сувязі з гэтым звяртае на сябе ўвагу касцяная пласцінка з дзвюма адтулінамі на супрацьлеглых прыкругленых канцах, выяўленая на стаянцы Асавец 2 (мал. 52: 9), якая можа быць вызначана як нарыхтоўка для адначасовага вырабу двух рыбацкіх кручкоў.

Пасля таго як былі аформлены агульныя абрысы вырабу, па меркаванай лініі абушка праводзілася глыбокая адна- ці двухбаковая вузкая нарэзка для аддзялення прылады ад падставы нарыхтоўкі. Сам працэс ламання быў характэрны рызыкай пашкоджання амаль гатовых кручкоў (мал. 52: 2).

На наступным этапе афармляліся абушок, джала і ножка. Апошнімі выразалі барадку і паддзеў, пасля чаго праводзілася канчатковае загладжванне паверхні. Гатовыя вырабы не падшліфоўваліся, аднак завяршаючае падоўжнае счэсванне мае вельмі далікатны характар.

У матэрыяле стаянак Крывінскага тарфяніку колькасць пашкоджаных нарыхтовак і лішкавых фрагментаў майстравання складае 50% усіх выяўленых артэфактаў дадзенага класа.

Пры вырабе **«крукоў» рыбацкіх** выкарыстоўвалася натуральная форма сківічных костак буйных звяроў. Першапачаткова аддзяляўся неабходны адрэзак косткі. Гэта рабілася з дапамогай двухбаковых нарэзак, якімі былі абазначаны галоўка і патыліца вырабу. На бакавым адростку афармлялася масіўнае джала, тыльная частка прылады апрацоўвалася, у ёй прасвідроўвалася або прадзёўбвалася адтуліна. Часам, на заключным этапе апрацоўкі, прылады загладжваліся і пакрываліся насечкавым арнаментам (мал. 20: 2).

**Рагавыя сякеры** выраблялiся з цэлых або шчапаных фрагментаў рагоў (свідраваныя сякеры выраблялiся выключна з цэлых). Асноўная частка працы, асабліва на першых этапах, праводзілася з дапамогай каменнай ці крамянёвай сякеры, ад выкарыстання якіх на некаторых вырабах захаваліся характэрныя сляды.

Для першай групы прылад найчасцей абіраліся выгнутыя фрагменты адросткаў або ствалоў рагоў. Лязо вырабу прымяркоўвалася да згібу і зводзілася на кампакту вонкавай ад згібу паверхні, у выніку чаго яно набывала сіметрычную ў плане форму (мал. 53: 2). Пры наяўнасці прамога фрагмента

лязо зводзілася на адну з бакавін, аднак у такім разе яно мела асіметрычную форму (мал. 53: 1). У абодвух выпадках з аднаго боку ішоў асноўны скос, а з другога лязо толькі падпраўлялася. Тыльная частка прылады закруглялася. Часам абушок патанчаўся — ён адыгрываў ролю чаранка для драўлянай муфты. Падобная паслядоўнасць этапаў апрацоўкі выкарыстоўвалася і пры вырабе рагавых цёслаў.

Для сякер са свідраванай адтулінай падбіралася канцавая частка адростка. На натуральным заканчэнні рога афармлялася лязо. У вызначаным для адтуліны месцы з двух супрацьлеглых бакоў рабіўся плоскі падчос для свердзела. Свідравалі, верагодна, тым жа спосабам, што і камень, — выкарыстоўвалася трубчастая костка, напоўненая мокрым пяском, які «вымолваў» адтуліну. Таксама мог выкарыстоўвацца свердзел з крамянёвым наканечнікам.

Сякеры са шчапанага рога выраблялiся ў некалькі этапаў. Напачатку фрагмента рога або косткі з дапамогай каменнай або крамянёвай сякеры счэсваннем надаваліся чарнавыя абрысы будучага вырабу. Потым па супрацьлеглых вузкіх бакавінах і тарцах атрыманай нарыхтоўкі насустрач адзін аднаму з дапамогай разца праразаліся глыбокія апяразвальныя пазы, якія пазначалі лінію будучага падзелу. Як толькі яны дасягалі губчатага рэчыва, нарыхтоўка шчапалася, а атрыманыя палавіны ў далейшым апрацоўваліся паасобку (мал. 54). Характэрным следам такой апрацоўкі з'яўляецца падоўжны выступ на ўнутранай бакавіне шчапаных сякер, утвораны рэшткамі губчатага рэчыва. Па іх якраз бачна глыбіня прарэзаных пазоў раздзялення. На наступных этапах з нарыхтовак здымаліся рэшткі губчатага рэчыва, афармляліся лязо і абушок. У выпадку з больш дробнымі вырабамі фрагмент рога мог падзяляцца на два кавалкі без папярэдняга надання формы.

Гатовыя прылады як са шчапаных, так і з цэлых фрагментаў рагоў акуратна загладжваліся, лёзы ўсіх вырабаў заполіраваныя (гэта можа таксама з'яўляцца вынікам працяглага выкарыстання, аднак без выкарыстання моцнага павелічэння выявіць розніцу амаль немагчыма).

Пры вырабе **долатаў** асноўная ўвага звярталася на апрацоўку ляза і ўдарнай пляцоўкі. Астатнія часткі корпуса маглі ўвогуле пакідацца неапрацаванымі (мал. 24). У залежнасці ад патрэбы для прылад гэтага класа маглі падбірацца як трубчастыя косткі розных памераў з захаванымі эпіфізамі, так і шчапаныя фрагменты масіўных костак.

Форма **рыдлёвак** прыстасоўвалася да лапатак буйных жывёл, пераважна мядзведзя, якія выкарыстоўваліся практычна без апрацоўкі і нясуць на сабе пераважна сляды спрацаванасці. Прылады гэтага класа з ласінага рога, якія сустракаюцца ў матэрыяле прыбалтыйскіх помнікаў (стаянка Абара 1) (Лозе, 1979, рис. 55), на помніках Крывінскага тарфяніку пакуль не знойдзены.

**Праколкі** выраблялiся пераважна з грыфельных або дробных шчапаных трубчастых костак. Апрацоўцы падлягала пераважна вастрыё, корпус часта захоўваў натуральную форму, але з часам набываў сляды запрацаванасці (мал. 26). Трэба адзначыць, што ў выпадку з грыфельнымі косткамі патрабавалася толькі лёгкая падпраўка вастрыя. Гэта рабілася некалькімі спосабамі — з дапамогай нажа яно зразалася з аднаго боку або па перыметры, як

аловак. У выпадку абрання пад прыладу нешчапанага фрагмента дробнай птушынай трубчастай косткі вастрыё афармлялася коса выцягнутым зрэзам, дзе верхняя частка дадаткова падвастралася па краях. Галоўка косткі не аддзялялася і ў далейшым адыгрывала ролю ўпора для рукі.

**Адціскальнікі** выраблялiся з нешчапаных фрагментаў адросткаў рагоў і шчапаных трубчастых костак. У рагавых вырабаў рабочымі часткамі з'яўляліся падпраўленыя натуральныя завяршэнні адросткаў (мал. 30: 2, 3). Вырабы са шчапаных трубчастых костак, як наканечнікі кампазітнай (зборнай) прылады, апрацоўваліся дастаткова агульна. Асноўная ўвага надавалася рабочай пляцоўцы, якая сплюшчвалася і загладжвалася, бакавіны счэсваліся да яе пад невялікім вуглом (мал. 30: 6, 7). Рэштка корпуса і абушковая частка прылады найчасцей не апрацоўваліся і ўтрымліваюць звычайныя, крыху запрацаваныя, сляды шчапання косткі.

Для **рэтушораў** падбіраліся адпаведныя шчапаныя фрагменты рагоў і трубчастых костак. Галоўная ўвага пры вырабе гэтых прылад надавалася рабочай пляцоўцы і абушку, якія выраўноўваліся і загладжваліся. Таксама падоўжным счэсваннем здымаліся вострыя канты на корпусе. У выніку працяглага выкарыстання рэтушораў іх паверхня набывала прыкметнае загладжванне з-за непасрэднага кантакту з далонню майстра, а рабочая пляцоўка атрымлівала лёгкі нахіл у выніку зношвання пры нанясенні рэтушы (мал. 55).

**Шпатэлі і арнаменціры** выраблялiся пераважна з расшчапаных рабрын або тазавых костак буйных жывёл. Пры патрэбе з дапамогай распарвання і працяглай фіксацыі на цвёрдым узоры-балванцы ім магла надавацца выгнутая ў сячэнні лыжкападобная форма. Знешні (працоўны) бок вельмі дасканала апрацоўваўся счэсваннем у падоўжным кірунку і загладжваўся. З унутранай паверхні цалкам здымалася губчатае рэчыва. Краі прылад акуратна закругляліся з дапамогай падоўжнага счэсвання (мал. 56: 1). Часам сустракаюцца камбінаваныя вырабы — шпатэлі, адзін з тарцоў якіх мае грабеньчаты штамп для нанясення арнамента. Апошні афармляўся акуратным вертыкальным праразаннем крамянёвым нажом (мал. 56: 2). Для ўласна арнаменціраў падбіраўся патрэбны фрагмент косткі, на якім афармляліся грабеньчаты, лінейны ці ямкавы штампы.

**«Рыбныя» нажы** выраблялiся са шчапаных іклаў дзікоў, радзей са шчапаных разцоў баброў. Напачатку ікол дзяліўся ўздоўж на дзве падтрохкутныя ў сячэнні паловы, пасля чаго шчапаныя плашчыні зараўніваліся падоўжным скабленнем. Дадаткова з меншай знешняй плашчыні счэсваннем здымалася эмаль. Атрыманыя нарыхтоўкі дзяліліся на дзве часткі па даўжыні (мал. 57). Такім чынам з аднаго вялікага ікла дзіка майстар мог атрымаць 4 нарыхтоўкі «рыбных» нажоў. На адным з апошніх этапаў апрацоўкі счэсваннем і габляваннем са шчапанай паверхні на эмаль афармлялася лязо з сячэннем у 45 градусаў і паўкруглыя ўвагнутыя працоўныя паверхні.

**Разцы** з цэлых іклаў мядзведзя ўтрымліваюць сляды апрацоўкі толькі на каронцы. Напачатку яна грубым зразаннем была сплюшчана, пасля чаго тым жа інструментам на ёй афармлялася ўвагнутае працоўнае лязо з вуглом прыблізна пад 45 градусаў.

Для вырабу **лыжак** абіраліся патрэбныя фрагменты тазавых костак або лапат ласіных рагоў, з якіх на першых стадыях апрацоўкі выразаліся кон-

туры будучага вырабу, а атрыманая нарыхтоўка ў далейшым абгаблёўвалася з дапамогай нажа. Апалонік выбіраўся скабленнем у розных кірунках. Канчатковая даводка прылады праводзілася з дапамогай падоўжнай апрацоўкі. У выніку працяглага выкарыстання вырабаў адна з бакавін апалоніка часам зношвалася ад частага кантакта з цвёрдай (глінянай) паверхняй посуду, што дае цікавыя звесткі пра наяўнасць праварукасці ў насельніцтва Крывінскага тарфяніку (мал. 58).

**Колючыя вырабы** з адросткаў рагоў утрымліваюць нешматлікія сляды апрацоўкі. Гэта пераважна сляды падпраўкі вастрыя, якое часта завастралася зразаннем па перыметры, як аловак. Абушковая частка звычайна не афармлялася, часам нават не падпраўляліся сляды ламання па кальцавым надрэзе. У адзінкавых выпадках (кайлападобныя вырабы) абушок падпраўляўся з дапамогай крамянёвай сякеры і набываў прыкругленыя абрысы.

У выпадку з **вырабамі з ласінага рога з захаваным адросткам і часткай лапаты** колькасць этапаў апрацоўкі была не на шмат большая. Напачатку ад рога аддзялялася абраная частка лапаты з адросткам. Для гэтага выкарыстоўвалася тэхніка сустрэчнага праразання пазоў з наступным ламаннем. Абломы маглі крыху прыгладжвацца з дапамогай крамянёвай сякеры. Апрацоўка адростка магла складацца толькі з падпраўкі самога вастрыя або ўсёй яго паверхні. У апошнім выпадку выкарыстоўвалася тэхніка папярэдняга надразання / надсякання для выдалення лішкавай масы.

Частка выяўленых вырабаў носіць сляды рамонту або паўторнага выкарыстання: праколкі, наканечнікі стрэл, наканечнікі гарпуноў. Прычым апошняе не заўсёды супадала з першапачатковым прызначэннем прылады. Так, некаторыя пашкоджаныя наканечнікі маглі выкарыстоўвацца як праколкі. Выяўлены фрагмент адназубага гарпуна, верагодна, зламанага ніжэй за першы ад вастрыя зубец, пасля рамонту набыў сплюшчаны насад. Яго трывала замацоўвалі ў дрэўку як зубчасты наканечнік дроціка (мал. 13: 3; мал. 49: 2).

Такім чынам, мы бачым, што вялікая колькасць і разнастайнасць касцяных і рагавых вырабаў стаянак Крывінскага тарфяніку з'яўлялася вынікам развітых тэхналогій іх майстравання. У рэгіёне выкарыстоўваліся разнастайныя спосабы апрацоўкі: рассяканне, адбіванне, пілаванне, рэзанне, скабленне, габляванне, выдаленне лішкавай масы з дапамогай насечак, свідраванне і выдзёўбванне адтулін, паліраванне. У залежнасці ад будучай прылады колькасць этапаў вырабу магла мяняцца ад 2 (для рэтушора) да 5—7 (для наканечніка стралы). У пераважнай большасці выпадкаў пад нарыхтоўку прылады невялікага памеру абіраўся прыдатны падоўжны адшчэп косткі, атрыманы ў выніку яе расшчаплення. Слядоў тэхнікі выразання нарыхтовак патрэбных памераў і формы пры працы з касцяной сыравінай выяўлена не было. Аднак падобны спосаб выкарыстоўваўся пры апрацоўцы рога.

Цікавым з'яўляецца факт адсутнасці спецыялізаваных прылад для апрацоўкі касцянога і рагавога матэрыялу, у прыватнасці разцоў. Відаць, з-за абмежаванага запасу крэменю майстраванне праводзілася з дапамогай усіх наяўных інструментаў. Ролю разцоў маглі адыгрываць сячэнні пласцінак і разнастайныя рэзчыкі.

Для стаянак Крывінскага тарфяніку пры майстраванні вырабаў характэрна поўная перавага касцяной сыравіны над рагавой (больш за 87%). Най-

больш выкарыстоўваліся косткі лася, мядзведзя, дзіка, тура. Нейкай перавагі ў выкарыстанні костак аднаго віду зафіксавана не было.

Яшчэ адной адметнасцю з'яўляецца частае выкарыстанне для зняцця лішняй касцявой масы тэхнікі папярочнага надсякання паверхні. Акрамя гэтага, пераважная большасць гаспадарчых прылад, прылад палявання і рыбацтва на апошняй стадыі апрацоўкі акуратна абскаблівалася ўздоўж падоўжнай восі па ўсёй паверхні. Выпадкі шліфавання вельмі рэдкія.

# ХРАНАЛОГІЯ І КУЛЬТУРНАЯ ПРЫНАЛЕЖНАСЦЬ КАСЦЯНЫХ І РАГАВЫХ ВЫРАБАЎ

Марфалогія касцяных і рагавых вырабаў на стаянках каменнага і бронзавага вякоў Крывінскага тарфяніку залежала ад розных прычын. Пры вырабе пэўнай касцяной прылады, напрыклад наканечніка стралы, старажытны майстар карыстаўся адным з некалькіх традыцыйных для яго мясцовасці і часу шаблонаў (узораў) гэтага класа, у межах якога ён мог уносіць змены па сваім гусце. Калі пэўныя асаблівасці афармлення шаблона шматразова паўтараліся на працягу невялікага храналагічнага адрэзка, то на іх падставе ўтвараўся новы, з захаваннем у выкарыстанні старога. Такое развіццё выразна прасочваецца пры разглядзе шэрага прылад аднаго класа, вырабы якога маглі больш вольна мяняцца пры захаванні утылітарнага значэння. Найперш гэта датычыць наканечнікаў стрэл. З'яўленне сярод мясцовых шаблонаў, генетычна не звязаных з папярэднімі, з вялікай доляй верагоднасці паказвае на ўплыў новых культурных традыцый. Апошнія могуць сведчыць або пра наяўнасць у рэгіёне прышлага насельніцтва, або пра наладжванне новых культурных сувязяў.

На жаль, як ужо адзначалася вышэй, многія даследчыкі пры публікацыі матэрыялаў розных помнікаў каменнага і бронзавага вякоў уключалі ў свае работы толькі бясспрэчныя і выразныя касцяныя і рагавыя вырабы вызначаных класаў — наканечнікі стрэл, наканечнікі гарпуноў, долаты, сякеры, упрыгажэнні, некаторыя іншыя (Лозе, 1979, 1988; Микляев, 1969). Значная колькасць пашкоджаных або неідэнтыфікаваных на той момант артэфактаў пакідалася па-за публікацыямі, што пазбаўляе нас магчымасці высветліць дакладныя арэалы распаўсюджання многіх вырабаў са стаянак Крывінскага тарфяніку. У сваю чаргу гэта ўплывае на агульны аналіз праблемы. Асобна паўстае пытанне дакладнасці аналогій — да якой ступені падабенства формаў можна лічыць аналогіяй, а з якога моманту выраб будзе ўжо «самастойным»?

Культурная і храналагічная ідэнтыфікацыя касцяных і рагавых вырабаў Крывінскага тарфяніку мае свае асаблівасці. Толькі 3 помнікі рэгіёна ўтрымліваюць матэрыялы адной культуры — Асавец 4 (ранні этап нарвенскай), Асавец 7 і Крывіна 3 (паўночнабеларускай)[9]. З іх разам паходзіць 219 вырабаў, ці 21, 9% усёй колькасці артэфактаў. Рэшта, 78, 1%, належыць да змешаных помнікаў Асавец 2, Крывіна 1, Крывіна 2 (матэрыялы позняга этапу нарвенскай і паўночнабеларускай культур). Ролю рэпера пры нашым аналізе адыгрываюць вырабы са стаянкі Асавец 2, як найбольш разнастайныя і шматлікія. Большая частка матэрыялу гэтага помніка належыць да паўночнабеларускай культуры [апошняя чвэрць 3-га тыс. да н. э. — трэцяя

[9] Асавец 1 тут не згадваецца з прычыны адсутнасці касцяных і рагавых вырабаў для аналізу.

чвэрць 2-га тыс. да н. э. (Чарняўскі, 1997б, с. 330; Чебрешук, 2003, с. 46—47)]. Знаходкі позняга этапу нарвенскай культуры [пачатак — трэцяя чвэрць 3-га тыс. да н. э. (Чарняўскі, 1997а, с. 205)] размешчаны пераважна ў надмацерыковым пласце. Аднак калі мы паглядзім на суадносіны керамікі паўночнабеларускай і нарвенскай культур у культурным пласце помніка (табл. 1), то ўбачым, што адзінкавыя фрагменты познанарвенскай керамікі могуць прысутнічаць нават у першым умоўным пласце (0—20 см), а паўночнабеларускай — у надмацерыковым (100—120 см). Адпаведна, гэта можа датычыцца і іншых артэфактаў, у тым ліку касцяных і рагавых вырабаў. Па гэтай прычыне культурная і храналагічная ідэнтыфікацыя матэрыялаў дадзенай стаянкі павінна ўспрымацца з доляй варыятыўнасці. Тым не менш асноўным культурным і храналагічным вызначальнікам у рэгіёне застаецца менавіта спадарожны керамічны матэрыял.

## Прылады палявання і рыбалоўства

### *Наканечнікі стрэл*

*Біканічныя простыя наканечнікі стрэл з насадам акруглага сячэння* выяўлены на стаянцы ранненарвенскага насельніцтва Асавец 4 (пласт 2[10]). Найбольш блізкія аналогіі вырабам акруглага сячэння паходзяць з ранненеалітычных помнікаў нарвенскай культуры Зацэнне і Звідзэ (Чарняўскі, 1996, мал. 5: 2, 3; Лозе, 1988, с. 26, табл. IX: 4, XVIII: 11). Падобныя наканечнікі паходзяць са стаянкі Жамайцішке 2 (позні неаліт) (Гирининкас, 1990, рис. 31: 5, 6). Больш сплюшчаныя вырабы выяўлены ў Верхнім Паволжы на помніках Замосце 4, 5 [льялаўская (4-е тыс. да н. э.) і воласаўская культуры (канец 3-га—1-я палова 2-га тыс. да н. э. )] (Сидоров, 1997, рис. 9: 17—19, 23).

*Верацёнападобныя чаранковыя наканечнікі стрэл* сустракаюцца на помніках Крывінскага рэгіёна разам з керамікай познанарвенскай і паўночнабеларускай культур: Асавец 2, 7 (Асавец 2, пласты 1—4, 6, з павышанай канцэнтрацыяй у 1-м і 3-м пластах (табл. 2), Крывіна 1, 3. Нешматлікія аналогіі выяўлены на зборах з воз. Лубана, на стаянках Абара 1 (Vankina, 1999, fig. LXXXVII: 17, 26, LXXXIX: 3—6; Лозе, 1979, табл. XXVII: 1—3), Тамула (Jaanits, 1984, abb. 4: 11, 12), Усвяты 4 (Микляев, 1969, рис. 5: 3, 4).

*Група наканечнікаў стрэл бутэлькападобнай формы.* На стаянцы Асавец 2 дадзеныя вырабы знойдзены разам з пераважна паўночнабеларускай керамікай у пластах 1—3 (1 экзэмпляр выяўлены ў пласце 5) (табл. 2). Падобнае размяшчэнне наканечнікаў гэтай групы і ў культурным пласце стаянкі Крывіна 1. Выяўлены яны таксама на стаянках з чыстым матэрыялам паўночнабеларускай культуры — Крывіна 3, Асавец 7 (пераважаюць). Наканечнікі стрэл дадзенай групы маюць выразнае мясцовае паходжанне і маларапаўсюджаны на суседніх тэрыторыях. Адзінкавыя аналогіі маюцца на неалітычным палевым паселішчы на Усвяцкім возеры (Микляев, 1971, с. 21), на стаянцы Абара 1 і Звідзэ ў Латвіі (Гурина, 1996б, рис. 48: 4, 32; Загорска, 1991, рис. 2: 33; Лозе, 1979, табл. XXVI: 11, 21, XXVII: 15; Loze,

[10] Тут і далей пласты падаюцца ўмоўныя, па 20 см кожны. Выключэнне складае паселішча Асавец 7, якое даследуецца ўмоўнымі пластамі па 10 см.

1983, pav. 2: 5), крыху больш іх у зборах з асушаных берагоў воз. Лубана (Vankina, 1999, fig. LXXXVIII: 13, 14, 20—22, LXVI: 24, 25, 28, 30). Аднак у апошнім выпадку, пры наяўнасці выразных рысаў падабенства, асабліва ў пазначэнні на корпусе перахопу і прысутнасці вылучанай галоўкі, бачна імкненне лубанскіх наканечнікаў да іголкападобных формаў са слаба выражаным пераходам да сплюшчанага чаранка.

*Біканічныя чаранковыя наканечнікі стрэл* на стаянках Крывінскага тарфяніку залягалі разам з керамікай пераважна паўночнабеларускай культуры на стаянках Асавец 2 [пласты 2 і 3 (табл. 2)] і Крывіна 1.

Гэтая група прылад мела найбольш шырокае распаўсюджанне на тэрыторыі Прыбалтыкі, Беларусі і еўрапейскай часткі Расіі, дзе выкарыстоўвалася на працягу неаліту і бронзавага веку (мал. 61). Самыя блізкія аналогіі знаходкам з Крывінскага тарфяніку маюцца на паселішчы Звідзэ (Лубанская нізіна, Латвія), дзе яны адносяцца да сярэдняга неаліту. Найбольш раннімі на гэтай стаянцы з'яўляюцца наканечнікі з падоўжанай галоўкай (Лозе, 1988, табл. XIV: 7), а больш познімі — біканічныя, звычайных формаў (Лозе, 1988, табл. XIV: 1, 3, 5, 6). Вырабы гэтай групы сустракаюцца таксама і на іншых паселішчах сярэдняга і позняга неаліту Лубанскай нізіны (Іча і Піесціня) (Latvijas PSR Arheologija, 1957, tabl. 4: 9, 10; Zagorskis, 1965, pav. 4: 14), сярод збораў з воз. Лубана і ракі Дзвіеце, левага прытока Заходняй Дзвіны, а таксама на стаянках Акалі і Тамула на тэрыторыі Эстоніі (Vankina, 1999, fig. LXXXV, LXXXVI; Лозе, 1979, табл. XXVI: 20). Паводле Н. М. Гурынай, такі тып вырабаў (наканечнікі стрэл пераважна біканічных формаў з кароткай галоўкай і кароткім сплюшчаным чаранком) быў характэрным для культуры грабеньчата-ямачнай керамікі (прыбалтыйскай, 3-е тыс. да н. э.) (Гурина, 1996а, с. 147—149, рис. 47: 24, 29). Адзін выраб гэтай групы (з кароткім корпусам і падоўжаным вастрыём) быў выяўлены ў вярхоўях Віліі каля в. Мільч Вілейскага раёна.

Некаторыя асобныя экзэмпляры гэтай групы (мал. 9: 3) адносяцца да блізкіх жолудападобных формаў. Дробныя жолудападобныя наканечнікі стрэл не маюць нейкага пэўнага арэала распаўсюджвання[11]. У вялікай колькасці яны сустракаюцца ў сярэднім неаліце на тэрыторыі Усходняга Заанежжа і басейна р. Ака (Лозе, 1988, с. 28). Падобныя да разгледжаных вырабы маюцца на паселішчах сярэдняга неаліту Лубанскай нізіны, на зборах з водмеляў воз. Лубана і р. Дзвіеце, у Эстоніі — у матэрыялах паселішча Акалі з прывусця р. Эмайыгі (Лозе, 1979, с. 72).

*Наканечнікі стрэл складанай формы* выяўлены разам з керамікай паўночнабеларускай культуры (Асавец 2, 1—2-гі пласт; Крывіна 1). Падобны выраб паходзіць са стаянкі Зацэнне, дзе ён быў таксама знойдзены разам з матэрыяламі паўночнабеларускай культуры (Чарняўскі, 1996, мал. 5: 5), пераходныя формы ад бутэлькападобных да складаных зафіксаваныя на стаянцы Абара 1 (са сплюшчана-выцягнутай галоўкай) (Лозе, 1979, табл. XXVII: 13).

*Кулепадобныя выцягнутыя наканечнікі стрэл з ледзь пазначаным чаранком* залягалі на стаянцы Крывіна 1 разам з керамікай паўночнабеларускай культуры. Верагодныя блізкія аналогіі вырабам гэтай групы прысутніча-

[11] У дадзеным сцверджанні не бярэцца пад увагу сячэнне насада.

юць у Літве на стаянцы Жамайцішке 1 і датуюцца там неалітам (на пададзеным малюнку выклікае пытанне сячэнне насада і яго вылучанасць адносна корпуса) (Naujausia Lietuvos..., 1980, pav. 19: 7). Наканечнікі стрэл пераходных формаў ад гэтай групы да іголкападобных чаранковых з раўнамерным звужэннем корпуса да чаранка знойдзены таксама на стаянцы Абара 1 (Лозе, 1979, табл. XXVII: 14) і на водмелях воз. Лубана (Vankina, 1999, fig. LXVIII: 10, 11), датуюцца неалітам. У гэтым выпадку вырабы маюць больш выцягнуты корпус акруглага сячэння і выразны пераход да чаранка. Падобныя спрошчаныя формы сустракаюцца і на гарадзішчах Верхняй Волгі, дзе яны могуць належаць да ранніх, неалітычных, пластоў (Бадер, 1950, рис. 37: 1).

*Іголкападобныя наканечнікі стрэл* сустракаюцца разам з керамікай позьнанарвенскай і паўночнабеларускай культур [Асавец 2, пласты 1, 3 для чаранковых экзэмпляраў з пазначанай галоўкай (экзэмпляр з вылучанай галоўкай і насадам выяўлены ў 2-м пласце), пласты 2—4 для вырабаў без галоўкі (табл. 2)] (Чарняўскі, 1997б, с. 316). Адзін верагодны абломак іголкападобнага вырабу паходзіць з ранненеалітычнай стаянкі нарвенскага насельніцтва Асавец 4; 2 магчымыя фрагменты наканечнікаў гэтай групы выяўлены на стаянцы паўночнабеларускага насельніцтва Асавец 7.

Вырабы з *пазначанай галоўкай* маюць шырокае распаўсюджанне. Аналогіі вядомыя ў Верхнім Паволжы на стаянцы Акаёмава 18, дзе адносяцца да ранняга этапу верхняволжскай культуры (ранні неаліт) (Жилин, 1997, рис. 4: 1). Верагодна, што ў аснове гэтай формы ляжаць наканечнікі шыгірскага тыпу (Жилин, 1993, рис. 4, 5). Падобныя артэфакты знойдзены на стаянках Верхняга Паволжа (Жилин, 1993, рис. 5: 1, 2, 7), на Шыгірскім тарфяніку, Ніжнім Вярэцці, Кундзе (Фосс, 1952, рис. 16, 17). Крывінскія вырабы розняцца слаба вызначанай галоўкай, якая не мае валіка (нарэзкі), і пераважна плоскім чаранком. *Простыя пікападобныя* наканечнікі стрэл таксама выяўлены на поўдні Беларусі на стаянцы Азярное 2Б (з насадамі акруглага сячэння (Крывальцэвіч, 1996, мал. 2: 1, 2), у Латвіі на стаянках Звідзэ, Піесціня (Загорска, 1991, рис. 2: 24, 31; Loze, 1983, pav. 2: 8; Zagorskis, 1965, pav. 4: 15), у Эстоніі на стаянцы Тамула (Jaanits, 1984, abb. 4: 1, 2). Своеасаблівы элемент формы іголкападобнага наканечніка ў выглядзе пашыранага чаранка з плечыкамі да ствала, які больш характэрны для наканечнікаў гарпуноў, сустракаецца на помніках льялаўскай культуры ў Верхнім Паволжы (Сахтыш 1) (Гурина, Крайнов, 1996, рис. 56: 48, 51). Усе групы іголкападобных вырабаў, у тым ліку і з пашыраным чаранком, сустракаюцца сярод збораў з водмеляў воз. Лубана, дзе яны змяшчаюцца даследчыкам у шырокі адрэзак ад мезаліту да неаліту (Vankina, 1999, fig. L, LI, LV: 15, LX: 20—24, LXIII: 21, 24, LXV: 1, 11).

*Выцягнуты наканечнік акруглага сячэння з конусападобнай галоўкай* і насадам акруглага сячэння выяўлены на стаянцы Крывіна 2. Пры наяўнасці агульных «шыгіроідных» рыс блізкія аналогіі выяўлены не былі.

*Вербалістыя наканечнікі стрэл* знойдзены пераважна з керамікай паўночнабеларускай культуры [Асавец 2, пласты 1—3 з моцнай перавагай у першым (табл. 2), Асавец 7]. Аналогіі гэтай групе маюцца ў вялікай колькасці ў Прыбалтыцы на неалітычных комплексах азёр Лубана і Кратуонас (Гирининкас, 1990, рис. 20: 4, 5; Лозе, 1988, табл. XIV: 11, 15, XVIII: 21), на

стаянцы Тамула (Jaanits, 1984, abb. 4: 6, 8), сярод матэрыялаў другога этапу разанскай неалітычнай культуры (Цветкова, 1973, табл. 31: 20), на паселішчы Азярное 2Б Любанскага раёна Мінскай вобласці (Крывальцэвіч, 1996, мал. 2: 10, 12).

*Лопасны наканечнік стралы* выяўлены разам з керамікай паўночнабеларускай культуры (Асавец 2, пласт 2). Аналогіі сустракаюцца ў Літве на паселішчы Кратуонас 1Б (Гирининкас, 1990, рис. 20: 14) і на гарадзішчы Мукукалнс (Латвія, 2-я палова 1-га тыс. да н. э.) (Граудонис, 1967, табл. XII: 1, 5, 16). Ёсць аналогіі і ва Усходняй Германіі (Typentafeln, 1972, tabl. 22), дзе яны адносяцца да культуры шарападобных амфар. Вырабы з наяўнасцю лопасцей сустракаюцца на іншых помніках Прыбалтыкі [Тамула (Jaanits, 1984, abb. 4: 22)], аднак іх марфалагічнае падабенства з асавецкай знаходкай мінімальнае.

*Ромбападобныя выцягнутыя наканечнікі стрэл з насадамі падквадратнага сячэння*, якія залягалі разам з керамікай паўночнабеларускай культуры (Асавец 2, пласт 1), больш падобныя да формаў, якія шырока выкарыстоўваліся ў жалезным веку Беларусі і Літвы (Volkaite-Kulikauskienė, 1986, pav. 33: 5).

*Сплюшчаныя наканечнікі стрэл з пазначанымі чаранкамі* залягалі разам з керамікай паўночнабеларускай і познанарвенскай культур (Асавец 2, пласты 3, 4, Крывіна 1). Аналогіі ім сустракаюцца на стаянках Лубанскай нізіны (Абара 1) і зборах з водмеляў воз. Лубана, дзе яны датуюцца познім неалітам і ранняй бронзай (Vankina, 1999, fig. LXXVI: 35—38; Лозе, 1979, табл. XXVII: 4, 5, 7, 10, 13).

*Біканічныя выцягнутыя наканечнікі стрэл са сплюшчаным сячэннем корпуса і акруглым насадам* выяўлены сярод матэрыялаў позняга этапу нарвенскай культуры (Асавец 2, пласт 4).

*Сплюшчаныя наканечнікі стрэл з выяўленай галоўкай, падцыліндрычным корпусам і насадам акруглага сячэння* (Асавец 2, пласт 4) і *чаранковыя, падобныя да IIб1* наканечнікі стрэл (Асавец 2, пласт 3) выкарыстоўваліся насельніцтвам паўночнабеларускай культуры.

*Выцягнутыя пікападобныя наканечнікі* належаць ранненарвенскаму насельніцтву (Асавец 4, пласты 2, 3). Два вырабы маюць моцна фрагментаваны выгляд (з трохкутным і рамбічным сячэннем). Іх першапачатковыя абрысы можна рэканструяваць на падставе падобных прыбалтыйскіх вырабаў, якія, хутчэй за ўсё, з'яўляюцца іх прамымі аналогіямі (Оса, Нарва, Звейніекі, воз. Лубана) (Загорская, 1978, рис. 2: IIB1, с. 126; Лозе, 1988, табл. VII: 2; Vankina, 1999, tabl. LXVII, LXVIII, LXIX). Амаль цалкам захаваўся экзэмпляр з падпрастакутным сячэннем (Асавец 4, пласт 3).

### *Наканечнікі дзідаў*

Як ужо было адзначана вышэй, прылады гэтага класа на стаянках Крывінскага тарфяніку даволі рэдкія. Вырабы адносяцца да позняга неаліту — бронзавага веку, выяўленыя з керамікай паўночнабеларускай культуры (на стаянцы Асавец 2 яны былі знойдзены ў пластах 1 і 3). Прамыя аналогіі *ўтулкавым вырабам* паходзяць са збораў з воз. Лубана, дзе яны датуюцца бронзавым векам (2—1-е тыс. да н. э.) (Vankina, 1999, XLI: 2—4). Больш раннія (мезалітычныя) аналогіі паходзяць са стаянак Вярэцце і Іванаўскае 7.

Адрозніваюцца ад крывінскіх вырабаў багатай арнаментацыяй на паверхні (Жилин, 2001, с. 105; Чернявский, 2001, рис. 30). Блізкія па форме экзэмпляры былі пашыраны на гарадзішчах жалезнага веку Паўночнай Беларусі (гарадзішча Гарані) (Зверуго, 1992, рис. 4: 27—30). Падобныя прылады былі таксама шырока распаўсюджаны і на гарадзішчах Прыбалтыкі (Grigalavičienė, 1976, pav. 1: 20—21; Volkaite-Kulikauskienė, 1986, pav. 32). Блізкі выраб з Верхняга Паволжа са стаянкі Іванаўскае 3 пададзены Д. А. Крайновым як пешня (Крайнов, 1991, рис. 5: 3). Аналогіі прыладам са шчапанай трубчастай косткі з косазрэзаным вастрыём паходзяць пераважна з тэрыторыі Прыбалтыкі, дзе яны вызначаюцца даследчыкамі як касцяныя вастрыі або пешні для прабівання лёду і датуюцца мезалітам — бронзавым векам [Гирининкас, 1990, рис. 108: 4, 5 (Кратуонас 1Б); Лозе, 1988, табл. V: 6, 7, VI: 1, 4 (Звідзэ); Римантене, 1971, рис. 140: 3, 4; Янитс, 1991, рис. 5: 18 (Кунда); Butrimas, 1996, pav. 2: 1, 2 (Шарняле); Rimantienė, 1996a, pav. 27: 1, 2, 4 (Швянтоі — 4)]. Вядомы яны і ў Верхнім Паволжы (Крайнов, 1991, рис. 5: 1, 2) (Берандзеева V, Іванаўскае III).

### *Кінжалы*

*Кінжалы з костак з захаванымі эпіфізамі* сустракаюцца ва ўсіх пластах помнікаў разам з керамікай ранняга і позняга этапаў нарвенскай і паўночнабеларускай культур [Асавец 2, пласты 1—4 з колькаснай перавагай у 2-м і 3-м пластах (табл. 3), Асавец 4, Асавец 7, Крывіна 1]. Шматлікія аналогіі вырабам гэтай групы маюцца ў Прыбалтыцы і на заходнім узбярэжжы Балтыйскага мора (культура Эртэбёле), дзе яны былі распаўсюджаны ад мезаліту да сярэдняга і позняга неаліту [Гирининкас, 1990, рис. 28: 1 (Жамайцішке 2); Гурина, 1996в, рис. 44: 38 (Сарнатэ); Лозе, 1979, табл. XXX: 6, 7, 8 (Абара 1); Лозе, 1988, табл. IV: 4, XI: 13, XVI: 7 (Звідзэ); Ilkiewicz, 1989, rys. 10: 1; Latvijas..., 1957, tabl. 5: 3, 12]. У невялікай колькасці гэтыя вырабы сустракаюцца і на гарадзішчах жалезнага веку Прыбалтыкі, толькі кінжалы гэтага часу набываюць больш звужанае (стылетападобнае) вастрыё (Градонис, 1967, табл. XIV: 11).

*Ланцэтападобныя кінжалы* з вылучанай рукаяткай на стаянках Крывінскага тарфяніку датуюцца познім неалітам — бронзавым векам (Асавец 2, пласты 1, 2, 4). Блізкія аналогіі сустракаюцца на стаянках Кратуонас 1Б (Гирининкас, 1990, рис. 22: 1, 3) і Абара 1 (Лозе, 1979, табл. XXIX: 1, 3).

### *Наканечнікі гарпуноў*

Наканечнікі гарпуноў групы I (тып а) знойдзены пераважна з паўночнабеларускай керамікай [Асавец 2, пласты 1, 2 з колькаснай перавагай у 2-м пласце (табл. 3), Асавец 7]. Паводле класіфікацыі І. А. Загорскай, яны адносяцца да групы II4C3, паводле Н. М. Гурынай, да тыпу III:6. Падобныя формы распаўсюджаны вельмі шырока (Гурина, 1991а, табл. 2) і сустракаюцца ў Эстоніі (Акалі) (Гурина, 1996а, рис. 47: 24), у Латвіі ў зборах з воз. Лубана (Vankina, 1999, VII: 1, 4, 5, 7, 10), у Расіі на Верхнім Паволжы [Сахтыш 1 (Гурина, Крайнов, 1996, рис. 56: 30), Ібердус 1, позні этап разанскай культуры (Гурина, 1996г, рис. 58: 4)], у Літве (Рыннюкалнс) (Загорска, 1991,

рыс. 1: 6), на Беларускім Пасожжы (Калечиц, 1991, рис. 2), магчымыя аналогіі прысутнічаюць на Кастрамскім Паволжы (Водыш, у публікацыі прадстаўлены ў фрагментах) (Гаврилова, 1991, рис. 1: 24, 28, 29). Распаўсюджаны ад ранняга неаліту да ранняга металу (мал. 79).

*Наканечнікі гарпуноў групы I тыпу б* (адназубыя) выяўлены з керамікай паўночнабеларускай культуры (Асавец 2, пласт 4, Крывіна 1, пласт 3). Паводле Л. Ю. Янітса, падобныя вырабы адносяцца да тыпу 8, паводле Гурынай — тыпы III: 1, III: 2, III: 4. Гарпуны такой формы сустракаюцца ў Эстоніі (Асва) (Янитс, 1991, рис. 4: 8), у Літве (Жамайцішке 1) (Римантене, 1991, рис. 1: 22), Наркунайскае гарадзішча (Volkaite-Kulikauskienė, 1986, pav. 36: 1), у Латвіі (воз. Лубана) (Vankina, 1999, VII: 1, 4, 5, 7, 10), у Кастрамскім Паволжы (Водыш) (Гаврилова, 1991, рис. 1: 10, 11), на Кольскім паўвостраве (Гурина, 1991б, рис. 9: 1—3, 6, 7, 9, 17). Падобны выраб выяўлены М. М. Крывальцэвічам на воз. Вячэра ў Любанскім раёне Мінскай вобласці (Азярное 2Б) (Крывальцэвіч, 1996, с. 155, мал. 3: 12). Распаўсюджаны ад неаліту да ранняга металу.

*Гарпун групы II* са стаянкі Асавец 2 быў знойдзены разам з керамікай паўночнабеларускай культуры (пласт 2). Н. М. Гурына адносіць такія вырабы да тыпу IV. Яны сустракаюцца на паселішчах ранняга металу Кольскага паўвострава (Маяк II) (Гурина, 1991а, с. 16; 1991б, рис. 9: 19, 24).

Формы **насадаў гарпуноў** таксама маюць шырокае распаўсюджанне ў часе і прасторы.

*Рыдлёўкападобныя насады* сустракаюцца ў Верхнім і Кастрамскім Паволжы (Сахтыш, Водыш) (Крайнов, 1991, рис. 4: 2; Гаврилова, 1991, рис. 1: 11, 31), аднак у абодвух выпадках невядома сячэнне пададзеных вырабаў, таму дакладная адпаведнасць аналогій пад сумненнем. Падобныя формы сустракаюцца на помніках Кольскага паўвострава (Маяк II) (Гурина, 1991б, рис. 9: 17; Гурина, 1997, рис. 40: 34, 43). Дакладныя аналогіі маюцца ў зборах з воз. Лубана (Vankina, 1999, fig. VII: 10). Насады гэтага тыпу выкарыстоўваліся на працягу неаліту — бронзавага веку.

*Насады з выкарыстаннем замкнутага выпуклага валіка* сустракаюцца на мезалітычных помніках Украіны (Неприна, 1991, рис. 1: 7).

*Крыжападобныя насады* з'яўляюцца адной з найбольш распаўсюджаных форм. Яны сустракаюцца ў Літве (Пацільціс, Жамайцішке 1) (Римантене, 1991, рис. 1: 22), у Латвіі (воз. Лубана) (Vankina, 1999, fig. VII: 7, VIII: 9—11), ва Украіне (Мурзак-Каба) (Неприна, 1991, рис. 1: 2, 3), у Кастрамскім Паволжы (Водыш) (Гаврилова, 1991, рис. 1: 7), на Кольскім паўвостраве (Маяк II) (Гурина, 1991б, рис. 9: 1, 2, 3, 6, 7, 9, 18, 19, 24). Выкарыстоўваліся працяглы час — ад неаліту да жалезнага веку.

### *Рыбацкія кручкі*

*Кручкі рыбацкія U-падобныя з барodкай.* На стаянках Крывінскага тарфяніку знойдзены разам з керамікай пераважна паўночнабеларускай культуры (пласты 1—4 стаянкі Асавец 2, Асавец 7). І. А. Загорская адносіць падобныя вырабы да групы 2 (з варыянтамі, асавецкім вырабам найбольш адпавядае IIA1 (Zagorska, 1977, pav. 3: 3, 4). Такія кручкі вядомыя ў прывусці ракі Эмайыгі (Эстонія) (Янитс, 1959, рис. 131), у Латвіі (Лозе, 1979,

с. 127), у шыгірскай культуры (Брюсов, 1952, рис. 36: 1). Падобны выраб быў выпадкова знойдзены ў глеі пры даследаванні спроб дна на воз. Баторына ў Мядзельскім раёне Мінскай вобласці. У. Ф. Ісаенка лічыць, што гэта найбольш позні тып кручкоў (Исаенко, 1991, с. 103).

*U-падобныя кручкі з дробнай сківічнай косткі з натуральным шышкападобным адросткам косткі.* Прамых аналогій не выяўлена. Знойдзены разам з керамікай паўночнабеларускай культуры (Асавец 2, пласт 5).

### *«Крукі» рыбацкія*

Бліжэйшыя аналогіі вырабам гэтага класа, выяўленым з керамікай нарвенскай і паўночнабеларускай культур [стаянка Асавец 2, пласты 1—4 з колькаснай перавагай у 1-м пласце (табл. 4)], сустракаюцца ў Літве (Жамайцішке 2) (Гирининкас, 1990, рис. 109: 5). Магчымая аналогія паходзіць таксама з пласта Б стаянкі Усвяты IV, дзе аўтар падае тэкставае апісанне — «крюк из нижней челюсти лося» (Микляев, 1969, с. 27).

### *Жэрліцы*

Выяўлены з керамікай нарвенскай і паўночнабеларускай культур (Асавец 2, пласт 3). Вырабы гэтага класа маюць аналогіі на тэрыторыі Латвіі (воз. Лубана, воз. Лудзас) (Zagorska, 1977, pav. 2: 7, 8, 5: 1; Загорска, 1991, рис. 2: 37, 38).

## Прылады працы і побыту

### *Сякеры*

*Сякеры з цэлага рога* выяўлены на стаянцы Асавец 2 у пластах 1—4 з выразнай перавагай у 2-м пласце, датуюцца неалітам — раннім бронзавым векам (табл. 5). Спадарожная кераміка належыць пераважна паўночнабеларускай культуры. Падобныя вырабы сустракаюцца ў Латвіі на Лубанскай нізіне (пас. Звідзэ), дзе выкарыстоўваліся ад сярэдняга мезаліту да ранняга металу (найбольш характэрныя для культуры Кунда) (Лозе, 1988, с. 24, 26, 27, табл. VI: 8, XI: 14, XII: 4, 6), у Беларусі на стаянцы Зацэнне (Чарняўскі, 1996б, мал. 6: 10). Сустракаюцца і на паселішчах прывусця р. Эмайыгі (Эстонія) сярод чыста нарвенскага і змешанага нарвенска — ямачна-грабеньчатага матэрыялу (мал. 81) (Янитс, 1959, с. 230, 232, рис. 31: 2).

*Сякеры са згібу нешчапанага рога* знойдзены на стаянцы Асавец 2 разам з керамікай пераважна паўночнабеларускай культуры (пласты 1, 2, 4). Адзінкавыя аналогіі гэтым вырабам маюцца ў Беларусі на стаянцы Зацэнне (Чарняўскі, 1996, мал. 6: 9), Азярное 2Б (Крывальцэвіч, 1996, мал. 5: 8), сярод матэрыялаў Смаргонскага кар'ера (Чарняўскі, 1972, мал. 1: 5), у Прыбалтыцы на стаянцы Нарва 2 (Гурина, 1967, рис. 24) і на Поўначы еўрапейскай часткі Расіі (Вярэцце) (Фосс, 1941, табл. IV: 1).

*Свідраваныя сякеры* з адросткаў рагоў на стаянцы Асавец 2 былі выяўлены разам з керамікай паўночнабеларускай культуры. Вельмі падобныя вырабы былі знойдзены ў Смаргоні (Чернявский, 1992, рис. 1: 5). Падобная прылада таксама ёсць сярод знаходак са стаянкі Абара 1 (Латвія) (Лозе, 1979, табл. XXXIII: 5), аднак яна не мае завостранага ляза (рабочай часткай служыць натуральны канец рога) і, верагодна, выкарыстоўвалася як матыка або кайло.

*Сякеры са шчапанага рога* з'яўляюцца даволі распаўсюджанай групай. Усе яе варыянты шырока сустракаюцца на стаянках Крывінскага тарфяніку і адносяцца да неаліту — пачатку бронзавага веку [Асавец 2, пласты 1—6, абсалютная перавага ў 1-м пласце (табл. 5), Асавец 7, Крывіна 1, Крывіна 3]. Аналогій ім вельмі шмат: у Беларусі на помніках Азярное 2Б (Крывальцэвіч, 1996, мал. 5: 1), Камень 8 (Ісаенка, 1997, мал. 26: 8), на Смаргонскім кар'еры (Чарняўскі, 1972, мал. 1: 8), у Літве на паселішчах Кратуонас, Ламасмягі, Паланга, Жамайцішке, асабліва многа іх у раннім і сярэднім неаліце Эстоніі і Латвіі — паселішчы Кяэпа, Звійсала, Піесціня, (Гирининкас, 1990, с. 63, 64, рис. 71Б, 72; Лозе, 1979, табл. XXXIII: 2, 3), ва Украіне (Археологія..., 1971, мал. 64: 15). У Прыбалтыцы сустракаюцца вырабы знешне падобных формаў, але выраблены са шчапаных трубчастых костак буйных жывёл (Лозе, 1988, с. 29, табл. XV: 1, 4; Граудонис, 1967, табл. XIV: 1—10).

Існуючыя тыпы шчапаных сякер, хутчэй за ўсё, не мелі нейкага спецыяльнага прызначэння, а іх разнастайнасць залежала ад зыходнага матэрыялу і пэўнай ступені выпадковасці. Аднак А. Гірынінкас лічыць, што з часам у вырабаў гэтай групы павялічваецца плошча запаліраванай паверхні і пашыраецца лязо — ад долатападобных да трапецападобных (Гирининкас, 1990, с. 64). Асавецкія знаходкі часткова пацвярджаюць гэтую думку — вырабы дадзенага тыпу (з пашыраным лязом) выяўлены ў пластах 1, 3, 5 і 6, прычым абсалютная большасць прыпадае на пласт 1 (6 экзэмпляраў). Два астатнія тыпы шчапаных сякер прадстаўлены ў ім адзінкавымі знаходкамі.

### *Цёслы*

На стаянках Крывінскага тарфяніку *рагавыя вырабы* гэтага класа знойдзены разам з керамікай нарвенскай і паўночнабеларускай культур (Асавец 2, пласты 1—4). Пэўныя аналогіі маюцца ў Прыбалтыцы (Звідзэ) (Лозе, 1988, табл. XI: 12). Для вырабаў *са шчапаных трубчастых костак* (Асавец 4, пласты 1, 2; Асавец 2, пласты 2, 4) аналогіі сустракаюцца на помніках мезаліту і сярэдняга неаліту Лубанскай нізіны (Сулягалс, Звідзэ, зборы з водмеляў воз. Лубана) (Лозе, 1988, табл. XV: 4, 5; III: 8; Vankina, 1999, fig. CI: 1—4, 6, 7), а таксама на стаянцы Зацэнне (мал. 81) (Чарняўскі, 1996, мал. 6: 4).

### *Долаты*

Усе выяўленыя на стаянках рэгіёна групы гэтых прылад выяўлены з керамікай пераважна паўночнабеларускай культуры і датуюцца познім неалітам — раннім бронзавым векам (Асавец 2, пласты 1, 3 (табл. 6), Асавец 7).

Для *масіўных вырабаў са шчапаных трубчастых костак з раўнамерным павужэннем да ляза* бліжэйшых аналогій знойдзена не было.

*Долаты з захаванымі эпіфізамі* ў ролі ўдарнай пляцоўкі сустракаюцца ў Латвіі, дзе І. А. Лозе датуе іх сярэднім неалітам. Адначасова даследчыца адзначае, што масіўныя вырабы з эпіфізамі больш характэрныя для позненеалітычнага часу (Лозе, 1979, с. 75, табл. XXX: 1). З носьбітамі шнуравой

керамікі звязаныя аналогіі, выяўленыя ў пахаванні каля в. Куранец Вілейскага раёна Мінскай вобласці (Чарняўскі, 1997б, с. 309, мал. 112: 3, 5) і ў паўднёва-ўсходняй Польшчы (4160±50 bp) (Wlodarczak, 2001, fig. 13) (мал. 82).

Долаты *з выразным звужэннем да вастрыя і вылучанай ударнай пляцоўкай* маюць шырокія паўночныя аналогіі (Янитс, 1973, с. 205, табл. 58: 32; Jaanits, 1984, abb. 6: 15—17). Аўтар адзначае, што ў раннім неаліце ў прыбалтыйскім матэрыяле сустракаюцца пераважна шырокія масіўныя долоты, а дамінаванне прылад з вузкім лязом пачынаецца ў развітым неаліце і працягваецца ў познім неаліце. Падобныя вырабы выяўлены таксама на помніках льялаўскай культуры Верхняга Паволжа (Сахтыш 1) (Гурина, Крайнов, 1996, рис. 56: 45). На касцяныя долаты багатыя і помнікі заходняга арэала фацьянаўскай культуры (Крайнов, 1987, с. 85).

### *Рыдлёўкі*

Вырабы з лапатак буйных звяроў на стаянках Крывінскага тарфяніку былі выяўлены з керамікай паўночнабеларускай культуры (Асавец 2, пласт 2).

### *Праколкі*

На стаянках Крывінскага тарфяніку ўсе групы праколак мелі выкарыстанне ад ранняга неаліту да бронзавага веку.

Амаль усе тыпы дадзенага класа былі шырока распаўсюджаны як у часе, так і ў прасторы. Найбольш часта выкарыстоўваліся вырабы з грыфельных костак з захаванай галоўкай (Асавец 2, пласты 1—5, з абсалютнай перавагай у 1-м пласце, Асавец 7, Крывіна 3), выяўленыя з керамікай нарвенскай і паўночнабеларускай культур (табл. 6) (частку такіх вырабаў з прытупленым вастрыём некаторыя даследчыкі адносяць да качадыкаў) (Лозе, 1979, табл. XXXII: 5, 10; Янитс, 1959, рис. 35: 7; Римантене, 1971, pav. 35: 2, 5; Крайнов, 1972, рис. 33: 5, 7, 8). Крыху менш вырабаў са шчапаных трубчастых костак (Асавец 2, пласты 1—3, найбольшая колькасць у 3-м пласце, Асавец 7, Крывіна 1, Крывіна 3), якія часам утрымліваюць захаваныя эпіфізы (Latvijas, 1974, таbl. 19: 5; Лозе, 1979, с. 75, XXXII: 2, 4, 5, 7, 8, 10; Римантене, 1971, pav. 55: 2, 5; Rimantienė, 1979, pav. 55).

Шматлікія аналогіі ўсім тыпам праколак сустракаюцца ў Эстоніі (Янитс, 1959, рис. 35: 7), у Латвіі (Лозе, 1979, табл. XXXII: 2, 4, 5, 7, 8, 10; Latvijas, 1974, tabl. 19: 2, 3, 16, 19, tabl. 5: 8), у Літве (Римантене, 1971, pav. 35: 2, 5; Girininkas, 1994, pav. 215: 15), у Расіі, Польшчы (Жилин, 2001, рис. 49; Prahistoria..., 1979, rус. 246: 16, 17, 238: 1—3, 212: 7, 166: 15; Szmyt, 2001, fig. 18A: 15, fig. 20: 4), ва Украіне (Археологія..., 1971, рис. 64: 14, 52: 10). На згаданых тэрыторыях вырабы гэтага класа былі распаўсюджаны ад мезаліту да жалезнага веку.

### *Адціскальнікі і рэтушоры*

Вырабы гэтых класаў былі выяўлены пераважна з паўночнабеларускай керамікай (Асавец 2, пласты 2 і 3, Асавец 7). На жаль, блізкія аналогіі гэтым формам прылад не знойдзены. Адзіная магчымая прылада паходзіць са стаянкі Швянтоі 23 (2240±80 да н. э.), дзе аўтар падае яе сярод касцяных

скрэблаў, нажоў і лашчылаў (Rimantienė, 1979, pav. 54: 3). Верагодна, даследчыкі пры публікацыі матэрыялаў іншых помнікаў не звярталі ўвагі на прылады гэтага класа з прычыны слабых слядоў апрацоўкі і цяжкасці іх вызначэння.

### *Шпатэлі*

На стаянках Крывінскага тарфяніку датуюцца познім неалітам — раннім бронзавым векам (Асавец 2, пласты 1—4, 6). Вырабы падобнага прызначэння сустракаюцца ў Польшчы і Прыбалтыцы (Prahistoria..., 1979, rys. 135: 2, 3), на Усвяцкім возеры (Микляев, 1969, рис. 5: 21). Адзіная блізкая аналогія паходзіць са стаянкі Усвяты IV (Микляев, 1969, рис. 5: 13), аднак дакладнае яе вызначэнне, а таксама колькасць падобных вырабаў застаецца пад сумненнем [«Весьма своеобразны часто находимые пластинки из рога лося... и предметы, условно называемые нами «шпателями» (Микляев, 1969, с. 27)]. Падобныя прылады былі выяўлены на берагах воз. Лубана (Vankina, 1999, fig. XCIV: 24).

### *Арнаменціры*

Вырабы гэтага класа знойдзены разам з керамікай пераважна паўночнабеларускай культуры (Асавец 2, пласты 2—4, Асавец 7, Крывіна 1).

Арнаменціры, афармленыя на разцах баброў з зубчастым штампам на тарцы, сустракаюцца на стаянках бронзавага веку (ранняга металу) Кольскага паўвострава (Гурина, 1997, рис. 62: 7). Неафармленыя (без штучнага штампа) арнаменціры з зубоў жывёл вельмі цяжка вызначальныя з прычыны адсутнасці слядоў апрацоўкі і для іх выяўлення неабходны дэтальны трасалагічны аналіз кожнага артэфакта. Аднак шэраг даследчыкаў лічыць, што яны маглі шырока выкарыстоўвацца ў неаліце — бронзавым веку на шырокай тэрыторыі (Разлуцкая, 1999, с. 99). Група *камбінаваных* вырабаў складаецца з індывідуальных вырабаў, прамыя аналогіі якім пакуль не былі выяўлены.

### *«Рыбныя» нажы*

На стаянках Крывінскага тарфяніку вырабы гэтага класа выкарыстоўваліся на працягу ўсяго часу існавання комплексу — ад ранняга неаліту да бронзавага веку (Асавец 4, Асавец 2, пласты 1—6, Асавец 7, Крывіна 3). «Рыбныя» нажы з'яўляюцца вельмі распаўсюджанымі прыладамі ў прасторы. Яны выяўлены на помніках культуры Эртэбёле (заходняе ўзбярэжжа Балтыйскага мора) (Ilkiewicz, 1989, rys. 10: 9, 10), Латвіі (Звідзэ, Абара 1, Звейніекі) (Лозе, 1988, табл. X: 10; Лозе, 1979, табл. XXXV: 2—6, 10; Zagorskis, 1987, XXII tabl. 10—12), Літвы (Швянтоі, Шарняле) (Rimantienė, 1979, pav. 84: 10—12; Rimantienė, 1996б, pav. 51: 10, 11; Butrimas, 1996, pav. 21: 5), Польшчы — на помніках культуры лейкападобных кубкаў (Prahistoria..., 1979, rys. 135: 15) і культуры шарападобных амфар (Prahistoria..., 1979, rys. 166: 8; Szmyt, 1996, fig. 18A: 12, fig. 25: 1, 2), сярод матэрыялаў заходнееўрапейскай культуры звонападобных кубкаў (Prahistoria..., 1979, rys. 254: 10), на Верх-

нім Паволжы (Сахтыш 1, льялаўская культура) (Гурина, Крайнов, 1996, рис. 56: 50), на паселішчы Азярное 2Б у паўднёвай Беларусі (Крывальцэвіч, 1996, мал. 6: 5) і Камень 2 (Исаенко, 1976, рис. 26: 5) і выкарыстоўваліся ад ранняга неаліту да бронзы ўключна (мал. 68).

**Скаблільна-рэзальныя з ніжніх сківіц баброў са збітымі кручкападобнымі адросткамі.** Выяўлены разам з керамікай паўночнабеларускай культуры. Падобныя вырабы вядомыя з мезаліту на помніках Дубнінскага тарфяніку (Волга-Окскае міжрэчча), у Вярэцці I, Аленеўстраўскім могільніку, Азярках 17, Іванаўскім 7, Станавым 4 (Жилин, 1997, с. 169, 174; Жилин, 2001, рис. 51: 9—11, с. 144—148).

Для ***лыжак, рукаятак, іголак для пляцення сетак, колючых вырабаў з адросткаў рагоў*** і іншых нешматлікіх класаў прылад прамых аналогій выяўлена не было. Экзэмпляры са стаянкі Асавец 2 выяўлены з керамікай паўночнабеларускай культуры.

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

За час даследавання стаянак Крывінскага тарфяніку (1934—2005 гг.) выяўлена 999 касцяных і рагавых прылад і іх фрагментаў. Гэта найбольшая калекцыя дадзенага віду на тэрыторыі Беларусі, а паводле разнастайнасці тыпаў і на ўсёй тэрыторыі Усходняй Еўропы. Асноўнай прычынай масавага выкарыстання прылад гэтага віду ў рэгіёне з'яўляўся недахоп крэменю, з-за чаго мясцовае насельніцтва шукала дадатковыя выробныя сыравіны. У Крывінскім рэгіёне ў гэтай якасці выкарыстоўваліся пераважна костка і рог. У матэрыяле стаянкі Асавец 2 суадносіны вырабаў гэтага віду і крамянёвых (катэгорыі прылад палявання і рыбалоўства, працы і побыту) складаюць 1/1 (костка/крэмень). Лічба вагаецца ў залежнасці ад класаў вырабаў. Так, суадносіны касцяных і крамянёвых вырабаў у катэгорыі прылад палявання і рыбалоўства выглядаюць наступным чынам (костка/крэмень): наканечнікі стрэл — 1/2 для стаянкі Крывіна 1, 2/1 для стаянкі Асавец 2, 1/3 для стаянкі Асавец 7; наканечнікі дзідаў пераважаюць крамянёвыя; для кінжалаў зафіксавана абсалютная перавага касцяной сыравіны; рыбацкія прылады выраблялія выключна з косткі і рога. Перавага крэменю ў катэгорыі прылад працы і побыту зафіксавана для рэзальных, скрабальных і скаблільных прылад, костка больш актыўна выкарыстоўвалася пры вырабе сякер, цёслаў, долатаў, праколак, рэтушораў. 12 класаў (большасць гэтай катэгорыі) не маюць крамянёвых аналагаў: рыдлёўкі, адціскальнікі, шпатэлі, арнаменціры, «рыбныя» нажы, лыжкі, рукаяткі, колючыя падтрохкутныя невялікія вырабы сплюшчанага сячэння, колючыя вырабы з заканчэння рагоў, вырабы невядомага прызначэння з ласінага рога з захаваным адросткам і часткай лапаты, скаблільна-рэзальныя — з ніжніх сківіц баброў са збітымі кручкападобнымі адросткамі.

Выкарыстанне крамянёвай сыравіны звычайна пераважала ў тым выпадку, калі патрабавалася апрацоўка цвёрдага матэрыялу. Сярод рэзальных інструментаў таксама дамінавалі вырабы гэтага віду. Костка і рог часцей выкарыстоўваліся там, дзе складанасць формы ці далікатнасць вырабу выключала крэмень (напрыклад: наканечнікі гарпуноў, кручкі, іголкі) або, наадварот, працэс майстравання не патрабаваў вялікіх намаганняў (напрыклад: адціскальнікі, праколкі).

У дадзенай працы прааналізаваныя дзве катэгорыі касцяных і рагавых вырабаў, выяўленых на стаянках Крывінскага тарфяніку (катэгорыя мастацкіх і культавых вырабаў, музычных інструментаў пакінутая па-за межамі даследавання): 1) прылады палявання і рыбалоўства; 2) прылады працы і побыту. Сярод іх намі вылучана 25 класаў вырабаў. Для прылад палявання і рыбалоўства гэта: наканечнікі стрэл (159 экзэмпляраў), наканечнікі дзідаў (12 экзэмпляраў), кінжалы (40), наканечнікі гарпуноў (35), кручкі рыбацкія (25),

«крукі» рыбацкія (9), жэрліцы (іголкападобныя вырабы невялікага памеру) (6). Для прылад працы і побыту гэта: сякеры (83), цёслы (9), долаты (25), рыдлёўка (1), праколкі (160), адціскальнікі (33), рэтушоры (8), шпатэлі (10), арнаменціры (12), «рыбныя» нажы (81), разец з цэлага ікла мядзведзя (1), лыжкі (4), рукаятка (1), падтрохкутныя невялікія вырабы сплюшчанага сячэння (3), колючыя вырабы з адросткаў рагоў (14), муфта (1), вырабы з ласінага рога з захаваным адросткам і часткай лапаты (4), скаблільна-рэзальныя з ніжніх сківіц баброў са збітымі кручкападобнымі адросткамі (2).

263 артэфакты складаюць групу невызначальных фрагментаў вырабаў і нарыхтовак.

Храналагічна і культурна касцяныя і рагавыя вырабы Крывінскага рэгіёна размеркаваліся наступным чынам (мал. 67, 68).

**Ранні неаліт (ранні этап нарвенскай культуры — 4-е тыс. да н. э.).** Для наканечнікаў стрэл гэтага часу характэрны: усе тыпы біканічных простых з насадам і выцягнутых пікападобных з вылучаным чаранком, фрагменты іголкападобных; наканечнікі гарпуноў: пашкоджаныя аднабаковыя адна- і двухзубцовыя вырабы. Для кінжалаў: з лакцявых костак з захаваным эпіфізам, магчыма выкарыстанне ланцэтападобных з вызначанай рукаяткай. З прылад працы і побыту выкарыстоўваліся: сякеры з нешчапаных фрагментаў адросткаў рагоў, цёслы рагавыя сякерападобныя і са шчапаных масіўных трубчастых костак, праколкі з грыфельных і шчапаных трубчастых костак, камбінаваныя «рыбныя» нажы з працоўнымі паверхнямі на ўвагнутым вастрыі і бакавой паверхні, разец з ікла мядзведзя.

Адзначаныя вышэй касцяныя і рагавыя вырабы знойдзены на стаянцы Асавец 4 і суправаджаліся крамянёвым інвентаром і керамікай, тыповымі для ранняга этапу нарвенскай культуры. Іх бліжэйшыя аналогіі маюцца ў арэале старажытнасцей нарвенскай культуры як Беларусі (Зацэнне на паўночным усходзе Міншчыны), так і паўднёва-ўсходняй Прыбалтыкі (найперш Усходняя Латвія і Эстонія).

Вядучыя тыпы ранненеалітычных касцяных і рагавых вырабаў Крывінскага рэгіёна нясуць у сабе выразныя рысы мезалітычнай традыцыі кундскай культуры, якая на поўначы Беларусі папярэднічала нарвенскай культуры.

Найбольш вызначальнымі для ранняга неаліту Крывінскага рэгіёна з'яўляюцца: наканечнікі стрэл — біканічныя простыя з насадам і выцягнутыя пікападобныя з чаранком (з усечана-лінзаватым і рамбічным сячэннем, часам з зазубраным краем), сплюшчаныя вяліказубыя гарпуны, цёслы са шчапаных масіўных трубчастых костак, разец з ікла мядзведзя.

**Сярэдні неаліт (позні этап нарвенскай культуры — 1-я палавіна — 3-я чвэрць 3-га тыс. да н. э.).** Дакладна вызначыць характэрныя для гэтага перыяду наканечнікі стрэл не ўдалося. Многія іх формы, якія пачалі выкарыстоўвацца ў гэты час, дасягаюць свайго найбольшага развіцця з прыходам носьбітаў паўночнабеларускай культуры. Больш-менш адназначна можна выказацца толькі пра вербалістыя наканечнікі стрэл без пазначанага чаранка. Бліжэй да завяршэння гэтага перыяду магло пачацца выкарыстанне верацёнападобных чаранковых з пераважна цыліндрычным корпусам, а таксама бутэлькападобных чаранковых з акруглым сячэннем корпуса, вылучанай верацёнападобнай галоўкай і перахопам на корпусе з упорам-уступам

да чаранка, наканечнікі са сплюшчаным корпусам і пазначаным чаранком, якія наследуюць форму групы IVa (з галоўкай і перахопам корпуса), кулепадобныя выцягнутыя з ледзь пазначанымі чаранкамі, а таксама вырабы са сплюшчанай вылучанай галоўкай і падцыліндрычным корпусам, які плаўна пераходзіць у насад акруглага сячэння. Да гэтага ж часу можна аднесці пашкоджаны аднабаковы адназубцовы наканечнік гарпуна са сплюшчаным корпусам і шырокім зубцом, а таксама кінжалы з лакцявых костак з захаванымі эпіфізамі і ланцэтападобныя з вызначанай рукаяткай са шчапаных трубчастых костак. Наканечнікі дзідаў гэтага перыяду доўгія, выцягнутыя, са слаба пазначаным або цалкам не пазначаным насадам. Кручкі рыбацкія прадстаўлены толькі U-падобным вырабам з дробнай сківічнай косткі. Для прылад працы і побыту гэтага часу характэрныя: муфтавыя сякеры з нешчапаных прамых і выгнутых фрагментаў рагоў, напрыканцы перыяду з'яўляюцца і шчапаныя вырабы; праколкі з дробных костак з захаваным эпіфізам і адзінкавыя экзэмпляры са шчапаных костак; «рыбныя» нажы на вузкіх выгнутых пласцінах з увагнутай працоўнай паверхняй на адным з канцоў прылады і аформленымі пад лёзы адной ці дзвюма бакавінамі, а таксама экзэмпляры з увагнутай працоўнай паверхняй на бакавіне вырабу, невялікія аднатыпныя арнаменціры.

Касцяны і рагавы інвентар, вылучаны намі як сярэдненеалітычны, на стаянцы Асавец 2 залягаў у ніжніх пластах помніка і асабліва ў яго паўночна-ўсходняй частцы, дзе канцэнтравалася большасць керамікі позняга этапу нарвенскай культуры. Ён суправаджаўся нешматлікім крамянёвым інвентаром, для якога найбольш тыповымі былі кароткія лістападобныя наканечнікі стрэл з двухбаковай рэтушшу, у тым ліку і падрамбічныя.

У гэты час у касцяным і рагавым інвентары Крывінскага рэгіёна ўжо практычна не адчуваецца кундская традыцыя і амаль адсутнічаюць тыпы вырабаў, сустрэтыя ў Асаўцы 4. Выключэнне складаюць адзінкавыя падвескі з зубоў з кальцавой нарэзкай на корані, «рыбныя» нажы ды такія шырока распаўсюджаныя ў прасторы і часе рэчы, як праколкі з грыфельных костачак, кінжалы з лакцявых костак і рубячыя прылады з цэлых фрагментаў рагоў. У той жа час пераважная большасць формаў касцянога і рагавога інвентару гэтага часу перайшла ў матэрыяльную культуру позняга неаліту — бронзавага веку, тыповую для паўночнабеларускай археалагічнай культуры.

**Позні неаліт/бронзавы век (паўночнабеларуская культура — канец 3-га — 3-я чвэрць 2-га тыс. да н. э.).** Сярод наканечнікаў стрэл гэтага часу сустракаюцца: усе тыпы біканічных чаранковых наканечнікаў стрэл з акруглым сячэннем корпуса і пазначаным пераходам да вастрыя, усе тыпы верацёнападобных чаранковых, усе тыпы бутэлькападобных чаранковых з акруглым сячэннем корпуса і вылучанай галоўкай, чаранковыя складанай формы з выразна пазначанымі галоўкай і корпусам, кулепадобныя абодвух тыпаў, усе тыпы іголкападобных, вербалістыя (пераважна з пазначанымі чаранкамі), лопасныя, ромбападобныя з насадам падквадратнага сячэння, усе тыпы наканечнікаў са сплюшчаным корпусам і пазначанымі чаранкамі, біканічныя выцягнутыя са сплюшчаным сячэннем корпуса і насадам акруглага або падквадратнага сячэння, мечападобныя чаранковыя. Для наканечнікаў дзідаў характэрны: вырабы з косазрэзаным верхам абодвух тыпаў, пераро-

блены са зламанага наканечніка гарпуна. Для кінжалаў: абодва тыпы вырабаў з костак з захаванымі эпіфізамі і ланцэтападобныя. У гэты час сустракаюцца ўсе групы і тыпы наканечнікаў гарпуноў; кручкі рыбацкія U-падобныя; усе групы «крукоў» рыбацкіх і жэрліцаў (іголкападобных вырабаў невялікага памеру). Для прылад працы і побыту гэтага перыяду выяўлены наступны малюнак: сякеры — з нешчапаных фрагментаў адросткаў рагоў абодвух тыпаў, са шчапаных фрагментаў адросткаў рагоў усіх тыпаў (пераважаюць); рагавыя цёслы, долаты ўсіх тыпаў, рыдлёўкі, усе формы праколак, адціскальнікаў, рэтушораў, шпатэляў, арнаменціраў і «рыбных» нажоў, лыжкі, рукаяткі, падтрохкутныя невялікія вырабы сплюшчанага сячэння, колючыя вырабы з адросткаў рагоў, вырабы з ласінага рога з захаваным адросткам і часткай лапаты.

З'яўленне ў рэгіёне носьбітаў паўночнабеларускай культуры суправаджаецца далейшым росквітам касцяной і рагавой індустрыі. З'яўляецца цэлы шэраг новых класаў: долаты, рыдлёўкі, адціскальнікі, рэтушоры, шпатэлі, арнаменціры, лыжкі, рукаяткі, колючыя падтрохкутныя невялікія вырабы сплюшчанага сячэння, вырабы з рагоў. З вядомых раней класаў найбольш характэрнымі для паўночнабеларускай культуры з'яўляюцца: верацёнападобныя чаранковыя, бутэлькападобныя чаранковыя, чаранковыя складанай формы, іголкападобныя і вербалістыя наканечнікі стрэл; дзіды з косазрэзаным верхам, двухзубцовыя наканечнікі гарпуноў, U-падобныя рыбацкія кручкі, сякеры са шчапанага рога.

У познім неаліце колькасць шаблонаў (узораў) розных класаў прылад пачынае паступова ўзрастаць (позні этап нарвенскай культуры), што звязана са з'яўленнем уплываў іншых культурных традыцый (культура шарападобных амфар, грабеньчата-ямкавай керамікі).

Значнае павелічэнне колькасці і разнастайнасці класаў напрыканцы неаліту можа быць звязана са з'яўленнем на тэрыторыі рэгіёна новых культурных традыцый — верхнедняпроўскай неалітычнай і шнуравой (з Падняпроўя і Прыбалтыкі), якія наклаліся на мясцовыя неалітычныя (познанарвенскія) рысы.

Касцяныя і рагавыя вырабы позняга неаліту — бронзавага веку сустракаюцца на ўсіх паселішчах Крывінскага тарфяніку, за выключэннем ранненеалітычнай стаянкі Асавец 4. Яны суправаджаліся характэрнай керамікай паўночнабеларускай культуры, а таксама крамянёвым інвентаром з трохкутнымі, сэрцападобнымі, вербалістымі і рамбічнымі чаранковымі наканечнікамі стрэл, серпападобнымі нажамі, частка якіх магла быць аналагам «рыбных», прышліфаванымі сякерамі. Сустракаліся і каменныя вырабы — сякеры-кліны, свідраваныя сякеры, матыкі.

Пераважная большасць формаў касцяных і рагавых вырабаў, выяўленых на стаянках у Крывінскім рэгіёне, сустракаецца або мае блізкае падабенства да вырабаў на помніках суседніх рэгіёнаў. Вызначаны асноўныя рэгіёны падабенства — помнікі Лубанскай нізіны, Усвяцкіх азёраў, воз. Кратуонас, і ў меншай ступені — Верхняга Паволжа. На іх прыпадае найбольшая колькасць аналогій, прычым у большасці выпадкаў дакладных, а не паводле супадзення асобных рыс. У прыватнасці, «крывінскі» тып наканечнікаў стрэл мае найбольш блізкія, хоць і адзінкавыя, аналогіі толькі ў матэрыялах помнікаў Лубанскага і Усвяцкага рэгіёнаў, больш аддаленыя сустракаюцца на

помніках Верхняга Паволжа. Аднак існуе і шэраг мясцовых асаблівасцей. Найбольш гэта прасочваецца ў наканечніках стрэл. Адметнай рысай для дадзенага класа знаходак з'яўляецца спалучэнне плоскага чаранка і корпуса з акруглым сячэннем (больш за 50% выяўленых артэфактаў дадзенага класа), што выразна адрознівае іх ад матэрыялаў з суседніх тэрыторый. Наканечнікі стрэл «крывінскага тыпу» ў такой колькасці і разнастайнасці выяўлены толькі на помніках Крывінскага рэгіёна. Да падобных класічных «крывінскіх» формаў вырабаў можна аднесці многія тыпы «рыбных» нажоў, двухзубцовыя наканечнікі гарпуноў са сплюшчанымі рыдлёўкападобнымі насадамі і дзюбападобнымі зубцамі, многія формы рэтушораў і шпатэляў.

Тэрыторыя, найбольш блізкая да касцяной і рагавой індустрыі Крывінскага тарфяніку, ахоплівае Паўднёва-Усходнюю Прыбалтыку і Верхняе Падзвінне, часткова закранае Верхняе Паволжа. Усе яны ўваходзяць у зону традыцыі шырокага выкарыстання касцяных і рагавых вырабаў, якая мела месца ад мезаліту да жалезнага веку (мал. 69). Яднаючым стрыжнем для іх і Крывінскага тарфяніку з'яўляецца агульная мезалітычная кундска-бутаўская спадчына. Новае насельніцтва, якое прыходзіць сюды напрыканцы неаліту, пераймае многія мясцовыя традыцыі, у тым ліку і выкарыстання касцяных і рагавых вырабаў.

Вялікая колькасць і разнастайнасць касцяных і рагавых вырабаў патрабавала развітых тэхналогій іх майстравання. У Крывінскім рэгіёне выкарыстоўваліся разнастайныя спосабы апрацоўкі: рассяканне, адбіванне, пілаванне, рэзанне, скабленне, габляванне, выдаленне лішкавай масы з дапамогай насечак, свідраванне і выдзёўбванне адтулін, паліраванне. У залежнасці ад будучай прылады колькасць этапаў майстравання магла мяняцца ад 2 (для рэтушора) да 5—7 (для наканечніка стралы). У пераважнай большасці выпадкаў пад нарыхтоўку прылады невялікага памеру абіраўся прыдатны адшчэп косткі, атрыманы ў выніку яе расколвання. Слядоў тэхнікі выразання нарыхтовак патрэбных памераў і формы пры працы з касцяной сыравінай выяўлена не было. Аднак падобны спосаб выкарыстоўваўся пры апрацоўцы рога.

Для стаянак Крывінскага тарфяніку пры майстраванні вырабаў характэрна поўная перавага касцяной сыравіны над рагавой (больш 75%). Найбольш выкарыстоўваліся косткі лася, мядзведзя, высакароднага аленя, дзіка, тура. Нейкай перавагі ў выкарыстанні костак аднаго віду зафіксавана не было.

# ЛІТАРАТУРА


1. Археологія Української РСР. Т. 1. — Київ: Наукова думка, 1971. — 448 с.

2. *Бадер О. Н.* Древние городища на Верхней Волге // Материалы и исследования по археологии СССР. — 1950, № 13. — С. 90—132.

3. Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. Т. 6. — Мінск: БелСЭ, 1972. — 624 с.

4. Блакітная кніга Беларусі: Энцыклапедыя. — Мінск: БелЭн, 1994. — 415 с.

5. Брюсов А. Я. Очерки по истории племен Европейской части СССР в неолитическую эпоху. — М., 1952. — 264 с.

6. *Ванкина Л. В.* Торфяниковая стоянка Сарнате. — Рига: Зинатне, 1970. — 267 с.

7. *Гаврилова И. В.* Орудия рыболовства древних поселений Костромского Поволжья // Рыболовство и морской промысел в эпоху мезолита — раннего металла в лесной и лесостепной зоне Восточной Европы. — Л.: Наука, 1991. — С. 153—163.

8. Геология Беларуси / А. С. Мохнач, Р. Г. Гарецкий, А. В. Матвеев и др. — Минск: Ин-т геол. наук НАН Беларуси, 2001. — 815 с.

9. *Гирининкас А.* Крятуонас. Средний и поздний неолит // Lietuvos Archeologija. — 1990. — № 7. — 110 с.

10. Голоцен Беларуси. — Минск: БГУ, 2004. — 814 с.

11. *Граудонис Я.* Латвия в эпоху поздней бронзы и раннего железа. — Рига: Зинатне, 1967. — 221 с.

12. *Гурина Н. Н.* Из истории древних племен западных областей СССР. Материалы и исследования по археологии СССР. — 1967.— № 144. — 207 с.

13. *Гурина Н. Н.* Древние кремнедобывающие шахты на территории СССР. — Л.: Наука, 1976. — 178 с.

14. *Гурина Н. Н.* Опыт первичной классификации кремневых наконечников стрел // Орудия каменного века. — Киев: Наукова думка, 1978. — С. 57—69.

15. *Гурина Н. Н.* Некоторые общие вопросы изучения рыболовства и морского промысла на територии СССР // Рыболовство и морской промысел в эпоху мезолита — раннего металла в лесной и лесостепной зоне Восточной Европы. — Л.: Наука, 1991. — С. 5—24.

16. *Гурина Н. Н.* Рыболовство и морской промысел на Кольском полуострове // Рыболовство и морской промысел в эпоху мезолита — раннего металла в лесной и лесостепной зоне Восточной Европы. — Л.: Наука, 1991. — С. 164—181.

17. *Гурина Н. Н., Крайнов Д. А.* Льяловская культура // Археология. Неолит Северной Евразии. — М.: Наука, 1996. — С. 173—179.

18. *Гурина Н. Н.* Культура гребенчато-ямочной керамики (прибалтийская) // Археология. Неолит Северной Евразии. — М.: Наука, 1996*а*. — С. 147—150.

19. *Гурина Н. Н.* Стоянки постнарвского типа // Археология. Неолит Северной Евразии. — М.: Наука, 1996*б*. — С. 151—154.

20. *Гурина Н. Н.* Нарвская культура // Археология. Неолит Северной Евразии. — М.: Наука, 1996*в*. — С. 136—146.

21. *Гурина Н. Н.* Рязанская культура // Археология. Неолит Северной Евразии. — М.: Наука, 1996*г*. — С. 180—183.

22. *Гурина Н. Н.* История культуры древнего населения Кольского полуострова. — СПб.: Центр «Петербургское Востоковедение», 1997. — 240 с.

23. *Еловичева Я. К.* Палинология позднеледниковья и голоцена Белоруссии. — Минск: Навука і тэхніка, 1993. — 93 с.

24. *Жилин М. Г.* Костяное вооружение древнейшего населения Верхнего Поволжья. — М., 1993. — 31 с.

*25. Жилин М. Г.* Наконечники стрел «шигирского» типа в мезолите и раннем неолите Восточной Европы // Тверской археологический сборник. 2. — Тверь: Твер. гос. объедин. музей, 1996. — С. 50—56.

26. *Жилин М. Г.* Памятники мезолита и раннего неолита западной части Дубненского торфяника // Древности Залесского края. Матер. к Междунар. конф. «Каменный век европейских равнин: объекты из органических материалов и структура поселений как отражение человеческой культуры». — Сергиев Посад: Сергиевопосад. гос. ист.-худож. музей-заповедник, 1997. — С. 164—196.

27. *Жилин М. Г.* Костяная индустрия мезолита лесной зоны Восточной Европы. — М.: Эдиториал УРСС, 2001. — 328 с.

28. *Жилин М. Г., Костылева Е. Л., Уткин А. В., Энговатова А. В.* Мезолитические и неолитические культуры Верхнего Поволжья. По материалам стоянки Ивановское VII. — М., 2002. — 245 с.

29. *Загорская И. А.* Костяные и роговые острия и гарпуны каменного века из Восточной Прибалтики // Орудия каменного века. — Киев: Наукова думка, 1978. — С. 122—134.

30. *Загорская И. А.* Костяные и роговые орудия охоты и рыболовства каменного века на территории Латвии: Автореф. дис. ... канд. ист. наук: 07.00.06 / Ин-т истории АН ЛитССР. — Вильнюс, 1983. — 24 с.

31. *Загорска И. А.* Рыболовство и морской промысел в каменном веке // Рыболовство и морской промысел в эпоху мезолита — раннего металла в лесной и лесостепной зоне Восточной Европы. — Л.: Наука, 1991. — С. 39—64.

32. *Зайкоўскі Э. М.* Паселішча на Крывінскім тарфяніку // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. — 1980. — № 1. — С. 29.

33. *Зайкоўскі Э. М.* Новае паселішча паўночнабеларускай культуры // Весці АН БССР. Сер. грамадз. навук. — 1982. — № 5. — С. 82—88.

34. *Зайковский Э. М.* Неолит и бронзовый век Белорусского Подвинья: Автореф. дис. ... канд. ист. наук: 07.00.06 / Ин-т истории АН ЛитССР. — Вильнюс, 1985. — 21 с.

35. *Зверуго Я. Г.* Исследования Гораньского городища // Lietuvos archeologija. — 1992. — № 9. — С. 92—103.

36. *Ісаенка В. Ф., Чарняўскі М. М.* Нёманская культура // Археалогія Беларусі. Т. 1. Каменны і бронзавы вякі. — Мінск: Беларуская навука, 1997. — С. 145—169.

37. *Исаенко В. Ф.* Неолит Припятского Полесья. — Мінск: Наука и техника, 1976. — 128 с.

38. *Исаенко В. Ф.* Древнее рыболовство в Полесье // Рыболовство и морской промысел в эпоху мезолита — раннего металла в лесной и лесостепной зоне Восточной Европы. — Л.: Наука, 1991. — С. 96—106.

39. *Калечиц Е. Г.* Древние орудия рыболовства Посожья // Рыболовство и морской промысел в эпоху мезолита — раннего металла в лесной и лесостепной зоне Восточной Европы. — Л.: Наука, 1991. — С. 107—108.

40. *Ковнурко Г. М.* Некоторые сведения о кремневых выходах на Северо-Западе СССР // Материалы и исследования по археологии СССР. — 1973. — № 172. — С. 39—41.

41. *Крайнов Д. А.* Древнейшая история Волго-Окского междуречья. Фатьяновская культура. II тысячелетие до н. э. — М.: Наука, 1972. — 274 с.

42. *Крайнов Д. А.* Фатьяновская культура. Ярославское Поволжье // Археология СССР: свод археологических памятников. Вып. В1—22. Под общ. ред. Б. А. Рыбакова. — М.: Наука, 1987. — 99 с.

43. *Крайнов Д. А.* Рыболовство у неолитических племен Верхнего Поволжья // Рыболовство и морской промысел в эпоху мезолита — раннего металла в лесной и лесостепной зоне Восточной Европы. — Л.: Наука, 1991. — С. 129—152.

44. *Крывальцэвіч М. М.* Касцяныя і рагавыя вырабы каменнага веку з возера Вячэра // З глыбі вякоў. Наш край: Гіст.-культуралаг. зб. Вып. 1. — Мінск: Навука і тэхніка, 1996. — С. 147—168.

45. *Лозе И. А.* Поздний неолит и ранняя бронза Лубанской равнины. — Рига: Зинатне, 1979. — 203 с.

46. *Лозе И. А.* Поселения каменного века Лубанской низины. Мезолит, ранний и средний неолит. — Рига: Зинатне, 1988. — 211 с.

47. *Ляшкевіч Э. А.* Рыбалоўныя прылады з неалітычнай стаянкі Асавец 2 // Весці Акадэміі навук Беларусі. Сер. гуманіт. навук. — 1994. — № 2. — С. 70—74.

48. *Микляев А. М.* Памятники Усвятского микрорайона. Псковская область // Археологический сб. гос. Эрмитажа. — Л.: Сов. художник, 1969. — Вып. 11. — С. 18—40.

49. *Микляев А. М.* Неолитическое свайное поселение на Усвятском озере // Археологический сб. гос. Эрмитажа. — Л.: Сов. художник, 1971. — Вып. 13. — С. 7—29.

50. *Микляев А. М.* Каменный — железный век в междуречье Западной Двины и Ловати // Петербургский археол. вестник. — 1995. — № 9. — С. 7—39.

51. *Неприна В. И.* Рыболовство в мезолите — энеолите Украины // Рыболовство и морской промысел в эпоху мезолита — раннего металла в лесной и лесостепной зоне Восточной Европы. — Л.: Наука, 1991. — С. 109—115.

52. *Ошибкина С. В.* Культура сперрингс // Археология. Неолит Северной Евразии. — М.: Наука, 1996. — С. 212—213.

53. *Ошибкина С. В. Веретье I.* Поселения эпохи мезолита на Севере Восточной Европы. — М.: Наука, 1997. — 203 с.

54. *Поликарпович К. М.* Торфяниковые стоянки Кривина и Осовец в БССР. Бюллетень комиссии по исследованию четвертичного периода. — 1940. — № 6—7. — С. 44—46.

55. *Потушняк М. Ф.* Буго-днестровская культура // Археология. Неолит Северной Евразии. — М.: Наука, 1996. — С. 19—27

56. *Разлуцкая А. А.* Речной бобр стоянки Осовец-2 // Гісторыка-археалагічны зборнік. — 1999. — № 14. — С. 44—46.

57. *Римантене Р. К.* Палеолит и мезолит Литвы. — Вильнюс: Минтис, 1971. — 203 с.

58. *Римантене Р. К.* Озерное рыболовство и морская охота в каменном веке Литвы // Рыболовство и морской промысел в эпоху мезолита — раннего металла в лесной и лесостепной зоне Восточной Европы. — Л.: Наука, 1991. — С. 65—86.

59. *Семенов С. А.* Первобытная техника. Материалы и исследования по археологии СССР.—1957. — № 54. — 240 с.

60. *Семенов С. А., Коробкова Г. Ф.* Технология древнейших производств. — Л.: Наука, 1983. — 253 с.

61. *Сидоров В. В.* Стоянки Заболотского озера // Древности Залесского края. Материалы Междунар. конф. «Каменный век европейских равнин: объекты из органических материалов и структура поселений как отражение человеческой культуры». — Сергиев Посад: Сергиево-посад. гос. ист.-худож. музей-заповедник, 1997. — С. 104—144.

62. *Симакова Г. И.* Палеогеография Кривинского торфяного массива (Белорусское Поозерье) в позднеледниковье и голоцене // Літасфера. — 2000. — №13. — С. 46—52.

63. *Фосс М. Е.* Костяные и деревянные изделия стоянки Веретье // Материалы и исследования по археологии СССР. — 1941. — № 2. — С. 212—235.

64. *Фосс М. Е.* Древнейшая история севера европейской части СССР // Материалы и исследования по археологии СССР. — 1952. — № 29. — 278 с.

65. *Цветкова И. К.* Основные типы костяных и роговых орудий рязанской неолитической культуры // Этнокультурные общности лесной и лесостепной зоны европейской части СССР в эпоху неолита. Приложение к сборнику. Табл. 1—70. Материалы и исследования по археологии СССР.—1973. — № 172. — Табл. 31.

66. *Чарняўскі Макс. М.* Класіфікацыя касцянога ўзбраення Беларускага Паазер'я (неаліт — бронзавы век) // Гістар.-археал. зб. — 2001. — № 16. — С. 71—78.

67. *Чарняўскі Макс. М.* Эвалюцыя касцянога ўзбраення на беларускім Паазер'і ў неаліце — бронзавым веку // Міжнар. сімпозіум: ад неалітызацыі да пачатку эпохі бронзы, культурныя змены ў міжрэччы Одра і Дняпра паміж VI—II тыс. да н. э. Брэст, 28—31 мая 2000. Abstracts book. — Познань; Мінск; Брэст, 2000. — С. 59.

68. *Чарняўскі Макс. М.* Касцяныя прылады для апрацоўкі крэменю са стаянак Крывінскага тарфяніку // Матэрыялы па археалогіі Беларусі. — 2001. — № 3. — С. 243—246.

69. *Чарняўскі Макс. М.* Першыя вынікі даследавання тарфянікавай стаянкі Асавец-7 // Матэрыялы па археалогіі Беларусі. — 2003. — № 6. — С. 70—84.

70. *Чарняўскі Макс. М.* Аб даследаванні тарфянікавай стаянкі Асавец-7 у 2002 г. // Гістар.-археал. зб. — 2003. — № 18. — С. 257—258.

71. *Чарняўскі Макс. М.* Даследаванне тарфянікавай стаянкі Асавец-7 у 2003 г. // Гістар.-археал. зб. — 2004. — № 19. — С. 278—279.

72. *Чарняўскі Макс. М.* Выраб рыбацкіх кручкоў на стаянках Крывінскага тарфяніка (позні неаліт — ранні бронзавы век) // Гістар.-археал. зб. — 2004. — № 19. — С. 31—35.

73. *Чарняўскі М. М., Каліноўскі П. Ф.* Рагавыя прылады працы са смаргонскага месцазнаходжання // Беларускія старажытнасці. — Мінск, 1972. — С. 26—32.

74. *Чарняўскі М. М., Кудрашоў В. Я., Ліпніцкая В. Л.* Старажытныя шахцёры на Росі. — Мінск: Навука і тэхніка, 1996. — 144 с.

75. *Чарняўскі М.* Тарфянікавая стаянка Зацэнне // З глыбі вякоў. Наш край: Гіст.-культуралаг. зб. Вып. 1. — Мінск: Навука і тэхніка, 1996. — С. 132—147.

76. *Чарняўскі М. М.* Нарвенская культура // Археалогія Беларусі. Т. 1. Каменны і бронзавы вякі. — Мінск: Беларуская навука, 1997. — С. 190—205.

77. *Чарняўскі М. М.* Паўночнабеларуская культура // Археалогія Беларусі. У 4 т. Т. 1. Каменны і бронзавы вякі. — Мінск: Беларуская навука, 1997. — С. 311—329.

78. *Чебрешук Я., Шмит М.* К исследованию среднеевропейских факторов процесса культурных перемен в лесной зоне восточной Европы в III тыс. до н. э. // Гістар.-археал. зб. — 2003. — № 18. — С. 34—51.

79. *Чернявский М. М.* Новое неолитическое поселение на Кривинском торфянике // Доклады к XI конф. молодых ученых Белорусской ССР (ноябрь 1967). — Минск, 1967. — С. 372—383.

80. *Чернявский М. М.* Исследование неолитических поселений Кривинского торфяника // Древности Белоруссии: Докл. к конф. по археологии Белоруссии. Март 1969. — Мн., 1969. — С. 71—88.

81. *Чернявский М. М.* Хозяйство и духовная культура неолитического населения Понеманья и юго-западного Поозерья // Древности Белоруссии: Докл. к конф. по археологии Белоруссии. Март 1969. — Минск, 1969. — С. 213—229.

82. *Чернявский М. М.* Неолит Северо-Западной Белоруссии. Автореф. дис. ... канд. ист. наук: 07.575 / Институт истории АН БССР. — Минск, 1971. — 20 с.

83. *Чернявский М. М.* Древнейшие рыболовные орудия Северной Белоруссии // Рыболовство и морской промысел в эпоху мезолита — раннего металла в лесной и лесостепной зоне Восточной Европы. — Л.: Наука, 1991. — С. 91—95.

84. *Чернявский М. М.* Древнейшие роговые орудия из-под Сморгони // Lietuvos archeologia. — 1992. — № 9. — С. 116—119.

85. *Чернявский М. М.* Костяной и роговой инвентарь и оружие из Асовца 2 в северной Беларуси // Каменный век европейских равнин: объекты из органических материалов и структура поселений как отражение человеческой культуры: Матер. Междунар. конф. — Сергиев Посад, 2001. — С. 218—223.

86. *Чернявский М. М.* К проблеме хронологии неолита Беларуси // Проблемы хронологии и этнокультурных взаимодействий в неолите Евразии. — СПб.: РАН ИИМК, 2004. — С. 149—154.

87. Энцыклапедыя прыроды Беларусі. Т. 1. — Мінск: БелСЭ, 1983. — 574 с.

88. *Янитс Л. Ю.* Поселения эпохи неолита и раннего металла в приустье р. Эмайыги (Эстонская ССР). — Таллин: РИСО № 298 АН ЭССР, 1959. — 380 с.

89. *Янитс Л. Ю.* Основные типы костяных орудий неолитических поселений Эстонии // Этнокультурные общности лесной и лесостепной зоны европейской части СССР в эпоху неолита. Материалы и исследования по археологии СССР. Прилож. к сб.—1973. — № 172. — Табл. 58.

90. *Янитс К. Л.* Рыболовство и морской промысел в каменном веке на территории Эстонской ССР // Рыболовство и морской промысел в эпоху мезолита — раннего металла в лесной и лесостепной зоне Восточной Европы. — Л.: Наука, 1991. — С. 25—38.

91. *Bagniewski Z.* W sprawie obróbki surowce rogowego w mezolicie // ACTA universitatis wratislawiensis. № 1378. Studia Archeologicznie XXII. — Wrocław, 1992. — C. 14—33.

92. *Butrimas A.* Šarnelės neolito gyvenvietė. — Vilnius: Diemedžio, 1996. — 223 c.

93. *Girininkas A.* Baltu kulturos istakos. — Vilnius: Savastis, 1994. — 279 c.

94. *Graudonis I.* Archeoloģijas terminu vārdnīca. — Riga: Zinātne, 1994. — 453 c.

95. *Grigalavičienė E.* I tūkstantmečio pr. m. e. Lietuvos piliakalnių kaulo dirbiniai (2. Medžioklės ir žvejybos įrankiai, ginklai) // Lietuvos TSR Mokslų akademijos darbai, A serija. — 1976. — 1 (54) t. — C. 1—56.

96. *Ilkiewicz J.* From studies on cultures of the 4th millennium B. C. in the central part of the polish coastal area // Przegląd Archeologiczny. — 1989. — Vol. 36. — C. 17—55.

97. *Jaanits L.* Die kennzeichnende Züge der Siedlung Tamula // ISKOS. — 1984. — № 4. — C. 183—193.

98. Latvijas PSR Arheologija. — Riga: Zinātne, 1957. — 391 c.

99. Latvijas PSR Arheologija. — Riga: Zinātne, 1974. — 456 c.

100. Libera J. Krzemienne formy bifacjalne na terenach Polski i zachodniej Ukrainy (od środkowego neolitu do wczesnej epoki żelaza). — Lublin: Wydawnictwo Uniwersitetu Marii Curie-Skłodowskiej, 2001. — 336 c.

101. *Loze I.* Jauni materiāli par agro neolitu Lubāna līdzenuma zvidzes apmetne // Latvijas PSR zinbtňu akadēmijas vestis. — 1983. — N. 6 (431). — C. 89—100.

102. Naujausia Lietuvos akmens amžiaus medžiaga (1976—1980). Ataskaitnes parodos katalogas. — Vilnius: LTSR istorijos ir etnografijos muziejaus leidinus, 1980. — 39 c.

103. Prahistoria ziem polskich. T. II. Neolit. — Wrocław; Warszawa; Kraków; Gdańsk: Wydawnictwo Polskiej akademii nauk, 1979. — 452 c.

104. *Rimantienė R.* Šventoji. — Vilnius: Mokslas, 1979. — 188 c.

105. *Rimantienė R.* Šventosios 4-oji radimvietė // Lietuvos Archeologija. — 1996. — № 14. — С. 65—79.
106. *Rimantienė R.* Šventosios 6-oji gyvenvietė // Lietuvos Archeologija. — 1996. — № 14. — С. 83—173.
107. *Szmyt M.* Społeczności kultury amfor kulistych na Kujawach. — Poznań: UAM, 1996. — 330 с.
108. *Szmyt M.* The Absolute (Radiocarbon) Chronology of the Central and Eastern Groups of the Globular Amphora Culturs // The Absolute Chronology of Central Europe 3000—2000 BC. — Poznań; Bamberg; Rahden (Westf.), 2001. — С. 25—80.
109. Typentafeln zur Ur-und Fruhgeschichte. — Weimar, 1972. — 168 с.
110. *Vankina L.* The collection of stone age bone and antler artefacts from lake Lubana. Catalogue. — Riga: N.I.M.S., 1999. — 290 с.
111. *Volkaite-Kulikauskienė R.* Narkūnų didžioso pilikalnio tyrinejimų rezultatai // Lietuvos Archeologia. — 1986. — № 5. — С. 5—48.
112. *Wlodarczak P.* The Absolute Chronology of the Corded Ware Culture in South-eastern Poland // The Absolute Chronology of Central Europe 3000—2000 BC. — Poznan; Bamberg; Rahden (Westf.), 2001. — С. 103—130.
113. *Zagorska I.* Viengabala kaula makšķeres āķi Latvijā // Latvijas PSR zinatņu akademijas vestis. — 1977. — N. 8 (361). — С. 85—102.
114. *Zagorskis F.* Jauni materīāli par neolītu latvijas austrueme daļa // Latvijas PSR zinātņu akadēmijas vēstis. — 1965. — N. 6 (215). — С. 35—50.
115. *Zagorskis F.* Zvejnieku akmens laikmeta kapulauks. — Riga: Zinātne, 1987. — 131 с.

### Архіўныя крыніцы

*(Архіў Інстытута гісторыі НАН Беларусі)*

116. *Прибыткин П. А.* Дневник за 1959 и 1960 гг. Кривина. — № 2125. — 1960. — 86 с.
117. *Прибыткин П. А.* Коллекционная опись за 1960 г. Кривина. — № 2126. — 1960. — 72 с.
118. *Прибыткин П. А., Красковская Е. Г.* Дневник раскопок стоянки «Кривина». 1961, 1962 гг. — № 2127. — 1962. — 154 с.
119. *Прибыткин П. А.* Коллекционная опись. Кривина — Головск. 1961 г. — № 2128.— 1961. — 190 с.
120. *Красковская Е. Г.* Коллекционная опись. Кривина. 1962 г. — № 2129. — 1962. — 44 с.
121. *Красковская Е. Г.* Дневник раскопок торфяниковой стоянки Кривина в 1963 г. Коллекционная опись из раскопок Кривины. 1963 г. — № 2130. — 72 с.
122. *Зайкоўскі Э. М.* Справаздача аб археалагічных даследаваннях у Паўночнай Беларусі ў 1979 г. — № 647. — 1980. — 89 с.
123. *Зайкоўскі Э. М.* Справаздача аб археалагічных даследаваннях у Паўночнай Беларусі. — № 693. — 1981. — 53 с.
124. *Зайкоўскі Э. М.* Справаздача аб палявых даследаваннях у 1981 г. — № 771. — 1982. — 73 с.
125. *Чарняўскі М. М.* Справаздача аб археалагічных даследаваннях у Паўночна-Заходняй Беларусі ў 1966 г. — № 285. — 1967. — 45 с.
126. *Чарняўскі (Чернявский) М. М.* Отчет об археологических исследованиях в 1967 г. — № 317. — 1968. — 48 с.
127. *Чарняўскі (Чернявский) М. М.* Отчет об археологических исследованиях в 1968 г. — № 325. — 1969. — 23 с.
128. *Чарняўскі (Чернявский) М. М.* Отчет об археологических исследованиях Неманского неолитического отряда в 1969 г. — № 342. — 1970. — 28 с.
129. *Чарняўскі (Чернявский) М. М.* Отчет об археологических исследованиях Неманского неолитического отряда за 1972 г. — № 410. — 1973. — 66 с.
130. *Чарняўскі М. М.* Справаздача аб археалагічных даследаваннях у 1973 г. — № 469. — 1974. — 35 с.
131. *Чарняўскі М. М.* Справаздача аб археалагічных даследаваннях у 1976 г. — № 550. — 1977. — 47 с.
132. *Чарняўскі М. М.* Справаздача аб археалагічных даследаваннях у 1977 г. — № 930. — 1978. — 33 с.
133. *Чарняўскі М. М.* Справаздача аб археалагічных даследаваннях у 1978 г. — № 588. — 1979. — 60 с.

134. *Чарняўскі М. М.* Справаздача аб археалагічных даследаваннях у 1979 г. — № 633. — 1980. — 73 с.

135. *Чарняўскі (Чернявский) М. М.* Отчет об археологических исследованиях Неманского неолитического отряда за 1980 г. — 1981 г. — № 694. — 1981. — 57 с.

136. *Чарняўскі М. М.* Справаздача неманскай неалітычнай групы аб даследаваннях археалагічных помнікаў у 1983 г. — № 849. — 1984. — 75 с.

137. *Чарняўскі М. М.* Справаздача аб археалагічных даследаваннях нёманскага неалітычнага атрада ў 1986 г. — № 963. — 1987. — 70 с.

138. *Чарняўскі М. М.* Справаздача аб археалагічных работах, праведзеных нёманскім неалітычным атрадам у 1987 г. — № 1100. — 1988. — 71 с.

139. *Чарняўскі М. М.* Справаздача аб археалагічных даследаваннях у 1988 г. — № 1162.— 1989. — 67 с.

140. *Чарняўскі М. М.* Справаздача аб археалагічных даследаваннях у 1991 г. — № 1401.— 1992. — 48 с.

141. *Чарняўскі М. М.* Справаздача аб палявых археалагічных работах у 1992 г. — № 1429. — 1993. — 59 с.

142. *Чарняўскі М. М.* Справаздача аб палявых археалагічных работах нёманскай археалагічнай групы ў чэрвені—жніўні 1995 г. — № 1591. — 1996. — 56 с.

143. Чарняўскі М. М. Справаздача аб палявых даследаваннях у 1996 г. (Слонімскі р-н Гродзенскай вобл., Баранавіцкі р-н Брэсцкай вобл., Бешанковіцкі р-н Віцебскай вобл., Мядзельскі р-н Мінскай вобл.). — № 1641. — 1997. — 65 с.

144. *Чарняўскі М. М.* Справаздача аб палявых археалагічных работах у 1999 г. — № 1819. — 2000. — 59 с.

145. *Чарняўскі М. М.* Справаздача аб палявых археалагічных даследаваннях у 2000 г. — № 1869. — 2001. — 59 с.

*146. Чарняўскі М. М.* Справаздача аб палявых археалагічных даследаваннях у 2001 г. — № 1930. — 2002. — 59 с.

*147. Чарняўскі М. М.* Справаздача аб палявых археалагічных даследаваннях у 2002 г. — № 2011. — 2003. — 89 с.

148. *Чарняўскі М. М.* Справаздача аб археалагічных даследаваннях у Паўночна-Заходняй Беларусі ў 2003 г. — № 2091. — 2004. — 66 с.

149. *Чарняўскі М. М.* Справаздача аб палявых археалагічных даследаваннях у 2004 г. — № 2199. — 2005. — 96 с.

150. *Чарняўскі М. М.* Справаздача аб палявых археалагічных даследаваннях у басейнах Нёмана, Віліі і Дзвіны ў 2005 г. — № 2270. — 2006 г. — 67 с.

151. *Чарняўскі Макс. М.* Справаздача аб палявых даследаваннях у 2000 г. — № 1871. — 2001. — 34 с.

152. *Чарняўскі Макс. М.* Справаздача аб палявых даследаваннях на Крывінскім тарфяніку ў 2001 г. — № 1931. — 2002. — 46 с.

153. *Чарняўскі Макс. М.* Справаздача аб палявых даследаваннях на Крывінскім тарфяніку ў 2002 г. — № 2009. — 2003. — 55 с.

154. *Чарняўскі Макс. М.* Справаздача аб палявых даследаваннях на Крывінскім тарфяніку ў 2003 г. — № 2092. — 2004. — 95 с.

# РЕЗЮМЕ

## Костяные и роговые изделия на поселениях Кривинского торфяника

## (неолит — бронзовый век)

За время исследования памятников Кривинского торфяника (1934—2005 гг.) выявлено 999 костяных и роговых изделий и их фрагментов. Это самая большая коллекция данного вида на территории Беларуси и одна из наиболее богатых по своему составу на территории всей Восточной Европы. Основной причиной традиционно массового использования изделий данного вида в регионе являлась нехватка кремня, из-за чего местное население искало альтернативные виды сырья. Такое положение на территории Белорусского Поозерья сохранялось вплоть до железного века включительно.

В данной работе проанализированы две категории костяных и роговых изделий, обнаруженных на стоянках Кривинского торфяника (категория художественных и культовых изделий, музыкальных инструментов оставлена за рамками исследования): 1) орудия охоты и рыболовства; 2) орудия труда и быта. Среди них нами выделено 25 классов изделий. Для орудий охоты и рыболовства это: наконечники стрел (159 экземпляров[12]), наконечники копий (12), кинжалы (40), наконечники гарпунов (35), крючки рыболовные (25), «крюки» рыболовные (9), жерлицы — игловидные изделия небольшого размера (6 экземпляров). Для орудий труда и быта это: топоры (83), тесла (9), долота (25), лопата (1), проколки (160), отжимники (33), ретушеры (8), шпатели (10), орнаментиры (12), «рыбные» ножи (81), резец из целого клыка медведя (1), ложки (4), рукоятка (1), подтреугольные небольшие изделия уплощенного сечения (3), колющие изделия из отростков рогов (14), муфта (1), изделия из лосиного рога с сохраненным отростком и частью лопаты (4), скобляще-режущие из нижних челюстей бобров со сбитыми крючковидными отростками (2).

263 артефакта составляют группу неопределимых фрагментов изделий и заготовок.

Хронологически и культурно костяные и роговые изделия Кривинского региона распределились следующим образом (рис. 67, 68).

**Ранний неолит (ранний этап нарвской культуры — 4-е тыс. до н. э.).** Для наконечников стрел этого времени характерны: все типы биконических простых с насадом и вытянутых пиковидных с выделенным черешком, фрагменты игловидных. Наконечники гарпунов: одно- и двузубые изделия. Для кинжалов: изделия из локтевых костей с сохраненным эпифизом, возможно использование ланцетовидных с выделенной рукояткой. Из орудий труда и быта использовались: топоры из нерасщепленных фрагментов отростков рогов, тесла роговые топоровидные из расщепленных массивных трубчатых костей, проколки из грифельных и расщепленных трубчатых

[12] Тут и далее — с учетом заготовок и фрагментов изготовления.

